




# ТАТАРЫ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ

3. 1993

بسم الله الرحمن الرحيم

БІСМІ АЛЛАГІ АР-РАГМАНІ АР-РАГІМ

# БАЙРАМ

## ТАТАРЫ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ

КВАРТАЛЬНІК
БЕЛАРУСКАГА ЗГУРТАВАННЯ ТАТАРАЎ-МУСУЛЬМАН
«АЛЬ-КІТАБ»

№ 3

МЕНСК 1993



На вокладцы:

ВАІЗА МАРЫДТУ ВАХОВА ЯШФІН

КАЛІ Я ЗАХВАРЭЮ, ТОЛЬКІ ЁН МЯНЕ ВЫЛЕЧЫЦЬ

Рэдактарская група: І.Александровіч,
Г.Більдзюкевіч,
В.Вайткевіч,
І.Канапацкі,
Н.Мазоўка,
Г.Шувалкіна.

# БАЙРАМ

Татары на зямлі Беларусі

Надрукавана у Навагрудку

Салям алейкум, паважаныя спадарыні і спадары !

Нямала падзей адбылося у жыцці татарау-мусульман за апошнія тры месяцы. Спачатку раскажам пра падзеі прыемныя. Летні лагер мусульманскай вучобы і адпачынку для дзяцей і моладзі прайшоу даволі удала. Дзеці пазнаёміліся з мусульманскім стылем жыцця, парадавалі сваімі поспехамі у мусульманскай вучобе сваіх бацькоу, асабліва дзядуль і бабуль, якія пачулі ад сваіх унукау і унучак такія дарагія словы малітвау, якія яны чулі даунымдауно ад сваіх бацькоу.

Прыемна адзначыць, што свята Курбан-Байрам урачыста святкавалі у Клецку і Сандыкоушчыне. Было ахвярапрынашэнне і па-мусульманску людзі прыгатавалі святочную яду.

Яшчэ адна добрая навіна — аднауленне дзейнасці мячэці у Навагрудку. Доугая барацьба мусульман Навагрудскага джаміяту з дапамогай Аллага паспяхова завяршылася. У свята Мяулюд у мячэці адбылося першае багаслужэнне. Імамам быу Алі Рафаловіч. Памаліцца прышлі дзесяткі пажылых людзей, прышлі і маладзейшыя, якія упершыню маліліся у мячэці. Многія вернікі так расчуліліся ад гэтай падзеі, што на вачах былі слёзы.

З вялікім задавальненнем паведамляем вам, што у Глыбокім і Смілавічах створаны мусульманскія абшчыны — джаміяты.

Беларускае згуртаванне татарау-мусульман "Аль-Кітаб" не замыкаецца толькі у сваім коле інтарэсау. У вялікай падзеі — Першым з"ездзе беларусау свету у якасці дэлегатау прынялі удзел Муса Канапацкі ( ён сын мінчука Гасана Канапацкага — патрыёта Беларусі. За актыуны удзел у жыцці гданьскіх беларусау Мусу і паслалі дэлегатам у Менск ), Алег Гізатулін( ураджэнец Беларусі, актыуны дзеяч беларускага згуртавання у Малдове, добра ведае родную беларускую мову, вось чаму яго і абралі беларусы сваім дэлегатам ), Ібрагім Канапацкі ( віцэ-прэзідэнт згуртавання "Аль-Кітаб", дауно па-беларуску чытае лекцыі па гісторыі у педінстытуце ). Шмат папрацавала на беларускім тэлебачанні татарка Тамара Муха для таго, каб тэлегледачы пазнаёміліся з работай Першага з"езда беларусау у Менску.

Разам з усімі беларусамі, з навуковай грамадскасцю рэспублікі мы адзначаем 110-годдзе з дня нараджэння выдатнага дзеяча Вацлава Ластоускага і 75-годдзе з дня нараджэння Фёдара Янкоу-

скага. Гэтыя вучоныя шмат зрабілі для беларускай навукі і культуры. Яны вельмі істотна дачыніліся да культуры беларускіх татар. Глыбей і раней за іншых даследчыкаў Вацлаў Юсцінавіч і Фёдар Міхайлавіч ацанілі татарскія Аль-Кітабы як крыніцы, дзе захаваліся ўсе асаблівасці беларускай гутарковай мовы 16 — 17 стагоддзяў. Мова беларусаў тых часоў чысцюткая і зусім зразумелая і так адрозніваецца ад мовы афіцыйных дакументаў таго часу, як адрозніваецца мова беларускага пісьменніка ад канцылярскай мовы сучаснага "рускоговорящего". Гэтыя славутыя вучоныя знаходзілі маладых таленавітых хлопцаў і накіроўвалі іх на вывучэнне Аль-Кітабаў. І гэта крыніца пазнання беларускай мовы яшчэ не вычарпана. Вацлаў Ластоўскі і Фёдар Янкоўскі клапаціліся, каб татарскія юнакі маглі атрымаць вышэйшую адукацыю і развіваць татарскую культуру. Чэсць іх памяці !

Апошнім часам у беларускім друку было некалькі публікацый пра татар ( у наступным нумары "Байрама" будзе дадзены падрабязны агляд ). Нам захацелася даць два фрагменты з вельмі цікавага артыкула спадара Міхася Маліноўскага з Баранавічаў. У часопісе "Беларуская думка" № 7 за 1993 г. між іншым аўтар адзначае: " ... У славутай бітве пад Грунвальдам ( сучасныя летувісы завуць гэта месца Жальгірысам) вызначыліся і татары. На нашай мове сёння Грунвальд ( былое найменне Грунфельд. — М.М. ) гучыць як Зялёны Гай. Так што, правільна было б напісаць пра гэтую бітву народаў так: "У бітве народаў пад Дуброўна, ці Зялёным Гаем, аб"яднанае войска Літоўскай Русі і Кароны Польскай пры ўдзеле вугорскіх і чэшскіх атрадаў і 40-тысячнай конніцы татараў нанесла сакрушальны ўдар крыжакам". У іншым месцы у гэтым артыкуле сказана: "...Як піша вучоны Алег Лойка: "Далёкія продкі А.Гурыновіча — па бацькавай лініі — былі выхадцамі з Аравіі, татарамі-мусульманамі і мелі прозвішча Гурын. Маці была з гетманскага роду Сяняўскіх. Род Гурыновічаў, вядомы яшчэ з 15 ст., быў славутым у Беларусі шляхецкім родам, і, мабыць, не без гордасці за яго малады Адам Гурыновіч высякаў на камені родавы герб "Праўдзіц" ( ... )".

Родных і блізкіх, згуртаванне "Аль-Кітаб" засмуціла непапраўнае гора — смерць нашых мусульманак, з якімі мы так нядаўна сустракаліся, размаўлялі, планавалі будучае ...

Якуб Якубоўскі

## У ЗГУРТАВАННІ "АЛЬ-КІТАБ"

17 верасня 1993 г. у Менску адбылося паседжанне праўлення Беларускага згуртавання татараў-мусульман "Аль-Кітаб" з удзелам прадстаўнікоў Цэнтра татарскай культуры г.Гродна. Прысутнічалі прадстаўнікі большасці мусульманскіх джаміятаў Беларусі.

Заслухана інфармацыя і ўхвалена дзейнасць Цэнтра татарскай культуры ў г.Гродна. У ходзе абмеркавання дзейнасці Гродзенскага джаміяту большасцю прысутных было прызнана, што Алі і Юсуф Крыніцкія не мелі права абвяшчаць аб стварэнні мухтасібату і выступаць ад імя усіх татар Беларусі, бо у стварэнні мухтасібату прынялі удзел мусульмане Гродзенскага, Лідскага, Астрынскага і Сандыкоўшчынскага джаміятаў, прычым два апошнія вельмі малалюдныя. Абвешчаная Юсуфам Крыніцкім дапамога для бедных нямоглых мусульман, якую акажа багаты арабскі мусульманін, не мае дастатковых падстаў. Многія і многія бедныя мусульмане звяртаюцца у мусульманскія джаміяты і "Аль-Кітаб", спасылаюцца на паведамленне у сродках масавай інфармацыі і пытаюць: " А дзе я атрымаю тыя 100 долараў, якія мне належаць ?" Паводле слоў Юсуфа Крыніцкага дапамога ужо аказана тром чалавекам, а больш сродкаў пакуль няма.

Большасць прысутных на паседжанні прызнала, што дзейнасць Алі і Юсуфа Крыніцкіх не адпавядае этыцы мусульманіна і што учынкі іх будуць разгледжаны і абмеркаваны на чарговым з"ездзе мусульман Беларусі, які мае адбыцца у лістападзе 1993 г. ў Менску.

Былі зацверджаны настаўнікі для мусульманскіх нядзельных школ у Іўі, Гродна, Лідзе, Слоніме, Клецку, Навагрудку і Смілавічах.

Праўленне згуртавання "Аль-Кітаб"

# КУР"АН

## Сура Аль-Імран

## (працяг)

66. О людзі, якія маюць Пісанне, навошта вы спрачаецеся аб Ібрагіме, калі Тора і Евангелле былі абвешчаны толькі пасля яго ? Няўжо вы не можаце зразумець ?

67. Глядзіце, вы спрачаліся аб тым, аб чым былі у вас веды. Чаму ж спрачаецеся вы цяпер аб тым, аб чым у вас няма ніякіх ведаў ? Аллаг ведае, а вы не ведаеце.

68. Ібрагім не быў ні іудзеем, ні хрысціянінам, але ён заўсёды звяртаўся да Аллага і быў паслухмяны Яму, не быў ён з тых, хто далучае яшчэ нейкіх багоў да Аллага.

69. Ісцінна, бліжэйшыя да Ібрагіма ёсць тыя людзі, якія ішлі за ім, і прарок гэты, і вернікі; і Аллаг — апякун над вернікамі.

70. Частка людзей, якія маюць Пісанне, імкнуцца ўвесці вас у зман, але нікога не ўвядуць яны ў зман, акрамя саміх сябе, але яны не разумеюць.

71. О людзі, якія маюць Пісанне, чаму адкідваеце вы знакі Аллага, калі вы сведкі іх ?

72. О людзі, якія маюць Пісанне, чаму блытаеце вы ісціну з няпраўдай і наўмысна ўтойваеце ісціну ?

73. І частка людзей, якія маюць Пісанне, гавораць:"Верце таму, што было адкрыта вернікам у пачатку дня і не верце ў канцы дня; быць можа, яны вернуцца,

74. І не падпарадкоўвайцеся нікому, акрамя таго, хто ідзе дарогай простай": — скажы: сапраўды, ісціннае павучанне— павучанне Аллага, ёсць тое, якое будзе падобна на тое, што дадзена табе — ці ж будуць яны прачацца з вамі перад Уладаром вашым". Скажы: "Усе шчодрасці ў руцэ Аллага. Ён дарue іх таму, каму пажадае. І Аллаг Шчодры, Усявед.

(سورة ال عمران)

يَٰٓأَهْلَ ٱلْكِتَٰبِ لِمَ تُحَآجُّونَ فِىٓ إِبْرَٰهِيمَ وَمَآ
أُنزِلَتِ ٱلتَّوْرَىٰةُ وَٱلْإِنجِيلُ إِلَّا مِنۢ بَعْدِهِۦٓ ۚ أَفَلَا
تَعْقِلُونَ ﴿٦٥﴾ هَٰٓأَنتُمْ هَٰٓؤُلَآءِ حَٰجَجْتُمْ فِيمَا لَكُم
بِهِۦ عِلْمٌ فَلِمَ تُحَآجُّونَ فِيمَا لَيْسَ لَكُم بِهِۦ
عِلْمٌ ۚ وَٱللَّهُ يَعْلَمُ وَأَنتُمْ لَا تَعْلَمُونَ ﴿٦٦﴾ مَا كَانَ
إِبْرَٰهِيمُ يَهُودِيًّا وَلَا نَصْرَانِيًّا وَلَٰكِن كَانَ حَنِيفًا
مُّسْلِمًا وَمَا كَانَ مِنَ ٱلْمُشْرِكِينَ ﴿٦٧﴾ إِنَّ أَوْلَى
ٱلنَّاسِ بِإِبْرَٰهِيمَ لَلَّذِينَ ٱتَّبَعُوهُ وَهَٰذَا ٱلنَّبِىُّ
وَٱلَّذِينَ ءَامَنُوا۟ ۗ وَٱللَّهُ وَلِىُّ ٱلْمُؤْمِنِينَ ﴿٦٨﴾ وَدَّت
طَّآئِفَةٌ مِّنْ أَهْلِ ٱلْكِتَٰبِ لَوْ يُضِلُّونَكُمْ وَمَا يُضِلُّونَ

Кур"ан. Сура Аль-Імран, аяти 65 — 68

75. "Ён выбірае каго захоча для міласці Сваей. І Аллаг ёсць Уладыка перапоўненых шчадрот".

76. Сярод людзей, якія маюць Пісанне, бывае такі, які, калі ты даверыш яму скарб, верне яго табе; і ёсць сярод іх такі, які, калі ты даверыш яму дынар, не верне яго табе, калі ты не будзеш стаяць над ім. Гэта таму, што яны кажуць: "Мы не падлягаем асуджэнню ў адносінах да людзей не нашай веры". Яны свядома ілжыва сведчаць супроць Аллага.

77. Не, не кожны, хто выконвае абяцанне і баіцца Аллага — сапраўды, любіць Аллаг богапаслушных.

78. Што датычыцца тых, каторыя бяруць нікчэмную плату ўзамен дамовы з Аллагам, і за клятвы свае, няма ім долі ў будучым жыцці, і Аллаг не звернецца да іх са словам і не паглядзіць на іх у Дзень Уваскрашэння, і не ачысціць іх; і суровая кара чакае іх.

79. І сапраўды, ёсць сярод іх такія, якія скажаюць Пісанне, чытаючы яго ўголас, каб падумалі вы, што гэта частка Пісання, калі гэта не з'яўляецца часткай Пісання. І яны кажуць: "Гэта — ад Аллага", тады як гэта не ад Аллага; і яны свядома ілжыва сведчаць супроць Аллага.

80. І немагчыма, каб чалавек, якому даў Аллаг Пісанне і ўладу і прароцкую мудрасць, сказаў людзям: "Будзьце вы слугамі мне, а не Аллагу": але скажа ён: "Будзьце вернымі толькі аднаму Уладыку, бо вы вучыце людзей Пісанню і вы вывучаеце Пісанне".

81. Немагчыма таксама для яго, каб ён казаў вам лічыць ангелаў і пракокаў за Уладык. Ці ж будзе ён заклікаць вас да няверʼя пасля таго, як вы пакарыліся Аллагу.

82. І ўспомніце час, калі Аллаг прыняў запавет ад людзей праз пракокаў, кажучы: "Я ўручаю вам Пісанне і мудрасць, пасля ж прыйдзе да вас Пасланнік, які пацвердзіць ісціннасць таго, што з вамі. Вы верце ў яго і дапамагайце яму". І сказаў Ён: "Ці згодны вы, ці прымаеце вы адказнасць, якую Я накладваю на вас у гэтым ?" Яны сказалі: "Мы згодны": Ён сказаў: "Тады засведчыце, і Я буду з вамі сярод сведак".

83. А тыя, хто адвернецца пасля гэтага, — тыя — распуснікі.

84. Няўжо яны імкнуцца да іншай веры, чым вера Аллага, калі Яму аддаліся тыя, што ў небе і на зямлі, дабраахвотна ці нявольна, і да Яго мы будзем вернуты.

85. Скажыце: "Мы верым у Аллага і ў тое, што было адкрыта нам, і ў тое, што было адкрыта Ібрагіму і Ісмаілу і Ісгаку, Якубу і іх паслядоўнікам, і у тое, што было дадзена Мусе і Ісе і іншым прарокам ад Уладыкі іх. Не робім мы розніцы паміж імі, і Яму мы пакараемся.

86. Хто ж шукае іншую чым Іслам веру, ад таго не будзе прынята, і ён у вечным жыцці будзе сярод тых, хто страціць.

87. Як Аллаг будзе весці дарогай простай людзей, якія адцураліся пасля таго, як яны ўвераваді і засведчылі, што пасланнік — ісціна, і прыйшлі да іх ясныя знакі ?

88. Узнагародаю такім будзе праклянцце Аллага, і ангелаў, і усіх людзей.

89. І будзе яно ляжаць на іх. Не будзе аблегчана ка́ра іх, і не будзе ім даравання:

90. Акрамя тых, якія раскаяцца пасля таго і выправяцца. І сапраўды, Уседаравальны Міласэрны Аллаг.

91. Сапраўды, тыя, хто упадаюць у нявер"е пасля таго, як увераваді, і ўмнажаюць нявер"е сваё, не будзе прынятым раскаянне іх, і яны збіліся з дарогі.

92. Сапраўды, тыя, якія не ўвераваді і памерлі, будучы няверными, не будзе прынята ні ад каго з іх нават зямля, паўнюткая золатам, нават калі б ён захацеў выкупіць сябе гэтым. Для іх — суровае пакаранне, і няма тых, хто б ім дапамог.

93. Ніколі не дасягнуць вам праведнасці, калі не будзеце траціць з таго, што дорага вам; і што б вы ні ахвяравалі, сапраўды, Аллагу пра гэта ведама.

94. Усялякая яда была дазволена сынам Ізраіля, акрамя той, што Ізраіль забараніў сам сабе раней, чым была паслана Тора. Скажы: "Прынясіце ж Тору і чытайце яе, калі вы праўдзівыя".

95. Цяпер кожны, хто сплятае ману супроць Аллага пасля гэтага, той робіць зло.

96. Скажы: "Праўду кажа Аллаг. Ідзіце ж за верай Ібрагіма, які верыў у аднаго Аллага. Ён не быў шматбожнікам.

97. Сапраўды, першы храм, пабудаваны для роду чалавечага ў Бекке, напоўнены боскай ласкай і настаўленнем для ўсіх людзей.

98. Там — ясныя знакі для людзей — месца Ібрагіма, і той, хто ўступіў у яго, у бяспецы. А людзям абавязак перад Аллагам — хадж да гэтага храма, для тых, хто ў стане здзейсніць падарожжа да яго. А хто не верыць, няхай памятае, што Аллаг, сапраўды, не залежыць ад усякага стварэння.

99. Скажы: "О людзі, якія маюць Пісанне, чаму вы адмаўляеце знакі Аллага, калі Аллаг пільна сочыць за вашымі справамі ?

I00. Скажы: "О людзі, якія маюць Пісанне, чаму адхіляеце вы вернікаў ад шляху Аллага, стараецеся сказіць яго, між тым як вы сведкі Яго. І Аллаг не забывае паступкаў вашых.

I0I. О вы, вернікі, калі будзеце слухаць пэўнай секты сярод тых, хто атрымаў Пісанне, то яны зноў ператвораць вас у няверных, пасля таго як вы ўжо ўверавалі.

I02. Як можаце вы не верыць, калі абвешчаныя вам знакі Аллага і пасланнік Яго сярод вас ? І той, хто моцна трымаецца за Аллага, сапраўды, ідзе дарогай простай.

I03. О вы, вернікі, бойцеся Аллага належным страхам да Яго; і не дайце смерці заспець вас знянацку інакш, як у стане пакоры.

I04. І трымайцеся моцна, усе разам, і не раздзяляйцеся, і помніце міласць Аллага вам, калі вы былі між сабой ворагамі, а Ён з"яднаў вашы сэрцы, і вы сталі па Яго міласці братамі; і былі вы на краі вогненнай бездані, і Ён выратаваў вас ад яе. Так тлумачыць вам Аллаг свае знакі, — можа быць, вы пойдзеце дарогай простай.

I05. І няхай будзе сярод вас абшчына людзей, якая заклікае да дабра, прапаведвае справядлівасць і забараняе тое, што з"яўляецца злом. Такія будуць шчаслівымі.

I06. І не будзьце падобнымі на тых, якія раздзяліліся і пасварыліся паміж сабою пасля таго, як ясныя доказы былі ім пасланы. Для такіх прызначана вялікая кара.

I07. У дзень, калі твары адных будуць белымі і твары другіх будуць чорнымі, будзе сказана тым з чорнымі тварамі: "Ці вы сталі няверными, хоць перад тым увераваліі ? Пакаштуйце ж кару за тое, што не верылі !

I08. А тыя, чые твары будуць белымі, знойдуць яны міласць Аллага: яны там будуць знаходзіцца назаўседы.

I09. Такія знакі Аллага. Мы падаем іх табе, і ў іх заключаецца ісціна; і Аллаг не хоча несправядлівасці для светаў.

II0. І Аллагу належыць усё, што ёсць на небе, што ёсць на зямлі, і ўсе справы будуць аддадзены на рашэнне да Аллага.

III. Вы з"яўляецеся найлепшым народам, створаным для дабра рода чалавечага; вы заклікаеце да дабра і забараняеце зло і верыце ў Аллага. І каб людзі, якія маюць Пісанне, уверавалі, то, сапраўды, было б лепш для іх. Ёсць сярод іх вернікі, але большасць з іх неслухі.

II2. І не ў моцы іх зрабіць вам зло, акрамя невялікай прыкрасці; і калі яны змагаюцца супроць вас, то павернуць яны да вас спіны свае. Тады не будзе ім дапамогі.

II3. Дзе б яны ні былі, яны будуць уніжаны, калі няма ў іх аховы ад Аллаха і аховы ад людзей. Яны наклікалі на сябе гнеў Аллага і ўбоства будзе іх удзелам. Бо адкідвалі яны знакі Аллага і збівалі прарокаў. Бо яны збунтаваліся і тварылі беззаконне.

II4. Не ўсе аднолькавыя яны. Ёсць сярод людзей, якія маюць Пісанне, такія, каторыя трымаюцца запавету свайго; яны чытаюць слова Аллага ноччу і кладуць яму паклоны.

II5. Яны вераць у Аллага і Судны Дзень і заклікаюць да дабра і забараняюць зло і спяшаюцца рабіць добрыя ўчынкі, спаборнічаючы адзін з другім. І такія -- сярод праведнікаў.

II6. І якое б дабро яны ні рабілі, не будзе адмоўлена ім у належнай узнагародзе, і Аллаг добра ведае богабаязных.

( працяг будзе )

## ЗІКР — СВЯТОЧНАЯ МАЛІТВА

У дзень вялікага гадавога свята Курбан-Байрам а шостай гадзіне раніцы збіраюцца студэнты з мусульманскіх краін на намаз. Калі набярэцца 20 — 30 вернікаў, то яны, усеўшыся радамі-сафамі на намазлыках і посцілках, пачынаюць рэцытаваць зікр. Да іх далучаюцца тыя, хто дабраўся пазней. Добрыя словы, рытм і матыў паступова агортваюць свядомасць чалавека. Адыходзяць думкі пра побытавыя дробязі, пра тое, што зроблена і што не зроблена. Вернік пачынае думаць пра вечнае. Адпраўляюць нама.. і слухаюць хутбу імама вернікі з найвялікшай увагай.

Наш добры мусульманін Ісмаіл Александровіч запісаў зікр па-арабску арабскімі літарамі, а для тых, хто не надта добра ведае арабск.ю графіку — беларускімі літарамі перадаў арабскія гукі. Арабскія студэнты пераклалі гэты зікр на беларускую-мову. Засталося толькі "Байраму" надрукаваць святочны зікр на сваіх старонках, каб пазнаёміліся і вывучылі гэтыя словы ўсе нашы вернікі.

بسم الله الرحمن الرحيم

الله اكبر الله اكبر لا اله الا الله ❀ الله اكبر

الله اكبر الله اكبر ولله الحمد ❀ الله اكبر كبيرا ❀

والحمد لله كثيرا ❀ وسبحان الله وبحمده بكرة واصيلا ❀

لا اله الا الله وحده نصر عبده واعز جنده وهزم الاحزاب

وحده ولا شيء قبله ولا شيء بعده مخلصين له الدين

وَلَوْكَرِهَ ٱلْكَافِرُونَ ❀ اَللّٰهُمَّ صَلِّ عَلَى سَيِّدِنَا مُحَمَّدٍ وَعَلَى

آلِ سَيِّدِنَا مُحَمَّدٍ وَعَلَى أَزْوَاجِ سَيِّدِنَا مُحَمَّدٍ وَعَلَى أَتْبَاعِ

سَيِّدِنَا مُحَمَّدٍ وَعَلَى أَصْحَابِ سَيِّدِنَا مُحَمَّدٍ وَسَلِّمْ تَسْلِيمًا

كَثِيرًا ❀

БІСМІ АЛЛАГІ АР-РАГМАНІ АР-РАГІМ

АЛЛАГУ АКБАР АЛЛАГУ АКБАР АЛЛАГУ АКБАР ЛЯ ІЛЯГА ІЛЛЕЛ-ЛАГУ. АЛЛАГУ АКБАР АЛЛАГУ АКБАР АЛЛАГУ АКБАР ВА ЛІЛЛЯГІЛЬ ХАМДУ. АЛЛАГУ АКБАР КЯБІРАН. УАЛЬХАМДУ ЛІЛЛЯГІ КЯС̄ЫРАН. ВА СЮБХАНАЛЛАГІ ВА БІХАМДЫГІ БУКРАТАН ВА АСЫЛЯН. ЛЯ ІЛЯГА ІЛЛЕЛ-ЛАГУ ВАХДАГ, НАСАРА А́БДАГ, ВА А'АЗЗЯ ДЖУНДАГ ВА ГАЗАМА ИЛЬ-АХЗАБА ВАХДАГ, ВА ЛЯ ША́ЙА КАБЛЯГ, ВА ЛЯ ША́ЙА БАУДАГ МУХЛІСЫНЯ ЛЯГУ-ДДЫНЯ ВА ЛЯЎ КЯРЫГА АЛЬ-КЯФІРУН. АЛЛАГУМЕ САЛЛІ А́ЛЯ САЙІДЫНА МУХАММАД, ВА А́ЛЯ АЛІ САЙІДЫНА МУХАММАД, ВА А́ЛЯ АЗЬВАДЖЫ САЙІДЫНА МУХАММАД, ВА А́ЛЯ АТБАЫ САЙІДЫНА МУХАММАД, ВА А́ЛЯ АСХАБІ САЙІДЫНА МУХАММАД, ВА САЛЛЕМ ТАСЛІМАН КЯС̄ЫРАН.

---

А́ — мяккае А ( аін ), С̄ — вымаўляецца, калі язык паміж верхнімі і ніжнімі зубамі.

---

У ІМЯ АЛЛАГА МІЛАСЦІВАГА, МІЛАСЭРНАГА

АЛЛАГ ВЫШЭЙ ЗА ЎСЁ, АЛЛАГ ВЫШЭЙ ЗА ЎСЁ, АЛЛАГ ВЫШЭЙ ЗА ЎСЁ. НЯМА БОГА АКРАМЯ АЛЛАГА. АЛЛАГ ВЫШЭЙ ЗА ЎСЁ, АЛЛАГ ВЫШЭЙ ЗА ЎСЁ, АЛЛАГ ВЫШЭЙ ЗА ЎСЁ І ХВАЛА АЛЛАГУ.

АЛЛАГ ВЯЛІК І ВЫШЭЙ ЗА ЎСЁ, МНОГА ХВАЛЫ АЛЛАГУ. СВЯТЫ ЁН. І ХВАЛА ЯМУ ЗРАНКУ І ЎВЕЧАР. НЯМА БОГА АКРАМЯ АЛЛАГА, АДЗІНАГА. ДАЎ СВАЙМУ РАСУЛУ ПЕРАМОГУ І МОЦ СВАІМ ВОІНАМ. І ПЕРАМОГ НЯВЕРНЫХ АДЗІН.

НІЧОГА НЕ БЫЛО РАНЕЙ ЗА ЯГО І НІЧОГА НЕ БУДЗЕ ПАСЛЯ ЯГО. МЫ ВЕРНЫЯ ЯМУ У СВАЁЙ ВЕРЫ НАВАТ ТАДЫ, КАЛІ НЯВЕРНЫМ ГЭТА НЕНАВІСНА.

БЛАСЛАВІ, О АЛЛАГ, МУХАММЕДА І СЯМ"Ю ЯГО, І ЖОНАК ЯГО, І ТЫХ, ХТО ІДЗЕ ЗА ІМ, І ПАПЛЕЧНІКАЎ ЯГО. І МІР І МНОГА МІРУ.

# АХІРЭТ — ЗАМАГІЛЬНАЕ ЖЫЦЦЁ

Ці існуе ці не існуе жыццёвы шлях пасля смерці — гэтае пытанне не з"яўляецца прадметам навуковага вывучэння, бо навука класіфікуе і аналізуе веды, якія атрыманы праз органы пачуццяў. Трэба мець на ўвазе, што чалавек займаецца навуковымі даследаваннямі ў сучасным сэнсе слова на працягу некалькі апошніх стагоддзяў. А паняцце аб замагільным жыцці вядома людзям з прадаўніх часоў.

Да гэтай пары пракрокі Аллага заклікалі свае плямёны і народы да пакоры перад Ім і ўнушалі сваім паслядоўнікам веру ў замагільнае жыццё. Расулы ( пасланцы Аллага ) лічылі нават самае малое сумненне ў яго існаванні адступніцтвам ад Аллага. Пасланнікі Аллага нараджаліся і жылі ў розныя часы, іх раздзялялі тысячагоддзі, але гэтае метафізічнае пытанне ўсе Расулы адказваюць выразна аднымі і тымі ж словамі, без аніякіх адрозненняў. Гэта можна лічыць яўным доказам, што яны ведаюць аб наяўнасці замагільнага жыцця з адной і той жа крыніцы — адкрыцця Аллага. Яны самі гэта адзначылі. Мы ведаем таксама, што гэтыя пракрокі сустракалі сур"езную апазіцыю сярод сваіх плямён, якія лічылі неверагодным жыццё ў ахірэце. Нягледзячы на гэта, у прарокаў было многа шчырых паслядоўнікаў. Паўстае пытанне, чыму гэтыя людзі, рызыкуючы быць ізаляванымі сваімі народамі, не звярталі ўвагу на свае традыцыйныя вераванні і звычаі ? Самы просты адказ, што яны кіраваліся розумам і пачуццём. Так яны пераадолелі свае памылковыя погляды. Можа яны спасцiглі ісціну пры дапамозе сваіх органаў пачуццяў ? Не! Бо замагільнае жыццё немагчыма назіраць і эксперыменціраваць. Акрамя адчування і ўспрыняцця Аллаг надзяліў чалавека разумовымі, эстэтычнымі і маральнымі ведамі. Таму да ісцін, якія не могуць быць пазнаны органамі пачуццяў, яго вядуць веды і ўсведамленне. Заклікаючы свае плямёны і народы да веры ў Аллага і замагільнае жыццё-ахірэт, прарокі спасылаюцца на гэтае эстэтычнае, маральнае ўсведамленне і роздум. Напрыклад, калі політэісты ( мнагабожнікі ) у горадзе Мекка не верылі ў замагільнае жыццё, Кур"ан абверг іх доказы лагічнымі меркаваннямі і развагамі:

"Няўжо чалавеку невядома, што Я стварыў яго з семя. Забыўшы усё гэта, ён у ярасці спяшаецца спытаць: а хто ўзновіць іх косці, якія згнілі ? І робіць гэта як бы доказам! Скажы яму: іх узновіць Той, Хто іх стварыў. Ён можа стварыць усё. Можа здабыць іскру з зялёнага дрэва і ўзяць адтуль агонь. Той, хто стварыў зямлю і неба, няўжо не можа стварыць людзей ? Можа, вядома! Бо Ён можа стварыць і можа ведаць усё!" ( Сура Я-Сін, аяты 77 — 81 ).

Кур"ан і ў другім месцы зусім выразна адзначае, што няверныя не маюць ніякіх падстаў адмаўляць існаванне замагільнага жыцця. Гэтыя меркаванні грунтуюцца толькі на сумненні.

"Жыццё існуе толькі на гэтым свеце. Мы жывём, пасля паміраем. Праходзіць час і прыводзіць нас да смерці" — кажуць яны. Гэта не падмацавана навукай. Проста так яны лічаць. Калі ім чытаюць нашы аяты, яны прыводзяць наступныя доказы: "Калі вы кажаце праўду, то дзе нашы бацькі ?" ( Сура Укленчаныя, аяты 23 і 24 ).

Зразумела, Аллаг верне да жыцця усіх нябожчыкаў. Настане такі час, калі увесь сусвет разбурыцца ( кіямет ), і ў гэты дзень усе памерлыя з"явяцца перад Аллагам. Гэты дзень будзе пачаткам бясконцага жыцця. У гэты дзень кожны атрымае належнае ад Аллага за свае добрыя і дрэнныя учынкі. Пры тлумачэнні замагільнага жыцця ( ахірэту ) Кур"ан звяртаецца да маральнага усведамлення чалавека. Сапраўды, без ахірэту вера ў Аллага страчвае частку свайго сэнсу. Чалавек, які верыць у Аллага, ведае, што верыць у Бога, які нясупынна цікавіцца ім, які неабыякавы Яму. Аллаг жа справядлівы. Ён пакарае дэспатаў, якія забіваюць бязвінных людзей, каторыя для асабістай выгоды ствараюць беспарадкі ў грамадстве, ператвараюць у рабоў людзей, праяўляюць лютасць.

Чалавечае жыццё параўнальна кароткае, ды і жыццё тут не вечнае, таму людзі не могуць атрымаць належную ўзнагароду ці адплату за свае добрыя і дрэнныя учынкі. Кур"ан з асаблівай настойлівасцю адзначае неабходнасць ацэнкі дзейнасці чалавека пры жыцці. У гэты дзень Аллаг у адпаведнасці з учынкамі скажа сваё слова пра кожнага чалавека.

"Тыя, хто адмаўляе, сказалі: "Для нас не настане кіямет". Скажы: "Няпраўда! Клянуся імем Аллага, Які ведае усё. Гэты дзень для нас настане. На зямлі і ў небе нават пылінка ў небе і на зямлі, і меншая за яе, і большая, каб аддаць належнае тым, якія уве-

равалі і рабілі добрае, -- для іх дараванне і будуць узнага - роджаны". ( Сура Саба, аяты 3 і 4)).

Судны Дзень настане, калі будзе выкарыстаны крытэрый справядлівасці і міласэрнасці Аллага. Кожны, хто веры у гэтае імгненне і у імя Аллага, цярпліва зносіу нягоды, будзе шчодра узнагароджаны. Той, хто у зямным жыцці пагарджау думкай аб ахірэце і няўдзячна карыстауся дабротамі, сурова паплоціцца за гэта.

Вось як супастауляе Кур"ан гэтыя дзве асобы: "Чалавек, які атрымлівае ад Мяне абяцаныя даброты, наурад ці можа быць параўнаны з тым, хто у дзень кіямету будзе падвергнуты пакаранню ?" ( Сура Апавяданне, аят 61 ).

Куран адзначае, што зямное жыццё кожнага — гэта падрыхтоука да ахірэту. Той, хто адмауляе ахірэт, становіцца рабом ганебных жаданняу. Ён не ганує дастойных павагі вернікау. Такія людзі асэнсоуваюць свае памылкі толькі перад смерцю, дарэмна чакаючы апошняй магчымасці загладзіць свае грахі.

Іх сумненне перад смерцю, суровасць дня адплаты,вечная воля, якая абяцаецца праведным, яскрава апісана у наступных аятах Кур"ана:

"Набліз іцца смерць да каго-небудзь з іх, тады ён гаворыць: "Божа! Вярні мяне назад. Я завяршу незавершанае, я буду рабіць добрыя справы". Не! Гэта проста балбатня. Існуюць перашкоды, якія да дня вяртання іх да жыцця не дазваляюць ім ажыццявіць абяцанае. У гэты дзень крэуныя сувязі не дапамогуць, яны не змогуць паразумецца паміж сабой. Той, хто зрабіу больш добрых спрау, будзе вольным. Мізэрнымі будуць тыя, хто не падумау загадзя пра гэты дзень. Яны вечна будуць у пекле. Языкі полымя ахопяць іх твары". ( Сура Вернікі, аяты 101 — 106 ).

Вера у замагільнае жыццё выклікае у асобы пачуццё абавязку і адказнасці і забяспечвае у гэтым свеце дабрабыт і поспех. Успомнім на момант арабау часоу джахілійе ( даісламскіх часоу ). У той час, калі яны яшчэ не верылі у ахірэт, іх жыццё праходзіла у азартных гульнях, п"янстве, плямянных раздорах, у зладзействе і злачынствах. Прыняушы новую веру і паверыушы у ахірэт, яны сталі самымі дысцыплінаванымі людзьмі у свеце. Адмовіліся ад сваіх злачынствау. Началі дапамагаць адзін аднаму, а спрэчкі між сабою вырашалі мірна і справядліва.

Вынікі адмаўлення ахірэту могуць зваліцца на нашы галовы яшчэ пры жыцці або пасля смерці. Калі ж цэлая нацыя адмаўляе ахірэт, то ў грамадстве пачынаецца поўны беспарадак і хаос, і зло. Грамадства загнівае і ў рэшце рэшт гэты народ знікае з зямлі. Кур"ан падае некаторыя падрабязнасці аб лютым канцы плямен Ад і Сямуда, а таксама Фіраўна ( Фараона ). Вось як сказана пра гэта ў Кур"ане:

"Плямены Сямуд і Ад прынялі за ману праўду. За гэта сямуды былі знішчаны землятрусам. Па той жа прычыне племя Ад было знішчана моцным сцюдзёным ураганам. Каб сцерці іх з зямлі, Аллаг паслаў ураган, які бушаваў восем дзён і сем начэй. Былі відны людзі, паваленыя на зямлю як выкарчаваныя з каранямі фінікавыя пні, а ў хатах не засталося і сляда ад былога! Фіраўн, і тыя, хто жыў да яго, і разбураныя гарады, рабілі грахі. Яны паўсталі супроць Аллага, які пакараў і з гэтай прычыны паступова нарастаючым чынам.

Людзі! Адумайцеся! Зразумейце! Калі быў патоп, Мы вас выратавалі, узяўшы вас на свой плывучы каўчэг, каб зрабіць гэта напамінкам і каб пачула вуха таго, хто павінен пачуць. І калі прагучыць труба, і зямля разам з гарамі уздымецца і затым разбурыцца раптоўным крушэннем, у той дзень адбудзецца вялікая падзея. І неба расколецца, і будзе яно ў той дзень слабым. І анёлы па краях яго, і панясуць трон Яго восем і будуць трымаць Трон Уладыкі над імі. У той дзень будзеце вы выстаўлены, і не схаваеце вы схаванае. Тады той, каму запіс яго дадзены ў правую руку, скажа: "Вось, прачытайце запіс мой, сапраўды, ведаў я, што буду я прыцягнуты да адказу". І ён — у жыцці добрым, у садзе высокім, дзе лёгка будзе збіраць плады. "Ешце і піце на здароўе за тое, што вы зрабілі раней у дні мінулыя!". А той, каму будзе дадзены запіс у левую руку, ён скажа: "О, калі б мне не быў дадзены мой запіс! І я б не ведаў, аб чым рабіць справаздачу! О, калі б гэта не было канцом! Не дапамагло мне мае багацце! Сіла мая пакінула мяне!" Вазьміце яго і вяжыце! Потым кіньце ў пекла! Пасля на ланцуг, даўжынёй у семдзесят локцяў, прывяжыце! Бо ён не верыў у Аллага Вялікага, не імкнуўся накарміць беднага. І няма яму сёння тут сябра, і няма стравы, акрамя памыяў. І не есць яе ніхто, акрамя грэшнікаў". ( Сура Неўнікнёнае, аяты 4 — 37 ).

Для веры ў ахірэт патрэбны пераканаўчыя аргументы, якія можна пералічыць у наступным парадку:

1. Усе прарокі Аллага заклікалі сваіх паслядоунікау верыць у ахірэт.
2. Усе грамадскія сістэмы, рэжымы, заснаваныя на аснове веры у ахірэт, дабіваліся поспеху, пры гэтым поунасцю вызваляліся ад сваіх маральных недахопау.
4. Гісторыя знаёміць нас з шэрагам выпадкау, калі Аллаг яшчэ пры жыцці карае тых, хто пагарджау запаветамі сваіх прарокау і не верыць у ахірэт.
4. Разумовыя, эстэтычныя і маральныя уласцівасці чалавека забяспечваюць яму поспех і у ахірэце.
5. Без ахірэту страчвае сэнс і змест паняцце Аллага аб справядлівасці і міласэрнасці.

## СЛОВЫ І СПРАВЫ НЕ ПАВІННЫ РАЗЫХОДЗІЦЦА

Жыу калісьці хлопчык, які вельмі любіу салодкія прысмакі і часта выпрошвау іх у свайго бацькі. Але яго бацька быу бедным чалавекам і не заусёды меу грошы, каб задаволіць просьбу сына. Хлопчык не разумеу гэтага і усё дамагауся свайго.

Бацька засмучауся тым і усё думау, што рабіць, каб адвучыць сына ад нядобрай цягі. Паблізу іх жыу тады праведны чалавек. Гэта успомніу бацька ласуна і павёу сынка да разумнага чалавека, каб той пауплывау на папрашайку.

Хлапчук і яго бацька пайшлі да мудраца. Бацька сказау: "О вельміпаважаны мудрэц! Ці можаш ты папрасіць майго сына, каб ён перастау вымагаць ад мяне ласункі, на якія у мяне няма грошы ?" І чалавек гэты засмуціуся, бо сам вельмі любіу салодкае: як цяпер ён можа патрабаваць ад хлопца, каб той перастау дамагацца у бацькі салодкага ? Дык сказау толькі бацьку, каб прывёу яму свайго сына праз месяц.

На працягу месяца багабаязны чалавек адмаўляу сабе у ласунках, а калі хлопчык з бацькам праз месяц прыйшлі да яго, сказау хлопчыку: "Маё ты дзіцятка, ці не перастанеш прасіць ласункі, на якія у бацькі няма грошай ?"

З гэтага часу хлопчык ужо не дакучаў бацьку. Пазней бацька хлопчыка спытаў праведнага чалавека: "Чаму адразу не папрасіў хлопца, каб перастаў прасіць ласунак, калі мы прышлі да цябе першы раз ?"

Багабаязны чалавек адказаў: "Як я мог прасіць аб гэтым хлопчыка, калі сам вельмі любіў ласункі ? За гэты час я патроху адвык ад салодкага".

Асабісты прыклад робіць большае ўражанне, чым любыя гучныя словы. Калі просім кагосьці, каб нешта зрабіў, то самі мусім зрабіць тое самае. Няварта нікога прасіць аб нечым, чаго не робім самі.

## БЕЛАРУСКІЯ ТАТАРЫ І СІБІР

У 1997 г. будзе адзначацца 600-годдзе пасялення татараў на землях Беларуска-Літоўскай дзяржавы, якое адбылося ў час праўлення Вітаута Вялікага. Аднак пасяленне цюркаў на тэрыторыі сучаснай Беларусі адбылося значна раней. Калі і як гэта адбылося ?

Да пачатку мангола-татарскай экспансіі ў Азіі і Еўропе на тэрыторыі Заходняй Сібіры і ў Прычарнамор"і жылі цюркскія качавыя народы, якія з гістарычных крыніц вядомы пад назвай кыпчакі ці кіпчакі ( 1 ), у старажытнарускіх летапісах пад назвай полаўцы, з заходнееўрапейскіх ( генуэзскіх ) крыніц мы ведаем іх як куманаў ( 2 ).

У 20-х гадах 13 ст. мангола-татары пакарылі заходнесібірскіх і прыўральскіх кыпчакоў-полаўцаў. Знаць перабілі, простых людзей абклалі падаткамі, маладых мужчын пад прымусам заставілі служыць у войску. У 1223 г. на рацэ Калка мангола-татары разбілі войска прычарнаморскіх кыпчакоў-полаўцаў і саюзнае полаўцам войска рускіх княстваў. Больш дзесяці гадоў на Русі не чутно было пра мангола-татараў, але ў кастрычніку 1237 г. мангола-татары пачалі наступленне на старажытнарускія княствы. Ратуючыся ад нашэсця Батыя частка прычарнаморскіх кыпчакоў-полаўцаў звярнуліся з просьбай даць ім прытулак у славянскіх княствах.

"Галіцкі князь Даніїл Раманавіч і ягоны брат, князь Уладзімір-

ска-Валынскі Васілька, ва уладанні якога уваходзіла тады і Берасцейская зямля, пасялілі прыкладна у раене Бельска і паўночнай часціцы Берасцейскага павета некалькі родау хана Цегака, які быу сватам князя Даніїла. Згодна з паданнем, жылі гэтыя полаўцы у сямі весках ( 3 ). Няма сумнення, што з цягам часу яны увайшлі у склад беларускіх татарау і сталі першымі жыхарамі — выхадцамі з усходніх стэпау на Беларусі.

У выніку феадальных міжусобіц, якія абвастрыліся пасля смерці хана Залатой Арды у 1357 г., за 19 наступных гадоу на троне змянілася 19 ханау. У 1376 г. ханам Залатой Арды быу выбраны чынгізід Тахтамыш ( згодна традыцыі, ханам Залатой Арды мог быць толькі прамы нашчадак Чынгісхана — чынгізід ). Аднак цемнік Мамай, які фактычна паводзіу сябе як зусім незалежны хан, не падпарадкоувауся хану Тахтамышу. У 1380 г. цемнік Мамай быу разбіты у бітве на Куліkоускім полі ( рускія гісторыкі тлумачаць гэта выключна патрыятызмам, мужнасцю і воінскім майстэрствам рускіх воінау ). Пасля разгрому Мамая Тахтамыш на некаторы час стау паўнапраўным ханам Залатой Арды. Праз два гады пасля разгрому татары узялі і спалілі Маскву і заставілі рускіх плаціць даніну.

Будучы разгромленым у двух бітвах з войскам эміра Цімура, пазбаўлены трона, Тахтамыш уцек і зайшоу прытулак у Вітаута. З ім у Беларуска-Літоускую дзяржаву прыбыла значная вайсковая сіла, ды немалое значэнне меу і аўтарытэт былога, хоць і скінутага, хана Залатой Арды, чынгізіда. Даволі моцныя пазіцыі Тахтамыш меу у сваім дамене , ва улусе Шайбана — Сіняй Ардзе ( Кок-Ардзе ). Тут ён шукау прытулак, калі войска Вітаута панесла цяжкую паразу у бітве пад Ворсклай у 1399 г. З надзеяй на разгром войска Цімур-Кутлуга — стаўленіка эміра Цімура на трон у Залатой Ардзе, Тахтамыш сабрау на гэту бітву усё што можна — сваю дружыну, дауніх і нядауніх татар-пасяленцау у Беларуска-Літоускай дзяржаве. У яго войску была пэўная колькасць і жанчын, якія па татарскай традыцыі суправаджала у вайне сваіх мужоу-воях. Былі тут, магчыма, і беларускі — жонкі татар. Калі зыход бітвы не на карысць Вітаута ужо быу відаць усім, Вітаут і Тахтамыш ратаваліся уцёкамі. На беразе Ворсклы у 1399 г. "бунчукі сібірскіх татарау, якія прышлі у Літву з Тахтамышам, губляліся у агульнай масе сцягоу, харугвау і рыцарскіх адзнак" ( 4 ).

Сталіцай Сіняй Арды ( Цюменскай Арды ) была Цюмень — Чынгі-Тура. У 1495 сталіцу перанеслі у Іскер ці Сібір, і з гэтага часу ханства стала звацца Сібірскім.

У 1577 г. Ярмак Цімафеевіч, які ваявау супроць войск Стэфана Баторыя пад Магілёвам, вярнууся дамоу на Дон. Там ён узначаліу паход супроць Нагайскай Арды, рабавау караваны персідскіх і бухарскіх купцоу на Волзе, чым выклікау незадаволенасць царскай улады. Супроць Ярмака было паслана царскае войска, якое ён разбіу і пасля гэтага пайшоу да Строганавых, якім надзвычай патрэбна была ваенная сіла супроць сібірскіх тубыльцау. Строганавы дадалі у дружыну Ярмака "літоускі палон", які паусюдна прадавауся на маскоускіх рынках.

Адным з блізкіх паплечнікау Ярмака стау Мікіта Пан ( 5 ), які загінуу у баі з татарамі у 1582 г. Першага трауня 1580 г. Ярмак рушыу на заваяванне Сібірскага ханства. Гэтым ён паклау пачатак шматгадовай крывавай каланізацыі Сібіры. Колькасць насельніцтва у Сібіры у той час была прыкладна такой, як індзейцау у Пауночнай Амерыцы. Заваяванне Заходняй Сібіры ішло па узору заваявання тэрыторыі сучасных Злучаных Штатау еурапейцамі: карэннае насельніцтва знішчалася ці выганялася са сваіх спрадвечных урадлівых земляу. Каланізацыя Усходняй Сібіры ішла па узору каланізацыі Канады, дзе карэннае насельніцтва было патрэбна для здабывання футра каштоуных звяркоу. Каланізацыя ж Камчаткі і Курыльскіх выспау пайшла па узору каланізацыі Антыльскіх выспау: карэннае насельніцтва было амаль цалкам вынішчана.

Сілы мясцовага насельніцтва і рускіх каланізатарау былі няроуныя, хоць радцам сібірскага хана Кучума быу ліцвін ( 6 ), але 13 кастрычніка 1580 г. сталіца Іскер ці Сібір была узята. Нашчадкі Кучума атрымалі назоу князеу сібірскіх і прымалі удзел у Маскоускай вайне ( 1654 — 1667 ) супроць Беларуска-Літоускай дзяржавы. Праунук няскоранага і забітага царскімі уладамі старэйшага сына Кучума Аблегарым пабрауся з дачкой палоннага ліцвіна Андрэя Бяршадскага, і ужо ух нашчадкі сталі звацца князямі Пялымскімі ці Бяршадскімі.

У час Маскоускай вайны 1654 — 1667 гг. у бітве на р.Басе у маскоускі палон трапіу аршанскі шляхціц Адам Каменскі-Длужык. У сваім "Дыярыушы вязнення маскоускага, мест і месц" ён дау наступнае апісанне Табольску ( быломy Іскеру ) — "асколку Сіняй

Арды. "Табольск мае мест два. Адно на гары барза ( вельмі ) высокай, а другое на доле. Хлеба досыць маюць і не дарага. Рыб нечуванае мноства, бывае па 100 язёў на капейку. Татары барза багатыя, маюць свае вёскі. Таварамі ідуць, вярблюдаў моц вялікую маюць. Ездзяць на Даур і да Бухар. Цэркваў болей дзесятка. Мітрапаліта і архімандрыт там мешкае. Бо Табольск быў калісьці асобнае царства Касімаўскае ( ? ) і трымаў яго Касімаўскі татарын ( ? ), а ўзяў яго нейкі Ярмак, збойца Вольскі ( волжскі ), каторы разбіў казну царскую і купцоў цара выгнаў. Сам на то царства пасеў. Патануў у рацэ Іртышчу, як на яго напалі татары... Тыя татары маюць вялікія вольнасці і збожжа для сябе сеюць, а найбольш аркішу і пшаніцы і аўса. Жыта сеюць мала, толькі масква. Ёсць таксама татары-мысліўцы, выхоўваюць птахі: крэчаты, беласоры, каторых рыбамі кормяць. Маюць і харты касматыя. Коні маюць барза добрыя, на каторых лісы ганяюць і гарапнікамі б"юць, а мармуркі чорныя да казны царскай аддаюць. Прадаваць жа нікому не велена, а тасама панцыры барза добрыя шыгамі ( ? ) барза форменныя, пёры базанавыя ( фазанавыя ) і агністыя стрэльбы маюць. На попіс штомесяц мусяць быць гатовы, а то з-за бунтоў нашых. Там ёсць болей чым 300 у службе і дзесяць баярскіх, казакаў служылых 1200, рэйтары і 1000, казакаў ( пешых ) 2000, жалдакаў ( салдатаў ) 3000 ( 7 )".

Табольск, як пераемнік Іскера, на доўгія гады зрабіўся галоўным горадам ужо вялікай Сібіры і праз яго цягнуліся незлічоныя масы ссыльных. "Тенваря [1657] в 15 ж де по верхотурской же отписке Лва Измайлова по государеву указу присланы ис Казани ссыльные ж литовские люди и татаровя, которые взяты в языцех в разных местах, с верхотурским сыном боярским з Богданом Ушаковым, шляхта из Гомлы: ... Абус Сахмат Ахматов, Мухарей Шатунов, Якуш Мурзин, а по госуаревой грамоте велено тем ссыльным литовским людем быть в Тобольску в стрельцах и в пеших казаках" ( 8 ). "Самойло Айдаров, Карп Секаньин, Селауш Дзенема, Мухарей Азсамов, Тохтай Ябланской, Алес Базаров, Давыд Тупанской; а по указу вялікіх государей те ссыльные люди посланы на Тару, а государеву службу велено им на Таре служить в пеших казаках ..." "...Роздал Родлинской, Давыд Миденев, Мустафа Келской; и по указу великих государей те ссыльные иноземцы посланы на Тюмень и ныне на Тюмени государеву службу служат в пеших казаках. Да на Тюмени ж по

государеву указу посланы из Тобольска ссыльные ж люди в прошлом же по 164-м году и велено им быть в пеших же казаках Хурбу Мурзину, Алесу Абрамову; и в Тюменских имяных книгах 167 -го году написано: ссыльной человек Хурб Мурзин на Тюмени умер, а Алеса Абрамова имени в Тюменских имяных книгах не абъявилось, и о том ссыльном человеке о Алесе на Тюмень ис Тобольска о справке писано ..." "Богдан Халецкой молод, Богдан Матчешеев, Редреп Шавлов, Доброй Мусеков, Редреп Попов; а по государевой грамоте те ссыльные люди посланы ис Тобольска в Сургут, а государеву службу велено им служить в Сургуте в пеших казаках, и ис тех ссыльных людей 2 человека Дуброй Мусеков да Редреп Попов в Сургуте крестили в православную христианскую веру, а во крещении Дуброю имя Алексей, а Редрепу во крещении имя Прохор ..." "Ражев Шабловский молод, Ураз он же Сафар Стабровской ... ис под Орши Якуб Баракеев; ... шляхта: Ян Мурзеев, Степан Наркеев; крымские татаровя: Мелубайко Искалеев, Булатко Детимеров, Алейко Арасланов. А по государеве грамоте те ссыльные люди все посланы ис Тобольска в Томской город, а государеву службу велено им служить в Томском в пеших казаках ..."

"Тое ж присылки [1661] ссыльные ж дюди татаровя Ишмаметко Албухтин, Еникейко Тениеешев; а по государеве грамоте посланы они ис Тобольска на Красный Яр, а по Красному Яру велено им быть в пашне".

"Февраля в 28 де по государеве грамоте послан с Москвы в Тобольск выходец крымской полоняник Литовские земли Барского повету шляхтич Васка, во крещении Ивашко Витовской, и по государеве грамоте тот выходец Вашка Витовской послан ис Тобольска в Томской город в том же во 168-м году ..." "татаровя: Мухарейко Мусанов, Ивашка Юзовской, Давыдко Александров; а по указу великих государей посланы ис Тобольска те ссыльные люди на Лену в Якуцкой острог, а государеву службу велено им служить в пеших казаках" ( 8 ).

Але сасланыя беларускія татары, як сведчаць гістарычныя дакументы, памяталі аб сваім паходжанні: "Господину Василию Ивановичу Хилкову. В нынешнем во 171 году [1663] сентября 16 дня на Сыльве де татаровя с Ильина дня Кунгур весь позоевали и русских людей побили и дворы и хлеба и сена пожгли, і ставят де те татаровя на Кунгуре острог, а ноне де стоят приступом под Спасским монастырем, а завоевались де Уфимские, и Сольнижские и Казанские и Вятские и Уржумские татаровя да с ними де и татары Литовских людей человек 50,

а подговаривает те татары воевать Сары Мергенько, который зимовал под катайским острогом и все де у них по заговору с крымским царем" ( 9 ).

Да сказанага раней дадаем, што Васіль Іванавіч Хілкоў быў Табольскім ваяводам з 1659 да 1667 г. Цар Міхаіл Федаравіч аддаў у 1614 г. Касімаўскае ханства сваяку Кучума Альн-Арслану з тытулам хана, а унучка Альн-Арслана Домна выйшла замуж за Юрыя Якаўлевіча Хілкова ( 10 ). Нездарма капіроўшчык "Дыярыуша" А.Каменскага-Длужыка напісаў замест "Кучумаўскае ханства" — "Касімаўскае ханства", бо касімаўскія татары былі больш вядомыя у Рэчы Паспалітай, чым сібірскія.

У 1628 г. з Табольска на "уціхамірванне" тунгусаў была адпраўлена экспедыцыя Самсона Навіцкага, ліцвіна, былога воя слаўнага палкоўніка А.Лісоўскага. У Туруханску да яго далучыліся людзі ліцвіна Антона Дабрынскага. На Тунгусцы С.Навіцкі даведаўся, што існуе Лена-рака і на ёй жывуць "якольскія людзі". Ён накіраваў туды Антона Дабрынскага. Атрад Дабрынскага выйшаў на Лену і заснаваў там зімоўе, на якое 9 лістапада 1630 года напалі якуты. Толькі ў траўні наступнага года быў адбіты напад і Дабрынскі змог пайсці у Туруханск. Так усе даведаліся пра існаванне самага паўночнага цюркскага народа — саха, выхадцаў, на думку некаторых гісторыкаў, з Сярэдняй Азіі, з па-над Амудар"і, якіх сталі называць якуты ( 11 ). А народ саха маскоўцаў стаў зваць кучча — чучала, пудзіла, пачвара ( 12 ).

Упершыню для свайго народа даў апісанне народа саха Адам Камінскі-Длужык, якога як ссыльнага везлі у Якуцк разам з трыма беларускімі татарамі: Александровічам, Мусанавым і Юзоўскім. "Ад Алакіны пачынаюцца якуты, каторыя маюць веру паганскую і самі сабакам падобны. Коней статкі барзя вялікія гадуюць, а белых найболей. Быдла таксама маюць досыць. Быкі барза вялікія гадуюць, а насы ім прадзетыя, як у мядзведзя, таксама і кароў. Усе ездзяць на іх, а коней ядзяць, як сабакі: ні чым не брыдзяцца, ніколі не умываюцца, пазногці не абразаюць, ходзяць голыя з лукамі, на галаве каптуры з пёрамі жураўлінымі, як у страшыдлы, граху ні у чым не ведаюць. Ні Бога, ні веры, вось згола бестыям падобны. Тыя людзі абселі тую Лену і берагі яе. Там ніводная рэч не народзіцца бо зямля не растае болей як на локаць ( вечная мерзлата — заўвага рэд. ). Там ёсць звера і птаства нечуваная моц, але пагане не

ўмеюць іх спажываць: так як сабакі іх ядзяць. Што вялікія, пёры абскубшы, у каго ёсць кацёл, то варыць, у каго ж нямаш, то каменьмі парыць у дзежках альбо карытах, без солі. Строй ( адзенне — заўвага рэд. ) аднастайны у леце і зіме. У жартах сораму ніякага, ані што грэх ня ведаюць. На канях белагаловых ездзяць, а маюць завушніцы вялікія ў вушах, велічыней талеры ( срэбная манета — заўвага рэд. ) срэбныя, на чале носяць кругі, а на шыі срэбныя і мядзяныя абручы. Як і мужчыны ходзяць у шкурах аляневых і каровіных, шэрсцю да цела, а другой навыварат. Лукі маюць доўгія, вышэй чалавека, а цяціва раменныя. Жалеза збіраюць на берагах, і гэткае добрае, як сталь, але што цяжка з рамеснікамі, то з імі лайдакі спраўляюцца. Там заусёды служылых людзей 700, рэестравых казакоў, каторых разсылаюць па лясах, рэках і па розных урочышчах. Тыя збіраюць на цара сабалі, аднімаючы ад тамтэйшых людзей. Белагаловы ( можа аксакалы — родавыя старэйшыны ? — заувага рэд.) ходзяць у скурах аляневых тонкіх, замест кашуль, у каптурах сабаліных і сукенках атласовых, сабалямі падшытых, але без кашулі, хіба на святах урачыстых кашулі надзяваюцца. Таксама і хлеб толькі на ўрачыстасць ядзяць, а мяса ядзяць як хлеб, і рыбу з ягадамі, птаства ужываюць, каторых там моц вялікая. Малако кабылінае п"юць" ( I3 ).

У канцы "Дыярыуша" А.Каменскі-Длужык зазначае, што у Сахадзе ( Якуціі ) загінуў "татарын ахрышчоны з харугвы пана Чарнецкага ( I4 ). Загінуў у чужым краі Ян Юзоускі. Беларускі татарын Давыд Александровіч быў пасля Андрусаўскага перамір"я I667 г. на наступны год адпушчаны у Маскву. Мухарэй Мусанаў, які служыў на рацэ Ахота сярод ламутаў ( эвенаў ) спазніўся і выехаў у Маскву у I669 годзе ( I5 ).

## Дадатак

Разам з Юзоускім загінуў на рацэ Ахота "Солтан Крыштаф", шляхціц з харугвы пана Чарнецкага, які таксама быў татарскага паходжання ( I6 ).

[I657] Генваря в I5 де по государевой грамоте прислали с Москвы в Тоболеск с сыном боярским з Богданом Ушаковым шляхтич Миколай Салтан з женой да з дочерью да с челядники с Ивашком Демидовым да с челядницею; и ныне тот ссыльный человек Микулай Салтан в Тобольску государеву службу служит в детях боярских" ( ( I7 )

" [I660] Мая в 24 де по государевой грамоте присланы с Москвы

в Тоболеск ссыльные литовские люди шляхта Буслив Петров сын Салтанов ... а по государевой грамоте посланы они из Тоболска в Томской город" ( I8 ). ... ...
" [I66I] В пешие казаки челядники ... Харитон Салтан ... на Лену в Якуцкой острог." ( I9 ).

Цытаваная літаратура

1. Гордеев А.А. История казаков, ч.I: Золотая Орда и зарождение казачества. М., I992. С.23.
2. Гумилёв Л.Н. Древняя Русь и Великая степь. М., I992. С.39I.
3. Рагалеў А.Ф. Сцежкі у дауніну. Мн., I992. С.5I.
4. Гумилёв Л.Н. Древняя Русь и Великая степь. М., I992. С. 536.
5. БСЭ. Т.23.М., I976. С.337.
6. Juik M. Dzieje Polaków na Syberii. Kraków, 1928. S.36.
7. „Warta", Poznań, 1874. S.282.
8. Белокуров С.А. Из духовной жизни московского общества ХУП века. М., I903. Приложение У: О лицах, сосланных в Тобольск за I654 — I662 гг. С. 56, 57, 58, 62, 63, 65.
9. Дополнение к актам историческим. Т.ІУ. СПб, I85I. С.289.
I0. История родов русского дворянства, кн. I. М., I99I. С.395.
II. История Якутской АССР. Т.2. М., I957. С.29.
I2. Серошефский В.Л. Якуты. СПб, I896. С.25I.
I3. „Warta", Poznań, 1874. S.385—386.
I4. „Warta", Poznań, 1874, S.387
I5. Сафронов Ф.Г. Ссылка в Восточную Сибирь в ХУП в. Якутск, I967. С.85.
I6. Historia kontaktów polsko-rosyjskich w dziedzinie geologii i geografii. Wrocław, Warszawa, Kraków, Gdańsk. 1972. S.250.
I7 Белокуров С.А. Из духовной жизни московского общества в ХУП века. М., I903. Приложение У: О лицах, сосланных в Тобольск за I654 — I662 гг.С. 56.
I8. Тот же, С.65.
I9. Тот же, С.65.

## ВАЦЛАЎ ЛАСТОЎСКІ

( да 110-годдзя з дня нараджэння )

Выдатны беларускі гісторык, публіцыст, пісьменнік, літаратуразнавец, грамадска-палітычны дзеяч, акадэмік АН Беларусі нарадзіўся 1 лістапада 1883 г. ў засценку Калеснікі Дзісенскага павета Віленскай губ. ( цяпер Мёрскі раён Віцебскай вобл. ).

Маці Ганна і бацька Юсцін паходзілі з дробнай шляхты, працавалі на арандаванай зямлі. Вацлаў скончыў на радзіме Пагосцкую пачатковую школу. Нейкі час вучыўся ў Дзісенскім павятовым вучылішчы. пазней працаваў памочнікам прадаўца ў краме ў Вільні, канцылярыстам у г.Шаўлі ў Ковенскай губерні. Трапіўшы ў Санкт-Пецярбург,уладкаваўся бібліятэкарам у студэнцкую бібліятэку і адначасова наведваў лекцыі ва універсітэце. У 1902 г. уступіў у Польскую сацыялістычную партыю у Літве, якая вяла работу і ў заходняй частцы Беларусі. У 1903 г. пабраўся з літоўскай пісьменніцай Марыяй Іваноўскай ( Ладзіну Пяледа ), якая працавала тады ў Санкт-Пецярбугу ў чытальні польскіх сацыялістаў. Жыў нейкі час на жончынай радзіме ў мястэчку Паргяй ( цяпер Акмянскі раён ) і ў Рызе, дзе працаваў канторшчыкам на таварнай чыгуначнай станцыі. Займаўся самаадукацыяй. У гэты час ён актыўна ўключыўся ў беларускі нацыянальны грамадскі рух. У 1906 — 1908 гг. уваходзіў у Беларускую сацыялістычную грамаду. З сакавіка 1909 г. ён сакратар рэдакцыі "Нашай нівы" і загадчык першай беларускай кнігарні ў Вільні. У "Нашай ніве" і іншых беларускіх выданнях змяшчаў публіцыстычныя і крытычныя артыкулы, артыкулы на гістарычныя тэмы, апавяданні, пазней вершы. Ён збіраў і публікаваў матэрыялы па гісторыі беларускай літаратуры, этнаграфічныя і гістарычныя матэрыялы. У 1910 г. выдаў "Кароткую гісторыю Беларусі" — першую папулярную абагульняючую працу па нацыянальнай гісторыі на беларускай мове.

У 1916 — 1917 гг. В.Ластоўскі быў рэдактарам газеты "Гоман", якая выходзіла ў Вільні, у 1923 — 1927 гг. рэдагаваў часопіс "Крывіч", які друкаваўся ў Коўне. У 1926 г. была надрукавана адна з найважнейшых прац вучонага — агляд усяго беларускага пісьменства да 18 ст. уключна. Капітальны фаліянт ( 720 старонак, багата ілюстраваны ) пад назвай "Гісторыя беларускай ( крыўскай ) кнігі". У гэтай кнізе амаль 8 старонак прысвечана татарскаму Аль-Кітабу ( мы іх змяшчаем у гэтым нумары "Байрама", змяніўшы толькі лацін-

скае "j" на "й". Крыху раней, у 1924 г. В.Ластоўскі выдаў у Коўне "Падручны расійска-крыўскі ( беларускі ) слоўнік. У слоўніку паказаны запазычанні з розных моў, у тым ліку і з татарскай мовы, якія ужываюць беларусы.

Пасля заканчэння грамадзянскай вайны В.Ластоўскі пакінуў палітычную дзейнасць і займаўся навуковай працай. Ён выйшаў з урада БНР і вярнуўся на Беларусь. У 1927 г. заняў пасаду дырэктара Беларускага дзяржаўнага музея. Працаваў у Інбелкульце. Як акадэмік ( з 1928 г. ) і неадменны сакратар АН БССР садзейнічаў развіццю навукі на Беларусі. Між іншым, у гэты перыяд сваей дзейнасці В.Ластоўскі цікавіўся вывучэннем розных народаў, якія жылі на Беларусі, у тым ліку і татарамі.

21 ліпеня 1930 г. Ластоўскі быў арыштаваны, 6 жніўня 1930 г. пастановай СНК БССР пазбаўлены звання акадэміка. Быў асуджаны на 5 гадоў высылкі у Саратаў, дзе працаваў загадчыкам аддзела рукапісаў, старажытных і рэдкіх кніг бібліятэкі Саратаўскага універсітэта. Зноў арыштаваны 20 жніўня 1937 г. і прыгавораны Ваннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 23 студзеня 1938 г. да выключнай меры пакарання. Расстраляны 23 студзеня 1938 г. у Саратаве.

Па першаму прыгавору рэабілітаваны 10 чэрвеня 1988 г. Вярхоўным судом БССР, па другому прыгавору — 16 верасня 1958 г. Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР. Адноўлены у званні акадэміка АН Беларусі у 1990 г.

## АЛЬ-КІТАБ ( СЬВЯТАЯ КНІГА )

( урывак з "Гісторыі беларускай ( крыўскай ) кнігі " )

Рукапіс пісаны арабскімі літарамі, але крыўскай мовай; знойдзены ў 1915 годзе археолегам І.Луцкевічам у Сорак-Татарах, недалёка ад Вільні, у малны Сьцяпана Палтаракевіча. Гэта рэлігійная мусульманская кніга апокрыфічнага зьместу. Паводле азрэсьленьня доктара філёлёгіі Янкі Станкевіча рукапіс гэты пісаны у першай палавіне 16 стагоддзя: усяго у кнізе 138 лістоў, фармату у ліст: пісаны на паперы; пачатак і канец загублены.

Значэнне гэтага рукапісу вельмі вялікае для крыўскага моваведаньня, бо, дзякуючы асобнасьцям арабскага альфабэту, які мае літары дз ( дзэту ) і мяккое ць, даецца магчымасьць адтварыць фонэтыку

крыускай мовы 16 ст. і знайсьці ключ да чытання кніг і рукапісау, пісаных кірыліцай. Расчытывае гэты рукапіс малады крыускі вучоны Я.Станкевіч і доктар філёлёгіі А.Тауэрава. Ніжэй пададзеная выпіска перартранскрыбавана на кірылаускія літары вышэйзгаданымі вучонымі і зьяуляецца передрукам с часопісі "Крывіч" ( № 2 ( 8 ), 1923 г., старонкі 70 — 78 ):

Гісторыя

а Марйаме [1], удзячнасьць Божа над нейу! Вагаб сын Мутабаггау мовіу, удзячнасьць Божайа над нім, у інщых кнігах так нашоу, відзеу, чытау. Аднаго дня Іса [2] прарок йаго міласьць, ласка Божа над нім, да маткі свайей мовіу: "І матка, мне Джабраіл [3] мовіу, што гэтый сьвет мяшкане дачаснайе йест, прото мы гэтый сьвет заняхайма, а тамтой сьвет вякуістый старайлмася — так да маткі мовіу — то нам ляпей будзе". Тады яны абойе пашлі на Лібнан гару і там пану Богу паклон чынілі, дзень у дзень посьнікалі, а у вечар адпосьнікаліся трауным карэнем. Аднаго дня Іса прарок йаго міласьць для адпосьнікаванйа па карэньйе трауное пашоу, а матка йаго Марйама, у міхрабе седзячы намаз кланялася, а у тым часе Азраіл [4] пршшоу сялам [5] дау. Марйама і страху йаго ад розуму адышла. Калі прышла да памяці, мовіла: "Хто ты йест ? Ад срогасьці твайей шлункі майе трасуцца, розум адходзіць". Азраіл мові: "Йа йест". Ракла Марйама: Ці прышоу даведацца, ці ухваціці ?" Азраіл мовіу: "Прышоу йа душу твайу браць". Марйама мовіла:
"Прашу цябе адну гадзіну мне счакай, няхай мой мілый сын прыйдзе Іса, йа твар йаго абачу і дастамэнт учыню". Азраіл рэк: "Йа ( йест... пасол ) Божый, прыказанае трымайу .... а .... учыніць не магу, мне П(ан Бог ) ....... і нагой ступіць ...
( Марйама ) ракла: "Йа волі Божай йест удзячна". Потым Азраіл у йайе душу узяу і пашоу. Потым Іса прарок пасьле йацщыю [6] прышоу, матку абачыу: на міхрабе ляжыць. Іса разумеу, што у паклоне ляжыць "няхай адну гадзіну стрывайу" і сам

1) Марыя, маці Хрыста. 2) Ісус, араб. 3) Ангел Гаурыэль, арабізм.
4) Імя ангела сьмерці. 5) Сялям даці — прывітаці, сказаці супакой табе. 6) Вячорная малітва, араб.

не адпосьнікаваўся: "няхай матка ачхнецца за адно адпосьнікайемся". Карэніе палажыў, намаз пець пачаў. Потым ночы часьць мінула, Богу паклон чыніў, да маткі прыступіўшы, лёгкім голасам клікаў, мовіў: "І матка, усе людзе посьнікавальйа адпосьнікаліся". Потым яшчэ ночы часьць мінула, І с а рэк: "І матка, што табе стала, неадпосьнікайеся ( ! ) ? " Матка на то нічога не адкажа. І с а мовіў: "Матка майа, намаз кланяўшыся, умарылася, няхай йашчэ адну гадзіну паляжыць, йа за йайе Богу пакланюся". Пачаў кланяцца: йашчэ цярпеў, ( ужо кал)я поўначы стала, знову да маткі ( прыступіўшы, клікаў голасам ) бядунлівым: "І матка, што ( табе стала, што жа )днага с..эва неад ( кажаш ?" І с а быў у вялікім ) горы. Калі дзень стаў да маткі прышоў, твар у твар ударыў і рэк: "ассалямун алйайка. І матка, ноч перайшла, знову посьнікаць час, устань, раньні паклон кланяцціся". Так мовіў, а таго дня раз нябескійа ангелы плакалі голасам вялікім, таго дня на зямлі ўсе рэчы рушыліся, зьвярата польныйа ўсе радамі, радамі стаўшы, плакалі, птаства на паветры ўсе грумадамі стойачы, плакалі, мовілі: "Божа наш, пазволь нам, мы І с а прароку азнаймім сьмерць маткі йаго". Ад Пана Бога азнайамене ( ! ) прышло: "Зямля і месяц, і сонца, горы, мора, птаства, зьвяры і ангелы, што ся стала вам, для чаго вы плачаце ?" Адказ: "Для І с а прарока плачам". Азнаймене ад Пана Бога прышло: " І І с а, йа твой Бог, ведайу і йест ласкучынюшчый, над усіх вас міласерднеішый !" І с а прарок голас учуў і. І с а. ... а ... у .... а .... а сеньйе няхай дасьць йо ( й ) .... у .... із гэтага сьвета зыш ( ла ) .... плакаць пачаў ш ... ( што буду ) чыніць, гдзе пайду, сь кім буду забаўляцціся, сь кім свой смутак падзялю, каму свайу тайамніцу скажу". Вельмі плакаў. Ад Пана Бога згары азнаймене прышло, што І с е прароку гара науку падала. Ракла гара: "І І с а, для чаго так плачаш, немарасьцісься, табе йест Пан Бог памочнікам. Потым І с а із гары ізышоў да аднаго сяла с палачам ( ! ) бядунлівым вялікім голасам рэк: " Ассалямун аляйкум, і людзе тут мешкайучыйа !" А людзі таго сяла ўсе малыйа і вялікійа, мужчыны і жанкі проці йаго вышлі, пыталі: "хто ты йест, голас твой чуйучы, нутры нашы усьвяцціліся, дамы нашы усе сьветласьцяйу ( ! ) напаўніліся твайу павяльбенуйу асобу відзім". І с а рэк: "Йа І с а сын Марйамін йест, ведайце, што матка майа, на гарэ Лібнан адна будучы, з гэтага сьвета зышла, прашу .... мне свайей помачы

.... ....

схаваньйа .... тыйа людзі мовілі .... той гарэ ад калькі .... хто тым узыйдзе ..... можа за йаго атрутайу. І с а прарок із вялікай немарасьцяй ад йіх пашоу на туйу гару, там-жа двух младзенцау ( ! ) відзеу харошых твару. І с а мовіу: "Вы хто йест ?" Адзін рэк: "Йа Джабраіл", а другій рэк "Йа Мікаіл йест, мы прынесьлі із райу саван і усялякійа патрэбы, з волі Божай панны райськійа майуць мыць, а нам расказ Божый, абы мы дол капалі". Райскія панны абмылі, Джабраіл, Мікаіл дол выкапалі, ангелы джыназа намаз[1] пелі і схавалі. Потым І с а прарок Пана Бога прасіу, мовіу: "Божа мой, ты мяне відзіш і слова майо чуйеш, табе нямаш нічога скрытага: Божа мой, маткі йа свайей часу йайе сьмерці і па сьмерці нявідзеу твару йайе, а цяпер прашу цябе, Божа мой, кажы мне матку майу указаць, штоб за ( ! ) мной мовіла". Расказане Божае такойе прышло: "Ідзі да маткі свайей !" І с а прарок прышоу і у галавах магілы маткі свайей сеу і рэк так:"Табе няхай ласка Божа будзе, і матка майа". А у тым з гробу голас прышоу: "У ачах майіх сьветласьць, і нутра майаго плод, чаму ( ! ) ты мяне адвярнуу ад райськіх майстатау і садоу і сюды мяне прывярнуу ?" Прыбавіу І с а прарок, мовіу: "І матка майа, мейсца таго чым-жа дайшла ку Пану Богу ?" Марйама ракла: "Йа, будучы на сьвеце, мяшкайучы у добрых учынках, у райі мейсца сабе набыла". Потым І с а прарок: "І матка майа, душнуйу горкасьць ці мела, йак табе паводзілася, што над табой дзеелася ?" Марйама мовіла: "Перад Панам Богам праудзіве мовю ( ! ), што горкасьць душы майой браньйа у горле йест, Азраілова труднасьць перэда мнойу йест строгасьць і страх йаго у нутры майом йест". Ракла: "І сыну мой І с а, астаньсяздароу, а йа ужо адыйду, а дня суднага абачымся на Арафат поле". То вымавіушы, умоукла. Потым І с а прарок із гары зышоу і па сьвеце хадзіу, а потым Пан Бог йаго на неба узяу і да суднага дня будзе на небе. А перад судным днем даджджал[2] праклятый паустане на мусульман, увесь сьвет ізвайуйе, то на той час Пан Бог йаго ізь неба зашле мусульманам на помач проці даджджала. І с а прарок йаго міласьць, з неба зышоушы, даджджала праклятога забйець і веру мусульманськую запрэць, і разшырыца вера мусульманськайа, і знову сорак год майе жыць на сьвеце. Потым із гэтага сьвета зыйдзе.

---

[1] Пахавальная малітва, перс. [2] Антыхрыст, араб.

# ГІСТОРЫЯ ДЗЯРЖАВЫ ІДЭЛЬ-УРАЛ

( п р а ц я г )

## Другі раздзел — Хазары і кыпчакі

Гісторыкі-даследчыкі даказалі, што на тэрыторыі, якую пакінулі у канцы 6 ст. булгары, утварылася новая дзяржава — Хазарскае ханства. Бясспрэчна і тое, што хазары — народ цюркскага паходжання. Межы гэтага ханства дасягалі Каукаэскіх гор на поудні, Дняпра на захадзе, Булгарскай дзяржавы на поуначы. Толькі усходняя мяжа застаецца да гэтага часу не высветленай. Большая частка Крыма уваходзіла таксама ва уладанне хазарау. Сталіцай гэтага ханства быу горад Ітыль. Акрамя Ітыля у хазар былі яшчэ вядомы гарады Семяндэр і Саксін. Хоць у культурных адносінах гэта ханства не дасягнула узроуню Булгарскай дзяржавы, але таксама мела свае дасягненні у галіне культуры.

Сталіца Ітыль была не толькі адміністрацыйным і палітычным цэнтрам, але таксама і гандлёвым і культурным цэнтрам. Сюды прыязджала многа замежных гандляроу. Росквіт гэтага ханства прыпадае на 8 і 9 стагоддзі. Да 8 ст. хазары былі шаманістамі. У канцы 8 стагоддзя хан Булан прыняу караімства ( іудзейства ) і разам з ім прынялі караімства некаторыя вышэйшыя саноунікі. Адначасова з гэтым у Хазарскім ханстве было пашырана як мусульманства, так і хрысціянства — была поуная свабода рэлігій. Характэрным прыкладам у гэтых адносінах з"яуляецца арганізацыя хазарскага суда, які складауся з 7 чалавек: 2 караімау, 2 мусульман, 2 хрысціян і І шаманіста ( Газіс. Татарская гісторыя. С.22 ).

У Ю ст. Хазарскае ханства пацярпела ад нашэсця цюркау-печанегау, якія пасля разбурэння гэтага ханства наківаваліся на захад, да Дняпра. Не паспелі хазары ачуняць, як з"явілася новая навала, на гэты раз цюркау- кыпчакоу ( кіпчакоу, полауцау, куманау ), якія у II ст. канчаткова разбурылі Хазарскае ханства і атабарыліся на яго руінах.

Як печанегі, так і кыпчакі мелі качавы стыль жыцця, а таму не маглі стварыць сваю дзяржаву. Рэлігіяй іх быу шаманізм. Сярод іх, верагодна, былі і паслядоунікі іншых рэлігій, таму што вядомы літаратурны узор кыпчакскай мовы "Кодэкс куманікус", складзены хрысціянскімі місіянерамі, сведчыць на карысць гэтага меркавання.

У 1223 годзе мангольскае войска на чале з Чэбе ( Джэбэ ) і Субатаем ( Субэдэем ) на р.Калка разбіла кыпчакоу і саюзных з імі рускіх князёу. У 1237 г. уся палавецкая зямля апынулася пад уладай манголау.

## Трэці раздзел — Залатая Арда

Першым ханам Залатой Арды, якая утварылася на былых землях кыпчакоу-полауцау, быу унук Чынгіза ( Чынгісхана ) Батый, які царавау 31 год. У гэты час Залатая Арда не была яшчэ самастойным ханствам. Яна стала самастойнай толькі пры хане Берке ( 1255 — 1266 ), бо ужо на гэты час пачаліся міжусобіцы у Мангольскай імперыі і гэта імперыя распалася на асобныя гаспадарствы, у тым ліку адлучылася і Залатая Арда. З моманту адлучэння Залатая Арда трапляе пад уплыу больш развітай у эканамічных і культурных адносінах волжскіх булгар. Залатая Арда чаканіць усасныя манеты, якія першы час робяцца у Булгары. Хоць ханства было створана манголамі, але у ім манголамі былі толькі ханы і частка арыстакратыі. Асноуная ж маса складалася з булгар, хазарау, кыпчакоу і іншых цюркау. Нават 600-тысячнае войска Батыя ( паводле сучасных даследчыкау колькасць воiау Батыя вельмі перабольшана — заувага рэд. ), з якім ён з"явіуся ва Усходнюю Еуропу, складалася галоуным чынам з цюркау. У гэтым войску саміх манголау было усяго 60 тысяч ( Г.Газіс. Гісторыя татар ).

У сувязі з тым, што цюркі былі намнога больш культурнымі, манголы былі з цягам часу ацюрэчаны і пачалі размауляць на цюркскай мове. Цюркская мова стала афіцыйнай мовай дзяржавы. На гэтай мове пісалі усе законы-ярлыкі Залатой Арды. Арабскія падарожнікі, якія наведалі Залатую Арду, называюць яе не мангольскім, а кыпчацкім ханствам.

Залатую Арду называлі то цюрка-мангольскім, то цюрка-татарскім гаспадарствам. Цюркскім яно было таму, што, як мы ужо згадвалі, асноуная маса насельніцтва ханства было цюркскім. З прычыны таго, што Чынгіз-хан, заснавальнік Вялікай усходняй імперыі і родапачынальнік дынастыі, паходзіу з мангольскага роду кара-татар, то ханства Залатой Арды часам называлі цюрка-мангольскім, а часам цюркататарскім. Такім чынам, назва дынастыі ( з акаляючай дынастыю арыстакратыяй ) перайшла і на народ Залатой Арды.

Першым з правіцеляў Залатой Арды прыняў Іслам Берке-хан у 1261 г. ( булгары прынялі Іслам у першай палавіне 10 ст. ), але пашырэнне Ісламу сярод насельніцтва адбылося толькі ў першай палавіне 14 стагоддзя. Неабходна адзначыць, што усе рэлігіі ў Залатой Ардзе карысталіся аднолькавай свабодай. Па законах Чынгіз-хана за абразу рэлігіі пагражала кара смерці. Духавенства кожнай рэлігіі было вызвалена ад падаткаў.

Сталіцай Арды быў горад Сарай. Па сведчанню арабскіх падарожнікаў, горад Сарай быў вялікім добраўпарадкаваным гандлёвым горадам. У Сараі былі палацы ханаў, мячэці, храмы іншых рэлігій, школы, паркі, лазні і вадаправод. Тут было шмат замежных купцоў, але іншаземцы жылі ў асобных кварталах. Сарай быў культурным цэнтрам таго часу. У Залатой Ардзе выраблялі фарфоравы і гліняны посуд і чаканілі залатую і сярэбранную манету.

Да першай палавіны 14 ст. Залатая Арда дасягнула сусветнага значэння. Аднак з 1359 года пачынае хіліцца да заняпаду, бо з гэтага часу пачынаюцца міжусобіцы, барацьба за ўладу, забойствы аднаго хана за другім. Дастаткова зазначыць, што на працягу 250-гадовага існавання Залатой Арды змянілася 50 ханаў.

Прычынай заняпаду і разлажэння Залатой Арды былі не толькі міжусобіцы: мабыць, у гэтым не меншую ролю адыграла адкрыццё ў 15 ст. марскога шляху з Еўропы ў Індыю і ўзяцце Канстантынопаля і праліваў цюркамі-сельджукамі, якія перашкаджалі гандлёвым зносінам Залатой Арды з Венецыяй і Генуяй.

Цяжкае становішча і слабасць Залатой Арды, перш за усе, скарысталa Маскоўская дзяржава. У некалькіх бітвах ( найбольшая з іх на Куліковскім полі у 1380 г. ) Масква перамагла Залатую Арду і некалькі разоў рабавала і паліла горад Сарай.

Не маючы сіл супрацiўляцца сваім ворагам, у канцы 15 ст. Залатая Арда канчаткова развалілася і ад магутнага некалі ханства засталіся толькі адны руіны. Пасля распаду Залатой Арды на тэрыторыі Ідэль-Урала утварыліся тры ханствы: Астраханскае, Нагайская Арда і Казанскае ханства ( па-за межамі Ідэль-Урала ад Залатой Арды адлучыліся Сібірскае і Крымскае ханствы — заўвага рэд. ).

## Чацвёрты раздзел — Астраханскае ханства і Нагайская Арда

Астраханскае ханства было утворана адным з эміраў-намеснікаў Залатой Арды каля вусця Волгі са сталіцай у горадзе Астрахань. Хоць горад Астрахань быў вялікім гандлёвым цэнтрам, дзе азіяцкія і еўрапейскія купцы абменьваліся сваімі таварамі, але гэтае ханства не іграла вялікай ролі ў гісторыі цюркаў.

На поўнач ад Астраханскага ханства знаходзілася Нагайская Арда, якая атрымала сваю назву ад заснавальніка гэтай арды, аднаго з палкаводцаў Залатой Арды — Нагая. Нагайская Арда, як у палітычным, так і культурных адносінах нічым не вылучалася і не іграла амаль ніякай ролі, калі ж і іграла, то яе роль была адмоўнай.

## Пяты раздзел — Казанскае ханства

Наколькі нязначнымі былі Астраханскае ханства і Нагайская Арда, настолькі вялікім і важным было значэнне і гісторыя цюркскага народа Казанскага ханства, каторае было утворана ў 1437 г. на тэрыторыі былога Булгарскага ханства. "Розныя прэтэндэнты на Сарайскі прастол, са сваімі атрадамі, нярэдка паяўляліся ў сярэднім Паволжы. У другой чвэрці 15 ст. тут удалося умацавацца аднаму з такіх прынцаў, па імені Улуг Мухаммед, з роду Туктамыш-хана ( Тахтамыша ). Прагнаны спачатку з цэнтра Залатой Арды, а потым з Крыма, у пошуках сабе удзела ( княства ), Улуг Мухаммед рыскаў усюды, покуль яму не удалося на тэрыторыі былога Булгарскага ханства арганізаваць Казанскае ханства, у якім ён цараваў з 1438 да 1446 года" ( Г.Губайдулін. Матэрыялы да вывучэння Татарстана. С.75 ).

Сталіцай новага ханства быў горад Казань, адсюль і ханства названа было Казанскім. Казанскае ханства з першых жа дзён свайго утварэння становіцца як у палітычных, так і культурных і эканамічных адносінах моцнай дзяржавай. Гэта можна тлумачыць толькі тым, што "заснавальнік ханства Улуг Мухаммед, без сумнення, даў для края толькі новую палітычную і ваенную арганізацыю, скарыстаўшы ужо гатовыя грамадскія формы, бо мы бачым, што толькі што арганізаванае ханства становіцца магутным і займае моцнае становішча ва Усходняй Еўропе, замяніўшы для Масквы, напрыклад, на некаторы

час нават Залатую Арду. Гэтага, напэўна, не адбылося б, калі б Улуг Мухаммед апіраўся толькі на сваю трохтысячную дружыну, з якой ён прыйшоў з Крыма, і не меў цалкам арганізаванага ў грамадскім і эканамічных адносінах насельніцтва, якому трэба было даць толькі палітычную арганізацыю, якую і ўнёс Улуг Мухаммед" ( М.І.Вараб"еў. Матэрыяльная культура казанскіх татараў. С.23 ).

Казань, якая заняла месца Булгара ў палітычных адносінах, заняла тое месца і ў эканамічных адносінах, а таму яна, як гандлёвы цэнтр, прыцягвала замежных гандляўцаў. Кірмаш на Гасцінным востраве зрабіўся міжнародным рынкам, куды з"язджаліся купцы з поўдня, поўначы, усходу і захаду.

Такое ўзмацненне Казані было не на карысць Маскве. Масква добра разумела гэта і таму ўсімі сіламі імкнулася аслабіць магутнасць Казанскага ханства. Нагайцы, якія качавалі паміж Казанскім і Астраханскім ханствамі, былі добрым матэрыялам у гэтых адносінах для Мсквы. Дастаткова сказаць, што за ўвесь час свайго існавання ( больш за 100 гадоў ) Казанскае ханства ваявала з Масквой 25 разоў, не лічачы дробных сутычак.

Барацьба Казані і Масквы, якая ішла з боку першай з мэтай узнаўлення свайго ўплыву на Русь, а з боку другой у імя авалодання Волжскім гандлёвым шляхам і знішчэння Казані, скончылася, як вядома, перамогай Масквы. Казань пала 15 кастрычніка ( па новаму стылю ) 1552 г., а Астрахань у 1554 г. Такім чынам, у гэтыя гады Казанскае і Астраханскае ханствы афіцыйна трацяць сваю самастойнасць; фактычная ж страта гэтай самастойнасці адбываецца намнога пазней.

Раней мы ўжо згадвалі, што булгары, страціўшыя сваю самастойнасць і падпаўшы пад уладу Залатой Арды, пазней выступаюць пад новай назвай — "казанскіх татар". І вось, перш чым працягваць расказ пра далейшыя падзеі, мы лічым неабходным асвятліць гэтае пытанне. Справа ў тым, што з першых дзён узнікнення Казанскага ханства рускія пачалі называць Казанскае ханства "Татарскім ханствам" або "Ханствам казанскіх татар". "Назва татары ( афіцыйная з боку рускіх назва насельнікаў Залатой Арды ) у адносінах да насельніцтва Волжска-Камскага края пачынае ўжывацца рускімі з таго моманту, калі пасля арганізацыі Казанскага ханства і бліскучых перамог гэтага ханства над рускімі казанскія татары захінулі сабою сапраўдных татар Залатой Арды, і ўсе былыя адносіны, якія

былі выпрацаваны рускімі у адносінах да Залатой Арды, былі перанесены на Казанскае ханства і яго насельніцтва. Угра-фінскія плямёны, якія жывуць з казанцамі па суседству, называюць іх не татарамі, а па-ранейшаму — булгарамі. Лугавыя чарамісы ( мары ) да гэтага часу называюць татар суас, а вацякі — бігер, г.зн. булгары" ( Вараб"еў. Матэрыяльная культура казанскіх татар. С.21) "Татары ж сябе ніколі не называлі гэтым імем, а наадварот, казанскія татары гэтую назву лічылі абразлівай мянушкай" ( там жа ).

( працяг будзе )

## ГОРКАЯ ДОЛЯ КАСІМАЎСКІХ ТАТАР

За 250 км на паўднёвы ўсход ад Масквы, у Разанскай вобласці на р.Ака знаходзіцца горад Касімаў. З сярэдзіны 15 ст. да 1681 года гэта быў цэнтр Касімаўскага ханства. У сярэдзіне 18 ст. ў выніку гвалтоўнага хрышчэння мусульман і русіфікацыі, а таксама выміранне непакорных у час неўраджаяў і эпідэміі, колькасць татар пачала памяншацца. У акрузе, некалі населенай у асноўным татарамі, цяпер жыве толькі 10 % ад агульнай колькасці ўсяго насельніцтва.

Працавіты і таленавіты народ нават у вельмі неспрыяльных умовах стараўся захаваць сваю веру, звычаі, мову і культуру. Амаль у кожнай татарскай вёсцы былі мячэць і школа. Зберагліся мізары. Дзеці вучыліся ў татарскіх школах, пісьмо было на аснове арабскай графікі. У Касімаве былі 2 мячэці, татарскі тэатр. Жылі па шарыяту. Мулла ў касімаўскіх татар быў самым паважаным чалавекам, бо ён вылучаўся высакароднымі думкамі і учынкамі. Пасля пятнічнай малітвы ў мячэці ён выступаў з хутбай, якая дабратворна ўплывала на вернікаў. Прыгожа спраўляліся вяселлі, сталы былі адкрыты для кожнага, але п"яных не было, бо татары не ужывалі алкагольныя напіткі.

Але каланіяльны прыгнет душыў татар. Весткі пра Лютаўскую рэвалюцыю дайшлі да далёкага Касімава. Выхад Фінляндыі з Рускай імперыі парадзіў надзею у татар пазбавіцца ад рускай залежнасці. У першыя гады савецкай улады многія верылі, што Ленін хоча даць волю ўсім народам, але ён хутка памёр. Сталін, як і яго любімы герой Іван Жахлівы, стварыў банду катаў-апрычнікаў — НКУС. Гэты недавучаны поп люта ненавідзеў Іслам і мусульманскія народы.

З Масквы на землі касімаўскіх татар рынуліся воўчыя зграі апрычнікаў, які называлі сябе чэкістамі. Былі рэпрэсіраваны многія муллы і мязімы ( муэдзіны ), апаганены, разбураны амаль усе мячэці. Неўзабаве ў татарскіх школах была забаронена арабская графіка, замененая лацінкай. Толькі-толькі ўсвоілі яе, як Масква загадала перайсці на кірыліцу. Была выканана задача — назаўсёды адлучыць татарскі народ ад яго старадаўняй культуры, каб нават Габдулу Тукая — класіка татарскай літаратуры людзі не маглі чытаць у арыгінале. Масква зачыняла татарскія школы, а дзяцей пад прымусам пасылалі ў рускія школы. Пачалася гвалтоўная русіфікацыя. Перш за ўсе былі арыштаваны, высланы, расстраляны самыя адукаваныя. Пасля,пад лозунгам раскулачвання тысячы татарскіх сем"яў былі высланы на пагібель. Прыкметай для раскулачвання і высялення быў бляшаны дах, а ў многіх касімаўскіх татар, цвярозых і працавітых, бляхай крылі не толькі хату, а і гаспадарчыя пабудовы. Зрабаваныя дамы забіралі разбэшчаныя актывісты, маёмасць раскулачаных прапівалася.

Жудаснае забойства татарскіх дзяцей у ауле Шарэн скаланула нават самых загартаваных аксакалаў. Два хлопчыкі, якія жылі і вучыліся ў горадзе, прыехалі да дзеда ў госці. На гэту бяду ў аул прыехалі п"яныя апрычнікі-чэкісты. Ім захацелася дзіцячай крыві. Схапілі дзяцей, дасталі наганы. Дзед на каленях прасіў катаў забіць яго, старога, але не чапаць дзяцей. П"яныя забойцы, адштурхнуўшы старога, застрэлілі дзяцей у яго на вачах.

Каб знішчыць памяць пра касімаўскіх татар, Масква замяніла татарскія назвы на рускія. Тысячы татар уцяклі ад чырвонай чумы за межы Расіі. Страшны, разбуральны віхор панёсся над татарскай зямлёй. На татарскіх мізарах цяпер пасуць кароў. На месцы разбураных мячэцяў сметнікі. Ва ўцалелых аулах не працуе ні адна мячэць, затое дзейнічае каля 20 праваслаўных цэркваў. У былым цэнтры касімаўскіх татар адчынены дзве праваслаўныя царквы і няма мячэці, дзе маглі б памаліцца вернікі-мусульмане.

У прыгожай мячэці, пабудаванай татарамі перад першай сусветнай вайной, разбураны мінарэт, а ніжні паверх скарыстоўваецца на вытворчыя патрэбы. А самае жудаснае ў гэтым акце вандалізму — у мячэці, на месцы, дзе быў мінбар ( кафедра для імама), адкуль гучалі пропаведзі-хутбы, цяпер зроблена прыбіральня. У старую мя-

чэць, якой больш чым 5 стагоддзяу, навезлі рознага ламачча і назвалі музеем. На самым ганаровым месцы партрэты тых, хто карчавау Іслам, разбурау мячэці і мусульманскія школы.

Многія мусульманскія помнікі — векавая спадчына касімаускіх татар, згублены назаусёды. Ніколі зграбныя мінарэты з залатымі маладзікамі на старажытных мячэцях у касімаускіх аулах не будуць цешыць вока татар, бо няма ужо і многіх аулау. Апаганеныя магілы, душы нябожчыкау мусульман клічуць сваіх нашчадкау не да помствы, да адраджэння татарскай зямлі у былой прыгажосці і славе.

## ДЗЕ БЫЛА РАДЗІМА ЦЮРКСКІХ НАРОДАУ ?

На думку адных вучоных, у стэпавай паласе між Уралам і Алтаем, на думку другіх — у Цэнтральнай Азіі. Адсюль, з цэнтра Азіі, накіроуваліся на захад, аж да Чорнага мора, і на усход — да Жоутага атрады ваяунічых гуннау, якія, верагодна, і былі найбольш старажытнымі з вядомых навуцы цюркскіх пляменау. Тут знаходзіуся цэнтр дзяржавы жуаньжуаняу і сяньбійцау, якія гаварылі на цюркскіх мовах. Зрэшты, цюркская мова гуннау, жуаньжуаняу, сяньбійцау — гэта толькі гіпотэза, хоць на карысць яе ёсць даволі важкія доказы. А аб тым, што менавіта цюркі стварылі вельмі моцную дзяржаву у цэнтры Азіі у 6 — 7 стст. н.э., не сумняваецца ніхто. Па-першае, аб гэтым гаворыць сама назва пануючага племені: цюркюты ( цюркю, або цюркі ). Па-другое, помнікі пісьменнасці, руны, пакінутыя гэтым народам, напісаны на самай чыстай цюркскай мове. "Рунамі" іх назвалі за падабенства з пісьмёнамі старажытных германцау, хоць падабенства еурапейскіх і азіяцкіх рунау чыста павярхоунае.

Дзяржава старажытных цюркау не абмяжоувалася граніцамі Цэнтральнай Азіі і нават Азіі. За вельмі кароткі час, з 550 па 580 год, цюркюты пашырылі сваю уладу ад Вялікай кітайскай сцяны да ракі Дон. Дзяржава іх межавала з трыма вялікімі дзяржавамі таго часу: Візантыяй, Іранам, Кітаем. Але дзяржава старажытных цюркау была недаугавечнай. Між правадырамі цюркютау пачаліся дынастычныя спрэчкі. Іх умела распальвалі кітайцы, якія разумелі, што Вялікая кітайская сцяна не зможа засцерагчы краіну ад вельмі небяспечнага

суседа.

Слабасцю цюркютаў скарыстаўся роднасны ім народ, уйгуры, які раней быў у падпарадкаванні ў цюркютаў. У 745 годзе ён становіцца на чале вялікай дзяржавы. Уйгуры былі адважнымі воінамі. Па словах гісторыкаў, цюркюты"іх ( уйгураў ) сіламі геройствавалі ў пустынях Поўначы". Разам з тым уйгуры імкнуліся асэнсаваць дасягненні цывілізацыі таго часу. У сваю дзяржаву яны запрашалі місіянераў з Сярэдняй Азіі, узводзілі гарады, займаліся земляробствам. Ужо ў 10 ст. складваецца уйгурская літаратурная мова, а пісьменнасць у уйгураў была ўжо на два стагоддзі раней. Але неўзабаве дзяржаву уйгураў заваявалі суседзі з поўначы — кыргызы, якія таксама гаварылі на цюркскай мове. Частка уйгураў адкачавала ўглыб Цэнтральнай Азіі, другая — у Сярэднюю Азію, а трэцяя засталася "на месцы". Адзіная мова распалася на мноства дыялектаў. Знікае і назва "уйгуры". З"яўляецца яна зноў на лінгвістычнай карце Азіі аж у 20 стагоддзі!

На прасторах Сіньцзяна — паўночна-заходні Кітай — і ў некаторых раёнах Сярэдняй Азіі жывуць носьбіты мовы, якая доўгі час не мела адзінай назвы. Носьбіты гэтай мовы называлі сябе то па месцы жыхарства ( напрыклад, кашгарлык — "жыхар Кашгара"), то па роду занятказў ( напрыклад, таранчы — "земляроб" ) і г.д. Многія заходнееўрапейскія вучоныя называлі гэтую мову ўсходнецюркскай. У 1921 годзе вядомы рускі цюрколаг С.М.Малаў на з"ездзе ўсходнецюркскай інтэлігенцыі, што праходзіла у Алма-Аце, прапанаваў адрадзіць старажытную назву "уйгуры" і называць гэтак усходніх цюркаў Сіньцзяна і Сярэдняй Азіі. Прапанова цюрколага была прынята.

Для мовы, названай уйгурскай, або, каб адрозніць яе ад старажытнай мовы уйгураў — новауйгурскай, ствараецца новая пісьменнасць, спачатку на лацінскай, а затым на рускай аснове. Так пішуць уйгуры, якія жывуць на тэрыторыі былога СССР. У Кітаі вынішчалася іх нацыянальная культура, праводзілася гвалтоўная кітаізацыя, аб чым пісалася ў незалежным друку. Колькасць уйгураў у Кітаі больш за 6 млн. чалавек.

Назва уйгуры, прапанаваяная прафесарам С.М.Малавым, прыжылася і цяпер агульнапрынятая. Аднак апошнія даследаванні паказваюць, што новауйгурская мова (мова сучасных уйгураў) не з"яўляецца пра-

мым нашчадкам. Яна значна бліжэй да узбекскай мовы, а не да той мовы, на якой гаварылі старажытныя уйгуры. У гэтым няма нічога дзіўнага: качэўнікі-цюркі рабілі працяглыя пераходы з месца на месца, і цяпер у Сіньцзяне, магчыма, жывуць не тыя цюркі, якія былі там у раннім сярэднявеччы. Вось чаму некаторыя заходнія лінгвісты замест тэрмінаў "уйгурскі" і "новауйгурскі" аддаюць перавагу старому тэрміну — "усходнецюркская мова", маючы на ўвазе мову цюркаў Сіньцзяна і часткі Сярэдняй Азіі. Напрыклад, вядомы ўсяму свету як дыпламат ( і ўсяму філалагічнаму свету — як цюрколаг ) швед Гунар Ярынг выдаў нядаўна слоўнік мовы цюркаў Сіньцзяна пад назвай "Усходнецюркскі слоўнік".

Паводле ацэнак на 1985 г. у свеце жыло амаль 7 млн. уйгураў. На тэрыторыі былога СССР жыве каля 240 тысяч уйгураў, у Афганістане каля 2 тысяч. Да старажытных цюркаў адносяць тафалараў ( менш за 1 тысячу чалавек, жывуць у Іркуцкай вобласці ) і тувінцаў ( у Туве каля 200 тысяч чалавек, у Манголіі і іншых краінах каля 20 тысяч). Тафалары жывуць ва Усходніх Саянах, на мяжы Іркуцкай вобласці і Тувы. Вельмі блізкія да старажытнай мовы цюркаў і дыялекты алтайцаў, якія насяляюць паўднёвую частку Горна-Алтайскай аўтаноміі. Нашчадкам мовы старажытных кыргызаў, пераможцаў уйгураў, магчыма, з'яўляецца хакаская мова ( на ёй гавораць больш за 70 тысяч чалавек ).

Да 20 ст. у хакасаў, якія жывуць у сярэднім цячэнні Енісея і яго прытокаў Абакан і Чулым, не было адзінай літаратурнай мовы. Некалькі плямёнаў, якія гаварылі на розных дыялектах, аб'ядноўвалі пад агульнай назвай "абаканскія татары" ( на рацэ Абакан і горадзе на ёй ). Звалі іх таксама енісейскімі цюркамі. У першай палавіне 20 ст. сфарміравалася адзіная літаратурная мова — хакаская.

## ПРА ГЭТА НЕ ПІСАЛІ Ў ПАДРУЧНІКАХ

( малавядомыя старонкі этнічнай гісторыі татар )

У 1990 г. адзначалі 750-годдзе Неўскай бітвы, а ў 1991 годзе — 750-годдзе Лядовага пабоішча. У гэтых бітвах рускія дружыны узначальваў князь Аляксандр Яраславіч, які атрымаў пасля ганаровую мянушку Неўскі. Цяпер, калі абвастрыліся міжнацыянальныя адносіны, не шкодзіць згадаць, што гісторыя дружбы народаў мае глыбокія карані.

Хто яшчэ, акрамя славян, насяляў Усходнюю Еўропу ? У 2 — 4 стагоддзях паяўляюцца гуны, частка якіх дасягнула берагоў Рэйна. Пазней выйшлі на арэну хазары, потым булгары. Гэта былі пераважна роднасныя цюркамоўныя плямёны, што паходзілі з Алтая. Паміж імі адбываліся міжусобныя войны. Племя, якое перамагала, давала назву усяму аб"яднанню ( каганату ). У канцы 6 ст. на Паўночным Каўказе, у Прыдонскіх і Прыкаспійскіх стэпах, паміж Каспіем і Азоўскім морам узнікае Вялікая Булгарыя, якая дасягнула свайго росквіту у перыяд праўлення хана Курбата. Пры сынах Курбата Аспаруху і Кадраку хазары перамагаюць булгар. Пасля, у пачатку 80-х гадоў 7 ст., частка булгар двума групамі перасяляюцца: адна — на Дунай з ханам Аспарухам ( пры гэтым некаторыя "заглянулі" у Крым, там аселі, змяшаліся з абарыгенамі — таўрамі і сталі называцца крымскімі татарамі ), другія — на Волгу і Каму з ханам Кадраком. Булгары на Дунаі асімілявaліся сярод славянскіх плямён, далі ім сваё імя — балгары ( волжскіх і камскіх называюць булгарамі, дунайскіх, славянізаваных — балгарамі ) і пакінулі значны антрапалагічны след у знешнім абліччы насельнікаў.

У Паволжа булгары прыйшлі не на пустое месца, а да сваіх суродзічаў, бо у Сярэднім Паволжы цюркі-качэўнікі жылі ужо у эпоху бронзы, гэта значыць больш за тысячу гадоў таму ( Токараў С.А. Этнагенез народаў СССР. М., С.172 ). Яны заснавалі тут дзяржаву— Булгарскае ханства. Яе сталіца у рускіх летапісах называецца Булгары Вялікія. Булгары прынялі Іслам у 830 — 840 гадах ( ёсць звесткі некаторых даследчыкаў, што частка булгараў прынялі Іслам у 822 г. ).

Узаемадачыненні з рускімі у булгар былі складаныя. Ваенныя сутычкі адбываліся у 985, 1088, 1120, 1164, 1172, 1184, 1186, 1218, 1220, 1229, 1236 гадах. Між іншым, трэба адзначыць, што булгары куды часцей адбіваліся ад нападаў, чым нападалі самі, хоць у час сваіх нападаў даходзілі да Мурама ( 1088 і 1184 ) і Усцюга ( 1218) і авалодвалі гэтымі гарадамі. Сталіца волжскіх булгараў не раз разбуралася рускімі войскамі, але паміж сутычкамі бывалі працяглыя перыяды спакою. Так, пад 1024 годам летапіс згадвае, што у гэтым годзе у Суздалі быў страшэнны голад і булгары адправілі рускім вялікую колькасць збожжа.

З пачатку другой паловы II ст. у стэпах Паўночнага Прычарнамор"я ад вусця Дуная да ніжняга цячэння Дона і Волгі качавалі роднасныя булгарам цюркскія плямёны кыпчакоў ( кыпчак азначае па-цюркску — кола ). "Рускія упершыню убачылі кыпчакоў у II ст., назвалі іх полаўцамі ад светлага саламяна-жоўтага палаво́га ( колер спелай збажыны ) колеру валасоў " ( Чывіліхін У.А. Памяць. Збор твораў. Т.4.М., 1985.С.115 ). На захадзе полаўцаў называлі куманамі. Начытаешся некаторых вучоных-інтэрпрэтатараў "Слова пра паход Ігаравы", дык у іх полаўцы — злосныя ворагі Русі. А ці правільная такая характарыстыка ?

Даследчыкі адзначаюць, што полаўцы былі дужымі, вынослівымі, прыгожымі, умела упраўлялі канём і валодалі зброяй. У іх былі добрыя рамеснікі.

У пачатку 12 ст. усе чарнігаўскія князі і большасць князёў Паўночна-Усходняй Русі мелі у сваей радні полаўцаў. Напрыклад, нашчадкі чарнігаўскіх князёў — Рурыкавічаў: Баратынскія, Валконскія, Гарчаковы, Даўгарукія, Абаленскія, Адоеўскія, Рапніны, Шчарбатавы і інш. ( БСЭ. Т.22. М., 1975. С.459 ).

Для ілюстрацыі прывяду два прыклады. Пазнаёмімся з лістком архіва кампазітара А.Барадзіна, дзе сабраны цікавыя звесткі:
дзед Ігара — Алег — быў жанаты з дачкой хана Тугры;
бацька Ігара — Святаслаў — быў жанаты з дачкой хана Аюпа;
сын Ігара — Уладзімір быў жанаты з дачкой хана Канчака ( яе поўная імя — Свабода Канчакоўна ).

Калі дадаць да сказанага, што Уладзімір і Канчакоўна былі заручаны Ігарам і Канчаком ці не ад часу нараджэння іх дзяцей, то іх вяселле ужо пасля уцёкаў з палону бацькі — князя Ігара святкавалася двойчы — у стане Канчака, а потым у Ноўгарадзе-Северскім, што Уладзімір Ігаравіч і Канчакоўна былі прадзедам і прабабкай ( па мацярынскай лініі ) Аляксандра Неўскага ... ( Левашоў. Пра згадкі оперы А.Барадзіна "Слова пра паход Ігаравы" Музыкальная жизнь. 1985.№ 1. С.16.)— выходзіць, князь Ігар па крыві быў на 3/4 полаўцам.

Такім чынам, галоўныя героі "Слова пра паход Ігаравы" князь Наўгарод-Северскі Ігар Святаславіч і палавецкі хан Канчак былі сваякамі і прадзедамі Аляксандра Яраславіча Неўскага па мацярынскай лініі. Вось вам і полаўцы — "Лютыя ворагі"!

"Палавецкія прыгажуні былі маццяркамі многіх рускіх князёў, у тым ліку Аляксандра Неўскага" ( Гумілёў Л.М. Старажытная Русь і Вялікі стэп. М., 1989.С.473 ). Заснавальнік Масквы князь Юрый Даўгарукі таксама меў жонку-палаўчанку. Яго унук Яраслаў Усеваладавіч быў бацькам Аляксандра Неўскага.

Калі знатная палаўчанка выходзіла замуж за рускага князя, разам з ёю назаўсёды адпраўляліся ў гэтае княства і яе сяброўкі і атрад маладых воінаў (джыгітаў ), так званы каравул ( па-цюркску каравул — ахова ). Гэтыя джыгіты станавіліся самай надзейнай апорай князя ў міжусобных і знешніх войнах. Рускае баярства, стаўбавое дваранства ў асноўным вядуць свой пачатак ( слова баярын паходзіць ад двух цюркскіх слоў: бай ір — багаты мужчына ). Напрыклад, вядомы рускі вучоны-цюрколаг прафесар Л.М.Гумілёў расказаў аб тым, што дзявочае прозвішча А.А.Ахматавай — Гарэнка — бярэ пачатак з 12 ст. ад кыпчака-полаўца Гарэна.

Дык вось, кыпчакі-полаўцы ваявалі пад сцягамі князя Аляксандра Яраслaвіча ў Неўскай бітве і Лядовым пабоішчы як найбольш прафесійна падрыхтаваная ў ваенных адносінах частка рускай дружыны. Яны ж прынясли з сабой і баявы вокліч "ура". Крыху пазней, у 1269 годзе, ужо пасля смерці Аляксандра Неўскага, кыпчакі-полаўцы, якія складалі асноўную масу насельніцтва Залатой Арды, дапамаглі рускім разграміць крыжакоў і адстаяць Ноўгарад. Яшчэ раней, у 1121 г. яны дапамаглі грузінскаму цару Давіду-Будаўніку разбіць турак-сельджукаў.

Куды ж падзеліся кыпчакі-полаўцы ? Частка ўлілася ў рускі і украінскі народы. У полаўцаў рускія запазычылі каля 2 тысяч цюркскіх слоў, у тым ліку каля 500 слоў такіх, без якіх немагчыма штодзенная гутарковая руская мова. Частка полаўцаў пайшла ў Венгрыю. Асноўная маса кыпчакоў-полаўцаў стала другім па велічыні кампанентам ( галоўны кампанент — булгары ) казанскататарскага народа.

Калі б Аляксандру Яраслaвічу Неўскаму давялося запаўняць сучасную анкету на сябе, то ў пункце 5 у яго было б больш падстаў адказаць "татарын", чым "рускі". На жаль, падручнікі па гісторыі і літаратуры, па якіх вучылі дзяцей і юнакоў у нашых школах, маўчаць аб гэтых падзеях і фактах.

ТАТАРСКІЯ НАЗОВЫ НА СМАРГОНШЧЫНЕ

Калі прыязджаеш на сталую працу ў новую мясцовасць, звяртаеш увагу на прозвішчы людзей, назвы населеных пунктаў. Адны прозвішчы, вёскі гучаць падобна тым, дзе прышлося жыць раней, некаторыя гучаць амаль таксама, толькі маюць іншы націск, а бываюць і зусім адметныя. Спакваля, пазнаёміўшыся з мясцовымі людзьмі, краязнаўцамі раскрываеш для сябе цікавую старонку мясцовай гісторыі. Але некаторыя назовы ўсе ж так і застаюцца загадкай.

З гісторыі і краязнаўчай літаратуры вядома, што на Смаргоншчыне шмат стагоддзяў таму былі паселены татары-воіны ( іх нашчадкаў налічваецца 110 чалавек ), якія былі на вайсковай службе ў вялікага князя Вітаута, затым у яго пераемнікаў і каралёў Рэчы Паспалітай. Раней татар, відаць, было больш, чым цяпер. Па розных прычынах колькасць іх скарацілася. Некаторыя, магчыма, былі ахрышчаны і змяшаліся з мясцовым, пераважна беларускім, насельніцтвам. У літаратурна-навуковым гадавіку "Скарыніч" ( выпуск 2, 1993 г. ) змешчана вельмі цікавая публікацыя спадара Вячаслава Станкевіча "Бацькава Адысея" пра славутага беларускага вучонага, які нарадзіўся на Смаргоншчыне ў вёсцы Арляняты ( раней гэта вёска называлася Вурляняты ), што жылі там, магчыма, даўней татары, якія былі ахрышчаны.

Спрактыкаваны вучоны-тапаніміст, прааналізаваўшы ўсе назовы Смаргоншчыны, вылучыў бы тыя назовы, якія маюць татарскае паходжанне. Я паспрабаваў адабраць тыя назвы вёсак і хутароў, у якіх ёсць нешта татарскае, ці якія звязаны з імі, напрыклад, Войневічы ў Крэўскім сельсавеце, дзе жылі татары-воіны. Некаторыя з гэтых вёсак амаль абезлюдзелі, некаторыя ўжо зніклі. Мой спіс атрымаўся такі: Гамзічы, Асаны, Дахны, Касымава і Войнічы ў Крэўскім сельсавеце; Ардашы, Балобаны, Арляняты, Асмолаўка, Біцяняты, Гайлешы, Каранды, хутары Курманіха і Ластая Ардашоўскага сельсавета; Татаршчына, Галяшонкі і Базары Бялькоўшчынскага сельсавета; Даўбучкі Сінькоўшчынскага сельсавета ( да нядаўняга часу тут была старадаўняя мячэць, адна з найстарэйшых драўляных пабудоў такога тыпу ў Заходняй Еўропе, калі да 1939 г. у гэтай мясцовасці была польская ўлада. Гэта мячэць была абвешчана помнікам архітэктуры. Цяпер мяркуюць яе адбудаваць каля Менска ў музеі пад адкрытым небам )

Калі я пазначыў гэтыя вёскі на картасхеме раёна, то аказалася, што яны знаходзяцца на старадаўніх шляхах, ці паблізу ад іх, якія вялі ад славутага Крэва на Ашмяны — Вільню, на Навагрудак, на Менск, на Смаргонь. Магчыма, што паселеныя тут татары выконвалі ролю перадавой варты, каравула ( слова каравул па-татарску абазначае варта ) Крэўскага замка, магчыма тут збіраліся татарскія воіны, калі выпраўляўся ў паход вялікі князь ці кароль.

У Сінькаўшчынскай сярэдняй школе настаўнікі і дапытлівыя вучні стварылі краязнаўчы музей. Вывучаючы родную старонку яны, безумоўна, будуць вывучаць і гісторыю сваіх населеных пунктаў, гісторыю іх назваў. Яны, відаць, і знойдуць тлумачэнне таму, што сёння яшчэ застаецца загадкай.

---

МУСУЛЬМАНСКІЯ ІМЁНЫ

| арабская графіка | беларуская графіка | паходжанне слова | значэнне слова |
|---|---|---|---|
| غفور | Гафур | арабскае | міласэрны |
| كلزار | Гульзар | персідскае | кветнік |
| كل نار | Гульнар (а) | персідскае | кветка граната |
| جبّار | Джаббар | арабскае | магутны |
| جميل | Джаміль | арабскае | прыгожы, добры |
| جميلة | Джамілá | арабскае | прыгожая, добрая |
| جعفر | Джафар | арабскае | ручаіна |
| دلآرا | Дзіляра | персідскае | каханая, прыгожая |
| زينب | Зайнаб | арабскае | мажнáя |
| ابراهيم | Ібрагім | арабскае | бацька народаў |
| ادريس | Ідрыс | арабскае | старанны |
| ليلى | Лейлá | арабскае | начная, лілія |
| مدينه | Мадзіна́ | арабскае | святы горад |

ДЛЯ ЭТНОГРАФАЎ І ЭТНОЛАГАЎ

Безумоўна, культура татараў на Беларусі з"яўляецца агульначалавечым здабыткам і вывучэнне яе — абавязак навукоўцаў перад гэтым народам, на які этнографы амаль не звярталі ўвагі. А між тым, татары самым непасрэдным чынам удзельнічалі ў этнагенезе усходніх славян, у тым ліку беларусаў.

Справа ў тым, што фактычны матэрыял, намножаны этнаграфіяй, характарызуе этнасы ў акрэслены час і наўрад ці можа адлюстроўваць культуру сучасную. Аднак адныя і тыя ж элементы культуры могуць адыгрываць розную ролю на розных этапах этнагенезу. Этнасы, якія жывуць у іншаэтнічным атачэнні, не могуць не ўплываюць на суседзяў і не адчуваць зваротнага ўплыву. Наколькі гэтыя працэсы садзейнічаюць кансалідацыі ці разбурэнню этнасаў, можна высветліць толькі на аснове этнаграфічных даследаванняў сярод людзей на месцы іх пражывання. Вядома, што развіццё этнасаў мае агульныя заканамернасці, і іх таксама немагчыма выявіць без супастаўлення ролі тых ці іншых элементаў этнічнай культуры на розных этапах этнагенезу. Гэта дазволіць даваць навуковы прагноз тэндэнцый этнагенезу і своечасова спыняць альбо хаця б змяншаць дзеянне негатыўных фактараў, якія разбуральна ўплываюць на этнічную культуру. Вось мэта, якая павінна стаяць перад даследчыкамі-этнографамі і этнолагамі, якія працуюць непасрэдна з людзьмі.

Што ж да татараў Беларусі, то тут задача яшчэ больш актуальная, бо палітычныя і эканамічныя абставіны могуць выклікаць рэакцыю як з боку татараў, так і з боку беларусаў, якую цяжка прадугледзець.

На погляд аўтара, асноўнымі напрамкамі этнаграфічных даследаванняў татараў павінны быць найперш асаблівасці культуры татараў, якія жывуць на Беларусі. Дзеля гэтага надзвычай важна даследаванне гаспадаркі і традыцыйных метадаў гаспадарання. Вядома, што татары вылучаюцца надзвычай руплівым стаўленнем да свайго поля, агарода, сада, а вынікі іх працы даюць багаты плён. Таму хацелася б мець апісанне традыцыйных метадаў гаспадарання, апісанне прылад працы і спосабаў іх выкарыстання, догляду за агародам і садам, збору, перапрацоўкі і захавання ўраджаю і г.д. Якія пры гэтым выконваліся абрады і бытавалі звычаі ? Як падзейнічала сучасная навука і тэхналогія на традыцыйныя метады гаспадарання?

Чым на думку самых татарау адрозніваюцца іх метады гаспадарання ад метадау суседняга сялянскага насельніцтва ? Тое ж можна сказаць і пра рамёствы, якімі добра валодалі татары у мінулым —славіліся вырабам скур і аучын, рымарствам, шавецтвам і інш. Добра было б прасачыць, як змянілася у свядомасці людзей каштоунасць гэтых заняткау і якое месца яны займаюць сёння у гаспадарчай дзейнасці.

Але даследаванне культуры не замыкаецца на гаспадарцы. Вельмі цікавым было б даследаванне жылля. Вядома, што татары запазычылі прыёмы узвядзення пабудоу у мясцовага насельніцтва, але прыстасавалі хату для свайго сямейнага і грамадскага побыту. Таму трэба высветліць, якая у іх планіроука хаты, як называюцца элементы пабудовы, розныя часткі памяшканняу. Якая роля печы ? Дзе знаходзіцца самае пачэснае месца у хаце і якія абрады і звычаі з імі звязаны ? Ці ёсць падзел на мужчынскую і жаночую частку, а калі ёсць, то як ён ажыццяуляецца ? Якое унутранае убранства хаты і якія абавязковыя яго элементы ? Наколькі славянская хата стасуецца з татарскай культурай ?

Вельмі патрэбныя звесткі пра аздабленне, упрыгожанне жылля. Якія і дзе ужываюцца арнаменты і узоры ? Ці звязаны яны з сямейнымі альбо грамадскімі абрадамі ? Якія гаспадарчыя будынкі узводзяцца у татарскім двары і якая планіроука двара ?

Паусюдна прызнана, што адзенне — адзін з самых кансерватыуных элементау этнічнай культуры. Зусім відавочны, напрыклад, уплыу татарскай традыцыі на так званы Тураускa — Давыд-Гарадоцкі строй жаночага адзення. Таму вельмі важна атрымаць звесткі аб камплектах традыцыйнага жаночага і мужчынскага адзення з розных рэгіёнау кампактнага пражывання татарау на Беларусі. Неабходна звярнуць увагу на пакрой і назву розных элементау адзення, яго упрыгожання ( вышыука ці аплікацыя — нашытыя стужкі ці кавалкі каляровай тканіны ). Якія узоры выкарыстоуваліся пры аздабленні адзення і дзе яны размяшчаліся ? Які насілі абутак і якія галауныя уборы ? Чым адрознівалася будзённае адзенне ад адзення святочнага і адзення, якое апраналі пад час абрадау ? Чым адрознівалася адзенне дзяучынкі, дзяучыны, маладзіцы, кабеты і старой ? Ці былі якія адрозненні у адзенні удавы ? Ці адрозніваліся галауныя уборы і прычоскі жанчын рознага узросту і рознага сямейнага становішча ?

Было б няблага атрымаць узоры камплектаў адзення альбо хоць бы фотаздымкі з грунтоўнымі апісаннямі. Есць упэўненасць, што прыхільнікі татарскага адраджэння адгукнуцца на гэты артыкул, бо прафесійны этналагічны аналіз будзе толькі на карысць татарскай культуры.

Вельмі важным з"яўляецца даследаванне сямейнай абраднасці. Вядома, тут трэба ўлічваць суадносіны абраднасці і Ісламу. Аднак вядома, што нягледзячы на рэлігійную абумоўленасць сямейных абрадаў, яны адрозніваюцца сваімі элементамі ў розных рэгіёнах. Вось гэтыя адрозненні і дазволяць этнолагу рабіць высновы пра асаблівасці культуры Але такія адрозненні можна зглядзець толькі пры параўнанні дастатковай колькасці грунтоўных апісанняў. Цікавы таксама павер"і, прымхі ці забабоны, якія звязаны з цяжарнасцю жанчыны.

Таксама важна высветліць, якія абрады і якімі членамі сям"і выконваюцца падчас нараджэння дзіцяці ( ніфас ). Хто прымае роды ? Як паводзіць сябе мужчына ў гэты час ? Якія абрады павінна выконваць парадзіха ? Якія павер"і, прымхі, забабоны звязаны з нованароджаным ? Чым яны тлумачацца ? Калі і як праводзіцца свята азан ( абрад надання дзіцяці імя ) ? Ці ёсць адрозненні ў правядзенні святога азана над хлопчыкам і дзяўчынкай ? У чым яны праяўляюцца ? Хто і ў якой ролі ўдзельнічае ў гэтым абрадзе ? Наколькі захаваўся рытуал сюнет ( абразанне ) ? Як і хто яго праводзіць ? Якія забабоны існуюць у сувязі з гэтым рытуалам ?

Шырокае кола пытанняў закранае выхаванне і навучанне дзяцей. Менавіта ў раннім дзяцінстве чалавек і ўспрымае этнічную традыцыю. На думку аўтара, без адраджэння традыцыйнай народнай педагогікі ўсе намаганні па адраджэнні этнічнай культуры наогул не маюць шанцаў на поспех. Таму неабходна глыбокае і ўсебаковае вывучэнне праблемы. І ў першую чаргу — вывучэнне ролі сям"і, грамадскіх інстытутаў ( напрыклад, ахрэтаванне — пабрацімства ).

Але пачынаць даследаванне трэба з прыёмаў догляду за немаўляткам. Што ўяўляе сабой калыска ? Яе канструкцыя, аздоба ? Якія звычаі і забабоны з ёю звязаны ? Якія ігры, гушкалкі, пацешкі выкарыстоўвалі маці і дамашнія пры доглядзе за немаўляткам ?Ці пеліся калыханкі і якога яны зместу ? Якімі цацкамі забаўлялі малое ? Хто іх рабіў ? Як немаўляці навучалі дзейнічаць ручкамі, ножкамі ?

Як яго вучылі гаварыць ? Хадзіць ? Ці ужываліся для навучання хадзьбе якія-небудзь прыстасаванні і што гэта за прыстасаванні ? З кім больш часу праводзілі дзеці да пяці гадоу — з маці, бацькам, з дзядулямі і бабулямі, з другімі дарослымі, з аднагодкамі ? Якія гульні пераважалі у гэтым узросце ? Якімі цацкамі гулялі дзеці і хто іх рабіу ? Якое становішча дзяцей у цяперашняй сям"і? Наколькі цесныя кантакты дзіцяці з ягонымі аднагодкамі ? Ці ёсць падзел дзіцячых кампаній на дзявочыя і хлапечыя ? Наколькі строга яго трымаюцца ? Якія адносіны у дзяцей да супрацьлеглага полу ( абыякавыя, адмоуныя, цікауныя, як да самога сябе ) ? З якога узросту дзеці пачынаюць працаваць ? Якія работы ім давяраюцца ? Ці ёсць спецыяльныя дзіцячыя прылады працы ? Ці ёсць работы хлапечыя і дзявочыя ?

Мяркую, пераічаных пытанняу пакуль дастаткова. Далейшыя даследаванні будуць датычыць падлеткавага узросту. Яшчэ раз хачу падкрэсліць, што адказы на пастауленыя пытанні дазволяць больш ясна спазнаць стан, у якім знаходзіцца этнас і зрабіць высновы, якія вельмі дапамогуць згуртаванню "Аль-Кітаб" у яго карыснай рабоце.

Найважнейшая падзея у жыцці чалавека — шлюб. Як ён дзеецца і чым адрозніваецца ад шлюбавання беларусау і наадварот; якія элементы беларускага вяселля успрыняты татарамі ? Вось гэтае пытанне і з"яуляецца вядучым. Але проста адказаць на яго немагчыма. Таму слушна прасачыць шлях узаемаадносін сямей маладых і іх саміх да шлюбу. І найперш — як выбіраецца нявеста. Хто у гэтым адыгрывае галоуную ролю ? Як улічваюцца жаданні, сімпатыі дзяучыны ? Якія падзеі папярэднічаюць вянчанню ? Якія пры гэтым спраууляюцца абрады ? Якія стэрэатыпы паводзін абавязковыя для маладых ? Іх сем"яу ? Іх родзічау ? Якія падзеі адбываюцца у дамах маладой і маладога напярэдадні вянчання ? Ці заусёды пачынаюцца у доме маладой ? Якія абрады адбываюцца у доме жаніха перад тым, як ён адправіцца у дом маладой ? Што робяць у гэты час у доме нявесты ? Хто суправаджае жаніха ? Як ідзе абрад вянчання ? Хто у ім удзельнічае ? Якая роля удзельнікау абраду ? Ці бываюць удзельнікамі дзеці і якая іх роля ? Дзе ладзіцца вясельнае застолле ? Як праводзяць маладых з мому бацькоу маладой ? Што робіцца па дарозе да дому маладога ? Хто сустракае маладых ?

Як сустракаюць маладых у доме маладога ? У якім парадку садзяцца удзельнікі вяселля падчас застолля ? Хто якое месца займае ? Якія стравы падаюцца гасцям і у якім парадку ? Якія абрады і рытуалы выконваюцца падчас застолля ? Дзе тады знаходзяцца малады і маладая ? Якія рэчы абавязковыя на стале ? Хто дае знак да сканчэння застолля ? Што адбываецца далей ? Што павінна рабіць маладая па заканчэнні застолля ? Якіх правіл паводзін павінны слухацца маладыя на вяселлі ? У першыя дні пасля вяселля ? У першыя тыдні пасля вяселля ?

Вось тыя першачарговыя пытанні, на якія хацелася б атрымаць адказы наконт татарскага вяселля. Зразумела, што яны не могуць выявіць усе падрабязнасці, але зноў жа змогуць даць уяўленне пра асаблівасці абраду беларускіх татарау як у параўнанні з паволжскімі і крымскімі татарамі, так і у параўнанні з беларусамі. А з другога боку — наколькі абрад беларускага вяселля аказаў уплыў на татарскае вяселле і наадварот.

Агульнавядомы вельмі шчырае і шаноўнае стаўленне татараў да сваіх продкаў і да нябожчыкаў, нават у параўнанні з усходнімі славянамі. Яны адлюстроўваюцца ў пахавальных і памінальных абрадах. Нягледзячы на тое, што гэтыя абрады дастаткова падрабязна апісаны і вядомы, апісанне іх застаецца у наш час зусім неабходным, бо яно дазволіць узнавіць не адну характэрную рысу татарскай культуры. Тым больш, што даследчыкаў, якія так ці інакш закранулі гэтае пытанне, цікавіла у першую чаргу "экзотыка", што недапушчальна, бо трацяцца рысачкі, на першы погляд нязначныя, неістотныя, а на самой справе іншы раз самыя сутнасныя для гэтага элемента этнічнай культуры. Не хочацца распісваць пахавальны і памінальны абрад на пытанні, але вялікая просьба апісваць іх як мага падрабязней.

Мы не закранулі іншых сфер этнічнай культуры і спадзяемся, што такі выпадак яшчэ надарыцца. А зараз коратка аб іншых напрамках этнаграфічных даследаванняў. Гэта — удзел татараў у этнагенезе ўсходніх славян. Калі мы выявім асаблівасці культуры татараў Беларусі, то лягчэй будзе вырашыць і гэтую праблему, якой акрамя Л.М.Гумілёва, здаецца, ніхто грунтоўна не займаўся. А з другога боку, будзе больш ясным і уплыў славян на этнагенез татараў. Адначасова стала больш ясным, чаму на поўдні і усходзе Беларусі татарскіх паселішчаў не збераглося. Тлумачэнні гэтага пакуль што незадавальняльныя.

Гісторыя татар на Беларусі паказвае, што параўнальна невялікі народ здольны захаваць сваю культуру ў іншаэтнічным атачэнні. Як і дзякуючы чаму гэта ўдаецца -трэці напрамак этналагічнага вышукання татараў Беларусі. Магчыма, заканамернасці, адкрытыя ў выніку такіх даследаванняў, будуць карысныя не толькі татарскаму этнасу. Бо гістарычны вопыт любога этнасу належыць да агульначалавечых здабыткаў.

Нарэшце, чацвёрты напрамак -- гэта даследаванне сувязей татараў Беларусі з татарамі іншых рэгіёнаў былога СССР, а таксама з татарамі за яго межамі. Магчыма, гэта дапамагло б замежным татарам больш ясна зразумець, якую дапамогу патрэбна аказаць татарам Беларусі дзеля захавання і далейшага развіцця татарскай культуры як часткі агульначалавечай. Бо знікненне нават адной этнічнай культуры, безумоўна, збедняе генетычны фонд культуры агульначалавечай, што адмоўна адбіваецца на яе "здароўі". І захаванне культур так званых малакалькасных народаў — не такая ўжо і малая задача. З гэтага пункту гледжання ў захаванні такой культуры аб"ектыўна зацікаўлены і этнас, у асяроддзі якога пражываюць татары.

Як этнолаг я разлічваю на разуменне і дапамогу татараў Беларусі. Усе матэрыялы, пасля іх вывучэння, будуць зберагацца, і доступ да іх будзе адкрыты ўсім цікаўным. Найбольш каштоўныя матэрыялы будуць абнародаваны толькі за подпісам аўтараў. Пры выкарыстанні іх абавязковая спасылка на аўтараў ( апошняе датычыць і ўсіх Вашых допісаў ). Вашы допісы пасылайце на адрас:

224665, г.Брэст, Бульвар Касманаўтаў, д.21. Дзяржпедінстытут імя А.С.Пушкіна, кафедра гісторыі славянскіх народаў.
Жлоба С.П.

---

## ПРА ГАРЭЛКУ І СВІНІНУ

В последнее время выяснено также особо вредное воздействие на организм алкоголя, принимаемого вместе со свининой. Смертность от цирроза печени в разных странах, согласно статистике, прямо пропорциональна произведению количества ежегодно потребляемой свинины на соответствующее количество выпиваемого этанола в перерасчете на душу населения. Свиное сало содержит много арахидоновой кислоты, которая в человеческом организме становится одним из компонентов простагландина. Это вещество в больших концентрациях способствует злокачественному перерождению клеток. Алкоголь же усиливает выработку простагландина из арахидоновой кислоты.

# СЛОЎНІК ЭНЦЫКЛАПЕДЫЧНАГА ДАВЕДНІКА "ТАТАРЫ БЕЛАРУСІ, ЛІТВЫ І ПОЛЬШЧЫ"

Складзены на падставе даведнікаў і манаграфічнай літаратуры. Вялікія літары абазначаюць скарочанае імя і прозвішча ( ці прозвішчы ) аўтараў манаграфій, лічбы — старонку, адкуль тэрмін узяты.

БД — Пётр Бараўскі і Аляксандр Дубіньскі "Польскія татары. Гісторыя, абрады, легенды, традыцыі". 1986;

ЯТ — Ян Тышкевіч "Татары ў Літве і Польшчы", 1989;

АМ — Алі Міськевіч "Польскія татары 1918 — 1939", 1990;

Г — Зыгмунт Глогер "Старапольская ілюстраваная энцыклапедыя", Т. I — 4, 1958.

## З

З, літара
ЗА, назва літары З, якая азначае цвёрды гук З
ЗАБАБОНЫ, ЯТ 293, 294
ЗАБАНІЕ, гл. Зэбание
ЗАБЛОЦКІ, мурза ялаірскі
ЗАВАДЖ, н і к я х, у р с, д ж а в а з, раўнапраўны шлюб
ЗАВАЦКІЯ, мурзы, БД 54
ЗАВІЙА, келля, абіцель суфія
ЗАГАРЭМЕННЕ, частка шлюбнага абраду, БД 177

ЗАЙТ бен САБІТ, сакратар прарока Мухаммеда
ЗАКА, гл. Закят
ЗАКАРЫЯ, З а х а р ы я, прарок
ЗАКЯТ, з а к а, з а к а т, з а к о т, штогадовы падатак, БД 118, АМ 98
ЗАЛ, назва літары З
ЗАЛАТАЯ АРДА, Д э ш т - і - К ы п ч а к, Д э ш т - і - К і п ч а к ЯТ 97, 110, 112, 114, 118 — 125, 127, 129 — 131, 146 — 148, 241
ЗАЛІМАН, злы, нядобры

ЗІЛЬ ДЖЭЛЯЛЬ, рай
ЗІЛЬ ХАДЖ, назва 12-га месяца, гл. Зу-ль-Хаджжа
ЗІНА, с і ф а к, блуд, незаконная сувязь мужчыны з жанчынай
ЗІНДЫК, той, хто не верыць у адзінага Аллага
ЗІРЭЦЬ, гл. Мізар
ЗЛОЧАЎ, вядомы турмой для татараў — "татарскімі лёхамі", ЯТ 222
ЗНАХАРСТВА, БД 200
ЗУ аль-КІФАЛЬ, Е з е к і л ь, прарок
ЗУГР, паўдзённая малітва
ЗУ-л-КАРНАЙН, кур"анічны персанаж
ЗУКУФ, а з - З у к у ф, 43-я сура з Кур"ана
ЗУ-л-ФАКР, меч Мухаммеда
ЗУЛМ, парушэнне нормы паводзін
ЗУ-ль-КААДДА, 11-ы месяц
ЗУ-ль-ХАДДЖА, 12-ы месяц
ЗУЛЯЛЬ, крыніца ў раі
ЗУМАР, а з - З у м а р, 39-я сура з Кур"ана
ЗУХУ, устрыманне
ЗЫ, назва літары З
ЗЫГМУНТ КЕЙСТУТАВІЧ, вялікі князь, ЯТ 129 — 131, 138, 161, 267; ЯТ 138, 161, 267
ЗЫГМУНТ АЎГУСТ, кароль Польшчы, БД 62, 236
ЗЫГМУНТ СТАРЫ, кароль Польшчы, БД 39
ЗЫГМУНТ Ш, кароль Польшчы, БД 73
ЗЭБАННЕ, з а б а н і е, мукі ў пекле
ЗЭГІД, гл. Захід
ЗЮРРЫЕТ, нашчадкі
ЗЯМЯНЕ, катэгорыя татараў-землеўласнікаў, ЯТ 216
ЗЯЦКЕВІЧ Суліман, "войт татарскі" ў Менску, ЯТ 226

І

І, літара
І, выклічнік
ІБАДА, навука пра рэлігійныя абрады
ІБАДЭТ, дзеянне ў час малення ў Кадыр-ноч
ІБЛІС, ф і р а й, шайтан, вораг Аллага, злы дух, БД 199
ІБН, сын, мужчына

ІБНАТ, і б н э т, дачка, кабета
ІБРАГІМ, А у р а а м, прарок
ІБРАГІМ, 14-я сура з Кур"ана
ІБРЫК, і м б р ы к, посуд для вады, жбан
ІВАН, І а а н, прарок, гл. Ях"я
ІВАН ІУ ЖАХЛІВЫ, І в а н Г р о з н ы, цар, БД 52
ІВАНАВА, татарская вёска на Меншчыне, АМ 59
ІД ал-АДХА, І д- а л - К а б і р, гл. Курбан-Байрам
ІД ал-ФІТР, гл. Рамазан-Байрам
ІДГАМ, зліццё двух гукау пад ташдыдам
ІДГАМ БІЛЯ ГУННА, сувязь паміж гукамі Р і Л
ІДГАМ КЯБІР, і д г а м к е б і р, вялікая асіміляцыя
ІДГАМ КЯМІЛЬ, дасканалая асіміляцыя
ІДГАМ МААЛЬ ГУННА, датычыцца гукау М,Н,В,Й
ІДГАМ САІЫР, асіміляцыя недасканалая
ІДГАМ ШАМАСІЙЕ, асіміляцыя "сонечных" гукау
ІДДА, час, у які жанчыне забараняецца уступаць у палавыя зносіны
ІДЖАЗ аль-КУР"АН, тэхнічны тэрмін мусульманскай дагматыкі
ІДГАМ МУТЭДЖАНІСЕЙНЫ, спалучэнне пэуных гукау
ІДГАМ МІСЛЕЙНЫ, спалучэнне аднолькавых гукау
ІДГАМ НАКЫС, скарочаная асіміляцыя
ІДЖАРА, наём ці арэнда
ІДЖАМА, а л - і д ж а м а, згода
ІДЖЦІХАД, а л - і д ж ц і х а д, самастойнае рашэнне, вялікае
старанне
ІДРЫС, Е н о х, прарок
ІДУЛЬ ФІТР, свята Рамазан
ІЗАР, гл. Азар, частка савана
ІЗГАК, І с а а к, прарок, гл. Ісгак
ІЗГАР, вымауляць хутка і выразна
ІЗГАР КАМАРЫЙА, і з г а р к а м е р ы й а, "месячныя" гукі
ІЗГАРНЫЯ ХУРФЫ, шэсць пэуных гукау
ІЗДЭМІР, ардынскі князь, саюзнік Глінскага
ІЗМАІЛ, прарок, гл. Ісмаіл
ІЗРАІЛ, І з р а і л ь, краіна
ІЗРАЭЛЬЧЫК, габрэй
ІІСУС, прарок, гл. Іса

ІКІНДЖЫ, другі
ІКЛЯЮ, асіміляцыя П і В, П і М
ІКАБ, пакаранне
ІКРАФ, паутор формулы мусульманскай веры
ІКТА, дазвол прыватнай асобе збіраць дзяржауны падатак
ІКТЫСАБ, прыдбанне мірскіх даброт
ІЛЛІЙКЮН, месца ангелау
ІЛМ, вера
ІЛМ ал-ХАДЗІС, галіна навукі, якая займаецца хадзісамі
ІЛЙАС, гл. Ільяс
ІЛХАД, адхіленне
ІЛХАМ, боскае натхненне
ІЛЬЯС, І л й а с, Э л і я ш, прарок
ІМАМ, узначальваючы. Гл. таксама Мулла, АМ 18, 83; БД 110, 111 142
ІМАМА, а л - І м а м а, і м а м а т
ІМАМА, чалма, сарык, цюрбан
ІМАМСТВА, пасада
ІМАН, вера
ІМАННЫ ПАЛЕЦ, указальны палец правай рукі
ІМАРЭТ, прытулак для бедных, хворых і бяздзетных састарэлых, які ствараўся джаміятам
ІМЕНЫ, гл. Прозвішчы і імёны
ІМРАН, а л ь - І м р а н, 3-я сура з Кур"ана
ІНВЕНТАР ГАРАДОЎ, ЯТ 241 — 248
ІНДЖЫЛ, новы запавет, евангелле
ІНСАН, чалавек
ІНСАН, а л ь - І н с а н, 76-я сура з Кур"ана
ІНСАФ ГЕЛЬ, людзі павінны апамятавацца
ІНСІКАК, а л ь - і н с і к а к, 84-я сура з Кур"ана
ІНФІТАР, а л ь - І н ф і т а р, 82-я сура з Кур"ана
ІНШАЛЛАГ, калі Аллаг пажадае, на тое Божая воля
ІОНА, прарок, гл. Юнус
ІОСІФ, прарок, гл. Ісуф
ІРАМ ЗАТ ал-ІМАД, храм няверных, разбураны Аллагам
ІРАН, мусульманская краіна у Азіі

ІСА, І і с у с, І с у с, прарок
ІСААК, прарок, гл. Ісгак
ІСГАК, Ізгак, Ісаак, прарок
ІСЛАМ, І с л я м, мусульманская вера, ЯТ 34, 61, 62, 68, 127, 145 — 148, 152, 153, 160, 189, 195, 201, 202, 215, 217, 222, 230, 231, 246, 280, 281 — 299
ІСМ, імя
ІСМАІЛ, І з м а і л, сын Ібрагіма і Хаджар
ІСЛАМІЗАЦЫЯ, палітычны рух
ІСЛАМСКАЯ ЭКАНОМІКА
ІСНАД, спасылка на аўтарытэтную крыніцу
ІСРА, а л ь - І с р а, 17-я сура з Кур"ана
ІСРА ва-л-МІРАДЖ, аль-Ісра ва-л-Мірадж, гл. Мірадж
ІСРАФ, марнатраўства, напрасная трата
ІСРАФІЛ, арханген
ІСХАК, куранічны персанаж, гл. Ісгак
ІСХАКІ ГАЯЗ, класік татарскай літаратуры, грамадскі дзеяч, жыў у Варшаве, АМ 87, 106; ЫД 161
ІСХАН, шчырая малітва і міласэрныя паступкі мусульманіна
ІСЦІГРАФ, просьба прабачэння
ІСЦІУЛЯ ВА ІТБАК, цвёрдае вымаўленне гукаў Г, С, Д, Т, З, К
ІСЦІСНАЯ, выключэнне
ІТЫКАД, і ц і к а д, упэўненасць у ісціннасці слова Божага
ІТТЫКАФ, паўза пры чытанні
ІТТЫХАД, х у л у л, зліццё божаскай і чалавечай прыроды, адвяргаецца Ісламам
ІУЕ, ЯТ 236, 241, 242, 276
ІУЕЎСКАЯ МЯЧЭЦЬ
ІУЕЎСКІ МІЗАР
ІУЕЎСКІ ДЖАМІЯТ
ІФРЫТ, злыя і хітрыя джыны
ІФТЫТАХ, датыканне да сваіх вушэй у час заклiку да малітвы
ІХРАМ, адзенне пілігрымаў, якія ідуць на маленне ў святыя месцы
ІХФА, ціхае і павольнае вымаўленне пэўных гукаў
ІХФА МААЛЬ ГУННА
ІША, І ш а і, начная малітва да ўзыходу сонца
ІШАРЭТ, знак, памета
ІШМАМ, заплюшчыць вочы пры вымаўленні пэўных слоў

# ПРОБНЫЯ АРТЫКУЛЫ ДЛЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЧНАГА ДАВЕДНІКА "ТАТАРЫ БЕЛАРУСІ, ЛІТВЫ І ПОЛЬШЧЫ"

АЗЕРБАЙДЖАНЦЫ, азербайджанлылар ( саманазва ), народ, які жыве у асноуным у Азербайджане і Іране. Агульная колькасць у свеце больш за 14 млн. чалавек. У Азербайджане каля 5 млн., у Іране больш за 8 млн. Азербайджанцы жывуць таксама у Грузіі, Дагестане, Узбекістане, абласцях Расійскай Федэрацыі. На Беларусі каля 2 тыс. азербайджанцау. Тут у іх дзейнічае грамадска-культурнае згуртаванне "Габустан".

У 19 — пачатку 20 ст. у афіцыйных рускіх дакументах азербайджанцау называлі цюркамі, татарамі. Вылучаюцца субэтнічныя групы азербайджанцау: айрумы, афшары, баяты, карадагцы ( караджыдагцы ), карапапахі, падары, шахсевены і іншыя. Адносяцца у асноуным да паудзёвай расы вялікай еурапеоіднай расы. Мова паудзёва-заходняй ( агузскай ) падгрупы цюркскай групы алтайскай сям"і. Дыялектныя групы: усходняя, заходняя, пауночная, паудзёвая. Пашыраны таксама руская, турэцкая, персідская мовы. Пісьменнасць на аснове арабскай графікі, у Азербайджане на аснове арабскай, затым лацінскай, рускай, з 1992 г. зноу лацінскай графікі.

У этнагенезе азербайджанцау удзельнічала насельніцтва старажытных дзяржау Маны ( І-я палавіна І-га тысячагоддзя да н.э. ), Албаніі Каукаэскай ( 2-я палавіна І-га тысячагоддзя да н.э. ), Мідыі, Атрапатэны ( 4 ст. да н.э. — 7 ст. н. э. ). Пасля заваявання тэрыторыі арабамі у 7 ст. гэта краіна называлася Адзербейган ці Азербайджан. З мясцовым насельніцтвам змяшаліся прышлыя ірана- і цюркамоуныя плямёны ( скіфы, гунны, булгары, печанегі і інш. ) народы у І-м тысячагоддзі да н.э. — пачатку 2-га тысячагоддзя н.э. Фарміраванне азербайджанскай этнічнай агульнасці у асноуным завяршылася у 11 — 13 стст. у выніку уварвання і пасялення у Азербайджане новай хвалі цюркамоуных ( агузскіх ) народау.

У 1-й траціне 19 ст. у выніку руска-персідскіх войнау Расія захапіла, а Гюлістанскім дагаворам 1813 г. і Туркманчайскім мірным пагадненнем 1828 г. юрыдычна замацавала захоп пауночнай часткі Азербайджана ( тэрыторыя сучаснай Рэспублікі Азербайджан). У 2-й палавіне 19 ст. пачауся працэс кансалідацыі азербайджан-

скай нацыі. Пасля Лютаускай рэвалюцыі 1917 г. была абвешчана Рэспубліка Азербайджан, якая у канцы красавіка 1919 г. была задушана Чырвонай Арміяй. Больш падрабязна пра гісторыю і гаспадарку Азербайджана гл. у арт. Азербайджан.

Традыцыйныя заняткі насельніцтва — земляробства — вырошчванне бавоўніку, садоўніцтва, вінаградарства, шаукаводства, вырошчванне тэхнічных культур, авечкагадоўля, развядзенне буйной рагатай жывёлы. Традыцыйныя рамёствы — тканнё дываноў, выраб меднага посуду, ганчарства, апрацоўка дрэва і каменю, суконнае, шаўковае і бавоўнянае ткацтва, вытворчасць валюшных вырабаў, гарбарства, пляценне цыновак і інш., выраб тасьмы ( бафта ), узорыстых паясоў ( туманбагы ), дэкаратыўных шнуроў і пазументаў, выраб тоўстых ваўняных шкарпэтак ( джорабы ) і інш.

Большая частка азербайджанцаў жыве у гарадах. Традыцыйныя сельскія пасяленні азербайджанцаў маюць вольную планіроўку, што тлумачыцца складанасцю рэльефу. У горных і шэрагу нізінных раёнаў пашыраны карадам — драўляна-земляное жытло з ступеньчата-пірамідальным перакрыццём, дамы з драўлянымі купалападобнымі перакрыццямі, саклі нагорнага тыпу, саманныя пабудовы з плоскімі гліняными дахамі. Сярод качавога і напаўкачавога насельніцтва — лямцавыя юрты алачыг і інш. Асноўны будаўнічы матэрыял — сырцовая ці выпаленая цэгла. Ацяпленне жытла звычайна пры дапамозе жароўні кюрсі. Народныя традыцыі захоўваюцца у планіроўцы і вобліку сучасных жылых дамоў Гянджыйскага ( купальныя дамы ) і іншых раёнаў.

Нацыянальны касцюм амаль выцеснены сучасным адзеннем, захоўваецца толькі часткова у жанчын сельскай мясцовасці — кароткая ( да бядра ) рубашка, такі ж кароткі архалук ( род кофты з выразам на грудзі ), шырокія шальвары ( шаравары ), спадніца, хустка або шапачка, чадра, джорабы, туфлі. Традыцыйны мужчынскі касцюм— рубашка, архалук, пояс, чуха ( доўгае верхняе адзенне са зборкамі у стане — таліі ), шальвары, джорабы, скураныя туфлі, папаха. Традыцыйная е ж а вызначаецца разнастайнасцю малочных, мясных, мучных і раслінных страў. Значнае месца у рацыёне займае хлеб з пшанічнай мукі ( у горных раёнах быу пашыраны хлеб з ячменнай і прасяной мукі ), спечаны на жалезным лісце ці у хлебнай печы-тандыры. Сярод мучных страў вылучаецца гутаб — від піражкоў з мясам і зелянінай, сярод мясных — гавурма, бастырма, люля-

кубаб, долма і многія іншыя. Пашыраны стравы з рысу ( налічваюць звыш 50 відау плову ). Ужываюцца у ежу малочныя прадукты ( кіслае і свежае малако, сыр з авечага малака, твораг, масла ), гароднiна, зелянiна, садавiна, салодкiя ласункi. Пашыраны напiткi — чай, шарбет, айран.

Развiта музычная народная творчасць, асаблiва мугамау і песняроу-ашугау гераiчных ( "Кiтабi Дада Коргут", "Кёр-аглы" ) і лiрычных ( "Ашуг-Гарыб" і "Аслi Кярым" ) сказанняу. Сярод азербайджанскiх музычных iнструментау — тар, саз, канон, уд, каманча, тутэк, баламан ( балабан ), зурна, бубен і іншыя.

Доугi час захоувалiся старадаунiя традыцыi, якiя пераплятались з мусульманскiмi, навагодняе свята науруз-байрам ( 21 — 22 сакавiка ), культы агню, камянёу, дрэу, крынiц і калодзежау. Нягледзячы на шматгадовую атэiстычную прапаганду таталiтарнага рэжыму многiя азербайджанцы шанавалi і захавалi мусульманскую веру пераважна шыiцкага толку. Пра славутыя мячэцi у Азербайджане і святыя месцы гл. у арт. Азербайджан.

АЗГАР, А з х а р, а л - Д ж а м і а л - А з г а р, найбольш вядомая мячэць у Егiпце і унiверсiтэт. Размешчана ва усходняй частцы Каiра. Пабудавана у 970 — 972 гг. па загаду военачальнiка Джаугара ас-Сiкiллi у час праулення халiфа аль-Муiза ( 952 — 975 ) адначасова з горадам Каiрам, якi стау новай сталiцай iсмаiлiсцкай дынастыi Фацiмiдау ( 909 — 1171 ). Назва мячэцi ал-Азгар звязана з ганаровай мянушкай дачкi прарока Мухаммеда Фатымой — Загра — прамянiстая, зззючая. Мячэць перабудоувалася і першапачатковы выгляд яе невядомы.

Мячэць была, пэуна, рэгулярна-прамавугольная з дзядзiнцам пасярэдзiне, размешчаным упоперак ад галоунай восi. У сучасным стане цэнтральны дзядзiнец аточаны з чатырох бакоу каланадай з аркамi. Форма гэтых арак, якiя нагадваюць перакулены профiль днiшча карабля, паходзiць, бясспрэчна, з Персii, з якой Фатымiды падтрымлiвалi добрыя адносiны. Сцены над аркамi з боку дзядзiнца упрыгожаны далiкатным рысункам медальёнау і нiшау, лёгкiм ажурным завяршэннем. Галоуная вось храма, якая перасякае дзядзiнец упоперак, акцэнтавана купаламi, размешчана над пашыранымi пралётамi каланады. У глыбiнi дзядзiнца, з паудзёва-усходняга боку, знаходзiцца зала для маленняу. Стаяць там рады марму-

ровых калон упоперак галоунай восі. Многія з іх зберагліся ад часоу Фатымідау. Сярэдні неф, які акцэнтуе галоуную вось мячэці, вылучаны з двух бакоу здвоенымі калонамі. У глыбіні, перад міхрабам, уздымаецца купал, які падтрымліваецца па вуглах сталактытавымі скляпеннямі. У больш познія часы ( 14 ст. ) з паудневаусходняга боку дабудаваны чатыры рады калон, перамешчана сцяна, якая замыкае залу маленняу. Утварылася такім чынам глыбокае унутранае памяшканне, запоуненае бясконцымі радамі калон і замкнёнае сцяной з новым міхрабам. Ранейшы міхраб застауся на сваім месцы як элемент, які стаіць асобна.

Скарыстанне калон унутры, у процілегласць да ранейшай канструкцыі цяжкіх апорау мячэці Ібн Тулуна ( пабудавана у Каіры у 879г.) стварыла значна большыя мажлівасці у вольным утварэнні аднастайнага інтэр"ера. Гэта былі новыя элементы у архітэктуры, запазычаныя егіпецкімі архітэктарамі у пачатку панавання Фатымідау. Узорам былі дасягненні у архітэктуры, якія відаць у мячэці Каруін у Фесе ( Марока ), адкуль прыбылі Фатыміды. Мячэць аль-Азгар атачана цяпер вуліцамі і толькі з пауночнага усходу адкрыта частка яе фасада, выкананага у новаарабскім стылі. У апошні час каля мячэці пралажана шырокая камунікацыйная артэрыя, якая працінае Каір з захаду на усход. Адкрыуся такім чынам пауночны бок храма разам з выключна пластычным і разнастайным ансамблем багата аздобленых мінарэтау. Найбольшую увагу прыцягвае мінарэт султана Гуры ( царавау у 1500 — 1516 ) напрыканцыаравання Мамелюкау.

Каля мячэці размешчаны славуты у Егіпце універсітэт аль-Азгар, які пачау дзейнічаць пры мячэці неузабаве пасля яе збудавання ( дауней пасля малітвау студэнты з мусульманскіх краін тут слухалі лекцыі славутых вучоных, некаторыя мелі прытулак пры мячэці і жылі да завяршэння адукацыі ). З 1961 г. ва універсітэце дзейнічаюць факультэты: асноу рэлігіі, шарыяту ( мусульманскае права і традыцыі ), літаратурны, адміністрацыйных спрау і гандлю, політэхнічны, сельскагаспадарчы, медыцынскі, педагагічны, жаночы. Ва універсітэце багаты збор арабскіх рукапісау ( звыш 20 тыс. тамоу ) і друкау. Абучэнне бясплатнае. Студэнты жывуць у інтэрнатах на поуным дзяржауным забеспячэнні. Для тых, хто не карыстаецца інтэрнатам, устаноулена стыпендыя.

Пры універсітэце дзейнічае Акадэмія Ісламскіх Даследаванняу і

шэраг іншых рэлігійных інстытутаў і устаноў. Універсітэт выпускае свае часопісы. Аль-Азгар -- буйны цэнтр падрыхтоўкі багасловаў і служыцеляў мусульманскіх мячэцяў ва усіх краінах свету. У 1930 -х гадах у аль-Азгары удасканальваў свае веды беларускі татарын Алі Варановіч.

АРАБЫ, а л ь - а р а б ( саманазва ), група народаў, якія насяляюць арабскія краіны Пярэдняй Азіі і Паўночнай Афрыкі, жывуць таксама ва Усходняй Афрыцы, Іране, Турцыі, Афганістане, Эфіопіі, Ізраілі, рэспубліках Сярэдняй Азіі былога СССР і іншых краінах. Усяго арабаў 167 млн. чалавек ( 1985 г., ацэнка ), з іх у Азіі 56 млн., у Афрыцы звыш 107 млн. чалавек ( больш падрабязна пра размяшчэнне арабаў гл. у артыкулах пра кожную частку свету) Гавораць на розных дыялектах арабскай мовы. Вызнаюць Іслам, пераважаюць сунніты, ёсць таксама шыіты і невялікая колькасць хрысціян і інш.

Г і с т о р ы я. Сучасныя арабы узніклі у выніку арабскіх заваёў і арабізацыі старажытных раёнаў -- народаў, фінікійцаў, егіпцян, лівійцаў ( берберау ) і іншых.

Мяркуюць, што семіцкія плямёны, якія далі пачатак арабскім народам, карэнныя аутахтонныя жыхары Аравійскага паўвострава. З сярэдзіны І-га тысячагоддзя да н.э. тут існавалі першыя арабскія дзяржавы: Мінейская, Сабейская, Хім"ярыцкая, Набатэйская, пазней Пальмірская і Ліхіянская, народы якіх здаўна мелі сваю пісьменнасць. З 3-га тысячагоддзя да н.э. арабскія плямёны пачалі рассяляцца у Пярэдняй Азіі і склалі асноўнае насельніцтва Палесціны, Іарданіі, Сірыі. У 4 — 6 ст. ішоў працэс утварэння класаў, складання адзінай арабскай народнасці. У выніку арабскіх заваёў у 7 — 8 ст. яны падпарадкавалі тэрыторыю ад поўначы Індыі да Пірэнейскага паўвострава, уключаючы Закаўказзе і частку Сярэдняй Азіі; рассяліліся у Паўночнай і Усходняй Афрыцы, па Іранскім нагор"і. Гэта вялізарная імперыя — Халіфат, у 9 — 10 ст. распалася на Багдадскі ( Абасідаў халіфат ), Каірскі халіфат ( Фатымідаў халіфат ), Кардоўскі халіфат на Пірэнейскім паўвостраве, а пазней на больш дробныя халіфаты, эміраты, княствы. На працягу стагоддзяў арабскія народы былі аб"яднаны агульнасцю мовы, культуры, псіхалогіі, агульнасцю заселенага імі арэала.

Палітычнае аб"яднанне арабаў з пачатку 7 ст. адбывалася пад эгідай Ісламу. Аднак аб"яднацца ў адзін народ ім перашкаджала адсутнасць палітычнага і эканамічнага адзінства, феадальная і племянная раз"яднанасць.

Культура, створаная арабамі і іншымі народамі Блізкага і Сярэдняга Усходу, Паўночнай Афрыкі і Паўднёва-Заходняй Еўропы ў сярэднія вякі, мае назву арабскай. Яна узнікла ў выніку развіцця старажытнай культуры плямёнаў Аравіі, пераймання дасягненяў заваяваных народаў, творчага засваення грэчаска-элінскай, рымскай, егіпецкай, арамейскай, іранскай, індыйскай, кітайскай і іншых культур. Каля 4 ст. арабы стварылі арабскае літарнае пісьмо — адну з разнавіднасцей арамейскага скорапісу. Арабская мова, на якой напісана свяшчэнная кніга мусульман — Кур"ан, з 8 ст. стала сродкам культурных і палітычных зносін у Халіфаце, своеасаблівай "лацінню Усходу". Яна з"яўляецца асноўнай прыкметай арабскай культуры.

Цэнтрамі арабскай культуры ў розны час былі Дамаск, Багдад, Кордава ( у Іспаніі ), Каір, Бухара, Харэзм.

Н а в у к а. Развівалася пад уплывам старажытнагрэчаскай і навукі народаў Сярэдняй Азіі, Закаўказзя, Індыі, Персіі, Егіпта, Сірыі. Група сірыйцаў на чале з Ібн Ісгакам і Сабітам Ібн Кура пераклалі з грэчаскай мовы творы Галена, Гіпакрата, Еукліда, Пталемея, Арыстоцеля, Платона, Архімеда, якія сталі вядомыя Заходняй Еўропе дзякуючы арабам. Росквіт дакладных і прыродазнаўчых навук абумоўлены патрэбамі вытворчасці, ваеннай справы, мараплавання. У 827 г. была вымерана дуга мерыдыяна і вызначаны памеры зямнога шара, адкрыты многія зоркі і сузор"і. Паспехам матэматыкі садзейнічала запазычаная ў індыйцаў дзесятковая сістэма лічэння. Аль-Батані ( 856 — 925 ) увёў трыганаметрычныя функцыі, аль-Харэзмі ( 9 ст. ) распрацаваў метады ураўненняў. Высокага развіцця прыродазнаўчыя навукі дасягнулі ў працах вучоных-энцыклапедыстаў аль-Біруні ( 973 — 1048 ) і Ібн Сіны ( Авіцэны, каля 980 — 1037 ). Арабы пазнаёмілі Заходнюю Еўропу з вытворчасцю сталі, а таксама запазычанымі ў Кітаі компасам, паперай, порахам.

Г і с т о р ы я г р а ф і я развівалася з багаслоўскіх паданняў пра жыццё прарока Мухаммеда. Выдатнымі прадстаўнікамі гістарыяграфіі ў 9 — 10 ст. былі: аўтар "Усеагульнай гісторыі" аль-Якубі, гісторык арабскіх заваёў аль-Белазуры, складальнік славутай карты ( "Сурат аль-Ард" ) аль-Харэзмі, аўтар "Гісторыі пракрокаў і цароў", у якой пададзена храналогія Халіфата, ат-Табары. Тыповым

творам прыдворнай гісторыі IO — II ст. з"яуляюцца "Аналы" Ібн Міскавейха. У I2 — I3 ст. цэнтр арабскай гістарыяграфіі перамясціўся з Ірака у Сірыю і Егіпет. Найвялікшым дасягненнем арабскай гістарыяграфіі была гісторыка-сацыяльная тэорыя Хальдуна ( I332 — I406 ). У творы "Мукадыма" ( "Уступ" ) ён спрабавау высветліць прычыны падзення дзяржау, паказвау перавагу аселага жыцця над качавым і г.д. У IO ст. складалася класічная школа геаграфіі ( аль-Балхі, аль-Істахры, Ібн-Хаукала і аль-Мукдасі ). Багатым зборам геаграфічных ведау сярэдневякоуя з"яуляецца праца Якута ( II79 — I229 ) "Слоунік краін".

Ф і л а с о ф і я зарадзілася у сферы мусульманскіх багаслоускіх спрэчак. У 9 ст. у процівагу багасловам, якія апіраліся на священны Кур"ан і мусульманскія традыцыі, узнікла філасофская плынь мутазілітау ( умераных вальнадумцау ). Мутазіліты аль-Кіндзі і аль-Фарабі былі паслядоунікамі Арыстоцеля. Астраном, алхімік, фізік аль-Кіндзі асновай усей навукі лічыу новапіфагарэйскую матэматыку. Вучэнне аль-Фарабі было сінтэзам платанізму, арыстацелізму і мусульманскага суфізму. Своеасаблівай філасофскай энцыклапедыяй лічылася "Кніга лекавання" Ібн Сіны. У канцы 9 ст. у Басры узнікла філасофская школа "Браты чысціні" ( "Іхван ас-Сафа" ), якая прытрымлівалася філасофскіх канцэпцый Піфагора і мела рацыяналістычны кірунак. Традыцыйная філасофія мусульманскага багасловя найбольш поуна выкладзена у творах аль-Газалі. З двайстай ( матэрыялістычнай і ідэалістычнай ) філасофіі выступау Ібн Рошд ( Авероэс ), вучэнне якога зрабіла значны уплыу на філасофскія тэорыі Заходняй Еуропы.

Л і т а р а т у р а . Яе вытокі у вуснай народнай паэзіі вандроуных арабскіх плямёнау. Яшчэ у даісламскі перыяд аформіліся жанры, характэрныя для ранняй паэзіі многіх народау — ганьба ворага ( хіджа ), пахвальба ( фахр ), песьня помсты ( сар ). Росквіт гэтай даісламскай паэзіі адносіцца да 5 — 7 ст. Паэты таго часу, цесна звязаныя са сваім племенем, апявалі яго калективную волю. Вершы Імру-уль-Кайса — стваральніка касыды ( асноунага жанру арабскай літаратуры ) у яе класічным выглядзе, Антары ібн Шадада — любімага народнага героя, Тарафы — славутага аутара муалакі ( нанізаных касыд ) дайшлі да нас у запісах 8 — IO ст. ( зборнік "Аль-Хамаса", "Кітаб аль-агні" ). Першы і самы знакаміты помнік арабскай прозы — священны Кур"ан.

Увядзенне Ісламу запаволіла на некаторы час развіццё паэзіі,

але ужо з канца 7 ст. яна адраджаецца. Паэты аль-Ахталь, Джарыр, аль-Фараздак, услаўлялі сваіх апекуноў-феадалаў і ганьбілі іх ворагаў. У гарадах Халіфата узнікае лірыка ( Амар ібн Абі Рабія ). Сярод бедуінаў Аравіі вылучаюцца песняры ідэальнай любові. Пазней пра гэтыя пары — паэт і яго каханая — складзены рамантычныя аповесці ( адна з іх пра трагічнае каханне Меджнуна і Лейлі выкарыстана ў паэме азербайджанскага паэта Нізамі ).

При Абасідах у арабскай літаратуры адчуваецца моцны ўплыў культуры народаў Сярэдняй Азіі, асабліва персаў, што спрыяла абнаўленню вобразаў і мастацкіх сродкаў. Пачынальнік "новага стылю" — Башар ібн Бурд. Геданістычная і вальнадумная лірыка перса Абу Нуваса, найбольш рознабаковага паэта гэтага кірунку, крытычна ставілася да некаторых бакоў мусульманскай абраднасці. У прозе вядучае месца займае аль-Джахіз. Пасля распаду Халіфата значным літаратурным цэнтрам стала рэзідэнцыя Хамандаў у Алепа ( Сірыя ), дзе жыў паэт-панегірыст аль-Мутанабі. Творы сірыйскага паэта і мысліцеля Абу-ль-Ала аль-Маары прасякнуты нянавісцю да несправядлівасці, верай у магутнасць чалавечага розуму. У 10 — 11 ст. назіраецца росквіт арабскай літаратуры ў Андалузіі, дзе узніклі новыя страфічныя формы ( мувашах і заджал ), у якіх дазвалялася ужываць дыялектызмы і раманскія словы ( Ібн Кузман ). Набыткі арабскай лірыкі былі выкарыстаны ў творчасці правансальскіх трубадураў, зачынальнікаў новай еўрапейскай паэзіі. Арабская літаратура мела вялікае значэнне для еўрапейскага Адраджэння. Славуты папярэднік літаратуры Адраджэння італьянскі паэт Аліг"еры Данте ў сваей паэме "Камедыя" частку "Пекла" апісаў паводле уяўлення арабскай мусульманскай літаратуры.

Пасля мангольскага нашэсця ( 13 ст. ) цэнтр арабскай літаратуры перамяшчаецца ў Егіпет і Сірыю, дзе паяўляюцца цыклы вусных апавяданняў на гераічныя і любоўныя тэмы ( сіра ) — своеасаблівыя рыцарскія раманы, найбольш вядомыя з іх пра падзеі крыжовых паходаў. Некаторыя сіры і казкі народаў Усходу увайшлі ў кнігу "Тысяча і адна ноч", якая канчаткова склалася ў Егіпце ( 14 — 15 ст. ).

А р х і т э к т у р а і в ы я ў л е н а е м а с т а ц т в а арабскіх дзяржаў увасобілі ў сябе традыцыі Рыма, Візантыі, сасанідскага Ірана, але мелі агульны стыль, прасякнуты ідэямі Ісламу. Галоўная роля належала прынцыпу дэкаратыўнасці. У дойлідстве і дэкаратыўна-прыкладным мастацтве шырока ужывалі арнамент. Архітэк-

тары арабскага Усходу стварылі новыя тыпы і комплексы будынкаў: мячэці, мінарэты, медрэсэ, караван-сараі, крытыя рынкі, палацы правіцеляў, цытадэлі.

Першыя помнікі архітэктуры адносяцца да 7 ст. Мячэці: у Куфе ( 638 г., Ірак ), Амра ў Фустаце ( 641 г., Егіпет ), Сіды-Укба у Кайруане ( Паўночная Афрыка ), аль-Акса ( пач. 8 ст. ) і Кубат ас-Сахра ( Купал скалы, т.з. " мячэць Амара", 687 — 691 ) у Іерусаліме, вядомая сваімі мазаікамі мячэць Амеядаў у Дамаску перабудавана ў 705 — 715 гг. з хрысціянскай царквы. У замках Амеядаў у Іарданіі: Хірбет аль-Мафджар ( 8 ст. ), Мшата ( 8 ст., некаторыя даследчыкі адносяць да 4 ст. ), Кусейр — Амра ( пач. 8 ст. ) — захаваліся ўнікальныя ў мусульманскім мастацтве малюнкі людзей і жывёл. У перыяд Абасідаў у г. Самарра ( 100 км на паўночны захад ад Багдада ) пабудавана мячэць Мутавакіля ( 9 ст. ), вядомая конусным спіральным мінарэтам аль-Мальвія.

Архітэктура феадальнага Егіпта дасягнула сталасці ў 9 ст. Сярод выдатных помнікаў арабскага дойлідства ў Каіры: мячэці Ібн Тулуна ( 876 — 879 ), мячэць султана Хасана ( 1356 — 1363), аль-Азгар ( 969 — 972, пазней перабудоўвалася ), ансамбль султана Калауна ( 1284 — 1285 ). У 11 — 12 ст. пашыраецца ажурная разьба на камені. У 13 ст. на арабскую архітэктуру ўплываюць традыцыі візантыйскага і турэцкага дойлідства ( мячэць Мухамеда-Алі ў Каіры, 1830 — 1848, і інш. ).

Арабы і іншыя вернікі-мусульмане лічаць святымі месцамі гарады Мекку і Медыну і хоць раз у жыцці здзяйсняюць туды падарожжа ( гл. Хадж ), наведваюць мясціны, дзе жыў прарок Мухаммед, моляцца ў славутых мячэцях. Найбольш вядомыя арабскія мячэці змяшчаюцца на мугірах.

Выяўленчае мастацтва развівалася пераважна ў насценных роспісах, архітэктурнай пластыцы, разьбе, мініяцюры ( Егіпет 10 — 11 ст., багдадская школа мініяцюры 13 — 14 ст. ). Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва вызначаецца складаным арнаментам ( гл. Арабескі ), багаццем фантазіі, вытанчанасці узорных рытмаў, яркім каларытам. Вядомы кераміка і шкло Сірыі, Ірана, Егіпта, маўрытанская кераміка, мастацкая бронза ( ліццё і чаканка ), разьба па дрэве і камені, дэкаратыўныя шаўковыя і парчовыя тканіны.

М у з ы к а даісламскага перыяду недастаткова вывучана. Існавалі прафесійныя спевакі-паэты ( шаіры ). З інструментаў упаміна-

юцца дуф ( род бубна ) і касаба ( флейта ); у персаў запазычаны уд ( прататып лютні ). Хоць паводле мусульманскіх звычаяў музыка не прапагандавалася, яна усё ж развівалася, дасягнуўшы свайго росквіту у Багдадзе. Заснавальнік арабскай класічнай музыкі Ібрагім аль-Маусілі. Музыкальная тэорыя развівалася пад уплывам старагрэчаскіх крыніц. Музыкальна-тэарэтычныя працы пісалі Ібн Сіна і аль-Фарабі.

Арабская культура з"явілася вялікім укладам у сусветную культуру. Яна зрабіла уплыў на іншыя культуры, у т.л. і на заходнееурапейскую. Татары Беларусі, Літвы і Польшчы, якія прыйшлі на землі Беларуска-Літоўскай дзяржавы у канцы 1390-х гадоў, былі ужо з Іманам — мусульманскай верай. Разам з верай яны пераняли і мусульманскую мараль, арабскае пісьмо, якое дастасавалі да сваей цюркскай фанетыкі ( гл. арт. Арабская мова, Алфавіт арабскі, Алфавіт татарскі ).

З 16 ст., пасля заваёвы туркамі большасці арабскіх краін, пачаўся заняпад арабскай культуры. У канцы 19 ст. у арабскіх краінах адбылося культурнае адраджэнне — нахда. Яно натхнялася сярэдневяковымі традыцыямі, але засвойвала дасягненні еўрапейскай культуры. Гэты працэс узмацніўся у выніку нацыянальна-вызваленчага руху, які разгарнуўся на Усходзе пасля першай сусветнай вайны. У другой палавіне 20 ст. шырыцца рух за адзінства арабскіх краін, назіраюцца тэндэнцыі да складання адзінай арабскай нацыі.

Больш падрабязна пра гісторыю, культуру і гаспадарку арабскіх народаў гл. артыкулы пра дзяржавы: Аб"яднаныя Арабскія Эміраты, Алжыр, Бахрэйн, Егіпет, Іарданія, Ірак, Йемен, Катар, Кувейт, Ліван, Марока, Маўрытанія, Саудаўская Аравія, Сірыя, Судан, Туніс а таксама пра краіну Палесціна.

Невялікія нарысы пра адметную этнаграфію арабаў розных краін гл. у артыкулах: Аб"яднаных Арабскіх Эміратаў арабы, Алжырскія арабы, Аманскія арабы, Бахрэйнскія арабы, Егіпецкія арабы, Іарданскія арабы, Іракскія арабы, Йеменскія арабы, Катарскія арабы, Кувейцкія арабы, Ліванскія арабы, Лівійскія арабы, Мараканскія арабы, Маўры, Саудаўскія арабы, Сірыйскія арабы, Суданскія арабы, Сярэднеазіяцкія арабы, Туніскія арабы, Палесцінскія арабы.

БОНА, Бона Сфорца д"Арагона [2.2.1494, Вігевана ( Італія ) — 19.9.1557 у Бары ( Італія )], каралева Рэчы Паспалітай, другая жонка Жыгімонта І Старога, дачка Гіан Галеза Сфорцы, князя Мілана і Ізабелы Арагонскай. Выхоўвалася у маці у Бары і Неапалі, атрымала добрую адукацыю. Пабраўшыся у 1518 г. з каралём Жыгімонтам, неўзабаве дабілася рашучага уплыву на мужа у справах палітыкі. Імкнулася стварыць сабе прыхільнае староннiцтва пры каралеўскім двары, уплывала на прызначэнне людзей на важнейшыя свецкія і духоўныя пасады у дзяржаве, імкнулася пры дапамозе тайных сваіх агентаў уплываць на сеймікі і пасольскую палату. У палітыцы супроцьстаяла Габсбургам, якія у 1526 г. перанялі па чэшска-венгерскай лініі Ягелонаў вярхоўную уладу над Чэхіяй і Венгрыяй, падтрымлівала у Венгрыі Яна Запалыя, за якога у 1539 г. выдала сваю дачку Ізабелу; была у прыязных адносінах з Турцыяй; імкнулася вярнуць пад польскую юрысдыкцыю Шлёнск. Асабістымі інтарэсамі яе было вярнуць спадчыну у Італіі — княствы Бары і Расана, а таксама Мілан. Для умацавання фінансавай незалежнасці караля рознымі спосабамі павялічыла ва усіх кутках каралеўства маёнткі караля. У сваіх уладаннях увяла уставу на валокі, якая павялічыла каралеўскія даходы, у тым ліку з маёнткаў на Беларусі. Значную частку даходаў караля захоўвала у ліхвяроў-банкіраў Італіі і пад працэнты пазычала грошы Іспаніі. Палітычны уплыў у дзяржаве, дэспатызм, прагавітасць выклікалі апазіцыю да яе з боку старых магнацкіх родаў; у значнай ступені супроць яе быў накіраваны мяцеж шляхты, сабранай у 1537 г. пад Львовам для паспалітага рушэння ( агульнага паходу ) супроць Малдавіі. Пасля смерці мужа ( 1548) пагневалася з сынам Жыгімонтам ІІ Аўгустам па прычыне яго шлюбу з Барбарай Радзівіл, была адхілена ад дзяржаўных спраў, а у 1556 годзе выехала з Польшчы у Бары, дзе неўзабаве была атручана агентам Габсбургаў. Яё вялікія грошы у суме 430 тыс. залатых дукатаў засталіся у Піліпа ІІ.

Багатая моцнай індывідуальнасцю і незвычайнай актыўнасцю, атрымала неадназначную ацэнку у сучаснікаў і пазнейшых даследчыкаў. Апекавалася над вучонымі і пісьменнікамі, мела заслугі у развіцці культуры, пашырэнні італьянскай культуры на польскай глебе. Аказала дабратворны уплыў на развiццё некаторых галін гаспадаркі, асабліва гародніцтва.

У татарскіх паданнях, запісаных у Аль-Кітабах, каралева Бона атрымала самую адмоўную характарыстыку. У каралеўскіх маентках у Гарадоцкім, Давыд-Гарадоцкім, Клецкім, Кобрынскім і Пінскім староствах, Абалецкай, Езярышчанскай, Рагачоўскай і Усвяцкай валасцях, у мантках Даўбучын ( Пружаны ), Зэльва, Крэва, Мсцібава, Сялец, Цяцерын, Шарашова і іншых вельмі пагоршылася становішча хрысціян, асабліва татараў-мусульман. У "Трактаце пра татар" ( Рызале-і-татар-і-Лег ) ананімны аўтар паведамляе: "Будучы надзвычай прагавітай і хцівай да багацця, ва ўсіх што магла забірала — дасталося тады і татарам. У некаторых месцах вымагалі бясплатнай працы, казала задарам перавозіць свае тавары ( магчыма, збожжа і лён — заўвага рэд. ), а па яе прыкладу падобнае бясправўе тварылі і магнаты; кароль жа сам не быў у стане гэтаму запярэчыць, не маючы павагі ў народзе ..."

БУНЧУК, дрэўка накшталт доўгай пікі і шарам ці вастрыём і пасмамі з конскіх валасоў і кутасамі на верхнім канцы. У Еўропе вядомы з 13 ст., быў вайсковым атрыбутам у татарскай конніцы ( палка́х — цьмах і эскадронах — сотнях ). Пазней бунчук стаў знакам улады турэцкага пашы, польскага і ўкраінскага гетмана, атамана рускага казацкага войска ў 15 — 18 стст.

Бунчук быў таксама адзнакай добрай вайсковай вывучкі эскадронаў у кавалерыйскіх брыгадах у гады міжваеннай Польшчы. Выконваў важную ролю, нераз замяняючы палкавы сцяг, як сімвал вайсковых і народных традыцый, як гэта мела мейсца ў татарскіх палках былой Рэчы Паспалітай. Безумоўна, традыцыйна патрыятычны сэнс мелі таксама бунчукі Уланскага татарскага палка імя Мустафы Ахматовіча ў першыя гады адроджанай Польшчы, а таксама Першага татарскага эскадрона 13-га палка віленскіх уланаў, для якога быў зроблены бунчук на ахвяраванні татар Віленшчыны.

Па ініцыятыве спадара В.Ласоцкага і актыўным удзеле С.Абрамовіча і М.Якубоўскага ( Якубаглы ) быў знойдзены фотаздымак бунчука апошняга татарскага вайсковага фарміравання, сабраны сродкі-ахвяраванні і зроблена дакладная копія бунчука. Гэты бунчук стаў каштоўным экспанатам лонданскага музея Польскага Войска імя генерала Уладыслава Сікорскага.

ГАДЗІР, а л - Г а д з і р , Х а д з р, персанаж мусульманскіх паданняу, праведнік, адзін з першых людзей, чалавек, якому Аллаг даравау вечнае жыццё, каб падтрымліваць у людзей веру у Аллага. Адзін з чатырох несмяртэльных мусульманскай міфалогіі поруч з Ісой, Іліясам і Ідрысам. Жыве нібыта на астравах, можа лятаць, увесь час падарожнічае па свеце, кожны год робіць хадж у Мекку, моліцца па пятніцах у мячэцях Меккі, Медзіны і Ерусаліма.

Большасць каментатарау Кур"ана лічыць, што у Кур"ане, у суры Кагф ( 18, аяты 59 — 81 ) "Раб з Рабоу " і ёсць Гадзір, якому Аллаг дау веды і апякуецца над ім.

Падаржнічаючы у пошуках месца "зліцця двух морау", Муса ( Муса бен Імран ці нейкі другі Муса ) сустракае гэтага "раба Аллага" і просіць дазволу падарожнічаць разам з ім, каб набрацца у яго розуму. Той згаджаецца, але папярэджвае, што у Мусы не хопіць цярплівасці, каб не асуджаць яго учынкі, і ставіць умову не пытаць аб іх прычыне. Муса не вытрымлівае гэтага іспыту. Яны плывуць на судне, і спадарожнік Мусы робіць у судне прабоіну. Затым ён забівае сустрэчнага хлопчыка. Іх дрэнна прымаюць у адным сяленні, але спадарожнік Мусы па уласнаму жаданню рамантуе там сцяну дома, які развальваецца. Нарэшце, разгневаны пытаннямі Мусы яго спадарожнік растаецца з ім, але тлумачыць вышэйшую мудрасць сваіх учынкау, добрую мэту кожнага учынка. Ён выратавау рыбакоу ад больш страшнай долі — быць разам з лодкай захопленымі царом-тыранам. Ён забіу у маленстве чалавека, які павінен быу стаць злачынцам, даушы тым самым бацькам магчымасць нарадзіць другога, дабрачыннага сына. У адрамантаванай сцяне быу схаваны скарб, і яго трэба было захаваць там, каб яго пазней маглі знайсці дзеці-сіроты, калі падрастуць, бо гэты скарб быу прызначаны ім Аллагам.

Паводле мусульманскіх паданняу Гадзір апякуецца над марадлаўцамі, можна малітвамі заклікаць на дапамогу; ён тушыць пажар, ратуе тапельцау, ахоувае маёмасць ад злодзеяу, ад злых джынау, змяінага яду. Яго колер — зялёны, ен увасабляе жыццё раслін, якія растуць дзякуючы вадзе. Для суфіяу ён — валі ( святы ), адзін з самых паважаных і магутных. Часам яго лічаць самым галоуным з іх.

ГАСІЯ, а л ь - Г а с і я, 88-я сура з Кур"ана. Складаецца з 26 аятаў. Названа ад слова ў І-м аяце і абазначае тое, што ашаламляе, тое што заглушае, ахутвае. Суру адносяць да меккаанскага перыяду. У першай частцы суры ( аяты І — 16 ) гаворыцца пра лёс людзей добрых і дрэнных у час Суднага Дня; далейшыя аяты ( 17 — 20 ) нагадваюць пра велічныя дзеі Аллага. Канцовыя аяты папярэджваюць людзей, што усе вернуцца да Аллага і будуць адказваць перад Ім.

КАСІМАЎСКАЕ ХАНСТВА, невялікая дзяржава на тэрыторыі сучаснай Разанскай вобласці, каля мяжы з Ніжагародскай ( былой Горкаўскай ) вобласцю. Было утворана у 1452 г., у час праўлення вялікага князя маскоўскага Васіля П ( Цёмнага ) як буферное княства паміж Масквою і Казанню. Першым ханам бưу пастаўлены другі сын хана Вялікай Арды Улуг Мухамеда — Касім. Ён нёс ваенную службу у маскоўцаў. Сядзібай новаутворанага ханства быў Мяшчэрскі Гарадок на р.Ака, які у 1471 г. быў названы горадам Касімаў.

Касімаў як мяшчэрскі ( мішарскі, цюркскі народ, адзін з кампанентаў, які разам з булгарскім народам склаў казанскататарскі народ ) гарадок і раней быў заселены выхадцамі з Залатой Арды — "гарадзецкімі" татарамі, да іх далучыліся татары з войска Касіма, што перайшло да яго як частка арміі яго бацькі.

Пастаяннай дынастыі у Касімаўскім ханстве не існавала — ханы прызначаліся маскоўскім правіцелем. У жніўні 1614 г. цар Міхаіл Фёдаравіч касімаўскім ханам пасадзіў сібірскага царэвіча Арслана Аліевіча, унука Сібірскага хана чынгізіда Кучума. Пасля смерці Арслана ( 1627 ) пасад у Касімаве перайшоў да яго сына Сяід-Бугана, які пасля хрышчэння ( 1627 ) атрымаў імя Васіль ( памёр у 1679 ). Апошнім правіцелем Касімаўскага ханства была удава Арслана і маці Сяід-Бугана — Фатыма, якая правіла два гады і памерла каля 1681 г.

Пасад у Касімаве займалі таксама прадстаўнікі другой галіны сібірскіх царэвічаў, якія былі на службе царскага урада. Гэта былі сыны і унукі Алтаная, аднаго з малодшых сыноў Кучума, якія, як і іншыя царэвічы, былі прывезены у Маскву пасля разгрому Кучума і далучэння Заходняй Сібіры да Расійскай дзяржавы.

Тарадское насельніцтва Касімаускага ханства, будучы у асноуным служылымі татарамі, выконвала розную службу у Рускай дзяржаве; частка займалася таксама гандлем і рамяством. Сельскае земляробчае насельніцтва пасля ліквідацыі ханства у 1684 г. ( праіснавала 230 гадоу ) было прыпісана да разраду дзяржаўных сялян.

Пад прыгнётам царызму частка касімаускіх татар была ахрышчана і русіфікавана. Многія касімаускія татары выехалі у населеныя мусульманамі землі Расійскай імперыі, а некаторыя за мяжу. У 1989 годзе у Разанскай вобласці, дзе раней размяшчалася Касімаускае ханства, пражывала 4922 татары. Вядома, што не усе яны нашчадкі касімаускіх татар. У горадзе Касімау збярогся мінарэт мусульманскай мячэці 15 ст., мусульманскія маўзалеі 16 — 17 стст.

*МАКРУТ*, м е к к р у х, м е к р у х ("непрымальны", "няварты п а в а г і" ), катэгорыя учынкау, якія не з"яуляюцца грубым парушэннем прававых нормау шарыяту, але асуджаюцца з маральных пазіцый. Пытанне аб макругу трактуе раздзел фікху *ахкам*. Як макрут разглядаюцца абуральныя паводзіны, неахайнасць пры адпрауленні рэлігійных абавязкау, скупасць, жорсткасць, асабліва у адносінах да залежных людзей, схільнасць да раскошы і шахрайства, пагарда да сямейных і грамадскіх абавязкау, неапрауданая прыхільнасць да адной радні за кошт другой, асабліва пры вылучэнні спадчыны, шлюб з іншаверкай, шлюб з непаўналетняй і г.д.

У залежнасці ад мазхабу да макругу адносіцца спажыванне некаторых відау ежы і напіткау, якія у прынцыпе павінны быць забаронены ( стравы з унутранасцяу і крыві, кумыс, піва, буза, у асобных выпадках віно і г.д.). Катэгорыя макрут займае важнае месца у фарміраванні ісламскай этыкі, ствараючы пераходную зону паміж дазволенымі учынкамю ( *халал* ) і забароненымі ( *харам* ).

*МУСА*, прарок Аллага. Адпавядае біблейскаму М а й с е ю. У свяшчэнным Кур"ане пра учынкі Мусы упамінаецца многа разоу ( аяты, дзе гаворыцца пра Мусу, занялі б вельмі многа старонак у энцыклапедычным даведніку, таму мы падаем нумар суры, а пасля двукроп"я нумар аята, які кожны прачытае у Кур"ане ). Ёсць шмат агульнага, што напісана у Кур"ане і Бібліі пра Мусу ( Майсея ). Асноўныя эпізоды: цудоўнае выратаванне Мусы-немауляці, яго выхаванне пры

двары Фірауна ( Фараона ), шлюб з мадзяніцянкай, барацьба з Фі-раунам, які абвясціў сябе богам і будаваў вежу, каб дасягнуць неба. Шмат месца займае расказ пра цуды, якія з дапамогай Бога рабіў Муса ( цуд з кіем, з рукой, якая нібыта была пашкоджана праказай і зноў стала нармальнай і інш. ), расказваецца пра пе-раход народа Мусы цераз мора і пра пагібель войска Фірауна, якое хацела вярнуць народ Мусы ў Егіпет у рабства; пра пакланенне габрэяў залатому цяльцу, пра тое, як галодным людзям у час блу-канняў па пустыні Бог паслаў манну і перапёлак.

Паводле Кур"ана, у адрозненне ад Бібліі, Мусу ў дзяцінстве апякае жонка Фірауна ( па Бібліі — дачка Фараона). Палуляецца матыў прошукаў шайтана ў тым, што Муса вымушаны быў забіць егіп-цяніна ( 28:14 ), матыў жадання Мусы запазычыць агонь ад Боскага Вогнішча ( 20:10; 28:29 ), эпізод заступніцтва за Мусу перад Фі-раунам нейкага праведнага чалавека ( 40:29 — 31 ). Асобнае месца займае расказ аб падарожжы Мусы з нейкім Рабом Аллага ( 18:59 — 81 ), мудрасць якога Муса спачатку не мог зразумець ( гл. пра гэта ў арт. Гадзір ).

З Кур"ана вынікае, што Муса, Іса і іншыя прарокі былі папя-рэднікамі Мухаммеда, вучыўшага людзей праведнаму жыццю ( 42:11 ), таму праводзяцца прамыя паралелі паміж адносінамі няверных да Мусы і Мухаммеда ( 73:15 ). Як і Мухаммеда Мусу называлі чараў-нікам ( 7:106 ) і страціўшым розум ( 26:26 ), яму адмаўляліся верыць, бо ён проста чалавек ( 23:49 ). Так жа адносіліся няверныя і да прарокаў Нуха, Ібрагіма.

У паданнях, якія распрацоўваліся і пашыраліся ў 8-м і пазней-шых стагоддзях, расказваюцца займальныя гісторыі і цуды, якія рабіў Муса, пра сувязь слоў і учынкаў Мусы і іншых кур"анічных персанажаў — Ібрагіма, Якуба, Каруна, Гаруна і інш.

Пра Мусу ёсць расказы ў татарскіх Аль-Кітабах. Беларускі пісь-меннік і каталіцкі святар Германовіч Язэп ( 1890 — 1978, псеў-данім Вінцук Адважны ) апрацаваў і вершам перадаў легенду пра Мусу — "Майсей пытае" ( перадрукавана ў "Байраме", № 1, 1991 г.)

ПАЛЕСЦІНСКІЯ АРАБЫ, ф а л я с т ы н ( саманазва ), народ, карэннае насельніцтва гістарычнай вобласці Палесціна. Жывуць у Іарданіі ( 1830 тыс. чалавек ), Ізраілі ( 720 тыс. ), Іраку ( 130 тыс. ), Катары ( 70 тыс. ), Кувейце ( 380 тыс. ), Ліване ( 240 тыс. ), Сірыі ( 240 тыс. ), Бахрэйне ( 50 тыс. ) і іншых краінах. Агульная колькасць 4640 тыс. чалавек ( ацэнка на 1985 ). Адносяцца да інда-сяродземнаморскай расы вялікай еўрапеоіднай расы. Размаўляюць на сіра-палесцінскім дыялекце арабскай мовы. Большая частка — мусульмане-суніты, ёсць хрысціяне ( у асноўным у Галілеі ).

Радавод свайго народу пачынаюць з самага старажытнага насельніцтва Палесціны. У 1920 — 1947 гадах Палесціна была мандатнай тэрыторыяй Вялікабрытаніі. Рэзалюцыя ААН ад 29 ліст. 1947 г. прадугледжвала скасаванне брытанскага мандата і утварэнне на тэрыторыі Палесціны двух дзяржаў: габрэйскай і арабскай.

У выніку вайны 1948 — 1949 гадоў паміж Ізраілем ( утвораны на частцы тэрыторыі Палесціны у маі 1948 г. ) і суседнімі арабскімі дзяржавамі Ізраіль захапіў большую частку тэрыторыі, прадугледжанай для утварэння арабскай палесцінскай дзяржавы. Больш за 900 тыс. палесцінскіх арабаў вымушаны былі пакінуць сваю краіну. У чэрвені 1967 г. Ізраіль акупаваў усю тэрыторыю былой падмандатнай Палесціны, а тасама шэраг іншых арабскіх тэрыторый, дзе устаноўлены акупацыйны рэжым. Колькасць бежанцаў склала каля 2 млн. чалавек ( 1985 , ацэнка ). У барацьбе палесцінскіх арабаў за свае законныя правы, уключна з правам на самавызначэнне і утварэнне уласна нацыянальнай дзяржавы. Узмацняецца працэс этнічнай кансалідацыі палесцінскіх арабаў. Пра гісторыю, гаспадарчую дзейнасць палесцінскіх арабаў гл. ў арт. Палесціна.

Традыцыйная культура агульнаарабская ( гл. у арт. Арабы ). Больш за 75 % палесцінскіх арабаў у Ізраілі жыве у населеных пунктах, якія захоўваюць арабскі характар, пераважна у паўночнай Галілеі ( Назарэт і інш.). Многія арабы жывуць у гарадах, дзе большасць складаюць габрэі: Тэль-Авіў, Хайфа і інш. Каля 10 % палесцінскіх арабаў Ізраіля складаюць бедуіны пустыні Негеў. Традыцыйны занятак аселых палесцінскіх арабаў — палявое земляробства ( збожжавыя культуры ), садоўніцтва і агародніцтва. Напаўаселыя палесцінскія арабы спалучаюць земляробства з адгоннай жывё-

лагадоуляй. Напаукачэунікі і качэунікі акрамя коз і авечак гадуюць вярблюдоу. Заняты таксама у прамысловасці: сфарміравауся рабочы клас і інтэлігенцыя. Аселае сельскае насельніцтва жыве у аднапавярховых глінабітных ( саманных ), часта аднапакаёвых дамах з плоскім дахам. У горных раёнах будуюць камяніцы леванцінскага тыпу. Качэунікі і напаукачэунікі жывуць у палатках, з пакрыццём з казінай шэрсці. Адзенне слаба адрозніваецца ад традыцыйнага касцюма ( даугаполая вольная рубашка, хустка, якая трымаецца на галаве шарсцяным жгутом ). Будзённае жаночае адзенне з простай тканіны, з далікатнай маляунічай вышыукай, вясельная — з светлай тканіны, упрыгожанай каляровай вышыукай. Найбольш пашыраныя колеры — цёмна-сіні, чорны і белы.

Ежа аселых палесцінскіх арабау — каша з драблёнай пшаніцы ( бургуль ), праснакі, кіслае малако і авечы сыр, масліны ( аліукі ), летам таксама садавіна, у асобных выпадках — мяса. У рацыёне качэунікау пераважаюць малочныя прадукты. Як правіла, сельскія жыхары жывуць вялікімі сем"ямі, малыя сем"і часцей трапляюцца у гарадах.

Развіта мастацкая творчасць, музычная, танцавальная, народная архітэктура і прыкладное мастацтва. Мастацкія рамёствы — прадзенне, ткацтва, вышыука, ювелірныя вырабы, кераміка, вырабы з металу, шкла, дрэва, перламутру.

У эміграцыі палесцінскія арабы захоуваюць традыцыйныя рысы побыту і культуры, разам з тым пераймаюць многія элементы культуры іншых арабскіх народау. У некаторых арабскіх краінах палесцінскія арабы складаюць значную частку настаунікау, урачоу і тэхнічнай інтэлігенцыі.

СТАУБЦОУСКІ БОЙ, адбыуся 10.6.1792 каля Стоубцау ( цяпер Менская вобл. ) паміж польскай і рускай конніцай. Польскі генерал Юзаф ( Юсуф ) Беляк, размясціушы сваю конніцу на прырэчных пагорках, спакойна чакау рускіх. Неузабаве 10 соцень рускіх драгунау пачалі пераправу цераз Нёман. Калі руская конніца дасягнула левага берага, Беляк, пакінууштт на месцы конніцу Сулістроускага, сам узначаліушы татар атакавау ворага. Неспадзяваная атака татарскай конніцы разбіла поунасцю непрыяцельскія сотні. Пасля кароткага супраціулення рускія кінуліся уцякаць. Услед ім кінуліся харугвы літоускай конніцы. Тымчасам ніжэй па цячэнні Нёмана неспадзявана

перапраўіўся нейкі полк рускай конніцы і незаўважаны раптоўна напаў на левы фланг літоўскай конніцы. Гэта выклікала паніку сярод татарскай конніцы. Не мела поспеху спроба прыйсці на дапамогу татарам павятовай конніцы, бо яе рады былі парушаны як адступаўшымі татарамі, так і наступаўшымі рускімі. Беляк, не разгубіўшыся, сабраўшы сотню людзей, адчайнай атакай кінуўся на рускіх. Неспадзявана рускія, хоць мелі значна больш людзей, пачалі адступаць. Калі ж за Белякам пайшлі і астатнія літоўскія эскадроны, непрыяцель пачаў уцякаць. Ашаломленага ворага пагналі да Нёмана, дзе многія патанулі пры пераправе. Ад поўнага разгрому расійскую конніцу ўратаваў падыход пяхоты, якая артылерыйскімі залпамі адагнала літоўскія часці. Беляк, разумеючы, што яго конніца не ў стане змагацца супроць новых моцных сіл ворага, распарадзіўся аб адступленні на Мір.

ТАТАРНІК ( *Onopordum* ), а н а п о р д у м, ч а р т а п а л о х, ч о р т а в ы п у з ы р, род двух-, радзей шматгадовых травяністых раслін сямейства складанакветных. Вядома каля 50 відаў, пашыраных пераважна ў Міжземнамор"і. На Беларусі вядомы татарнік калючы. Трапляецца рэдка на поўдні рэспублікі. Расце каля дарог, на пустках. Цвіце ў чэрвені — верасні. Лекавая, алейная ( у насенні да 17 % тлустага алею ), дэкаратыўная расліна. Добры меданос і дубільнік.

Расліна вышыней 40 — 150 см. Сцябло прамастойнае, галінастае павуцініста-лямцавае, з шырокімі калючымі крыламі. Лісце хвалістае, перысталопасцевае, з жоўтымі калючкамі на зубах. Кветкі трубчастыя, ліловa-пурпуровыя, долі вяночка амаль ніткападобныя. Кошыкі шарападобныя, па 2 — 3 на канцах парасткаў; лісцікі абгорткі з калючкамі. Плод — падоўжная сямянка.

ТАТАРСКАЕ МЫЛА, л і х н і с ( *Lychnis* ), з о р к а х а л ц э д о н с к а я, п а н с к а я ф а н а б э р ы я. Род шматгадовых травяністых раслін сямейства гваздзіковых. Вядома каля 10 відаў, пашыраных у паўночнай частцы ўмеранага пояса Еўразіі. На Беларусі як дэкаратыўная расліна інтрадукавана з о р к а х а л ц э д о н с к а я ( ад мясцовасці Халкідыкі ў паўночна-ўсходняй Грэцыі ). У часы турэцкага заваявання Грэцыі як дэкаратыўная

расліна трапіла у батанічныя сады і пад назвай турэцкае, татарскае мыла распаусюдзілася у іншых краінах . Татарскае мыла выкарыстоуваецца для пасадак групамі на газонах і у міксбодэрах. Цвіце на 2-гі год у чэрвені — ліпені ( нават жніуні ), пладаносіць у жніуні — верасні ( часам у канцы чэрвеня ). З дапамогай гэтай расліны як мыйнага сродку мыюць рэчы з далікатнай воуны — кашміравыя шалікі і арэнбургскія хусткі.

Вышыня расліны 40 — 120 см. Сцябло прамое, апушанае. Лісце буйное яйцападобна-ланцэтнае, супраціунае, апушанае. Кветкі буйныя 5-членныя, з ярка-чырвоным венчыкам, у шчыткападобных суквеццях. Мае разнавіднасці ( з белымі і ружовымі кветкамі ) і махрыстыя формы. Плод — 1-гнездавая каробачка. Размнажаецца насеннем і дзяленнем куста. Зімаустойлівая, святлолюбівая расліна.

<u>ТАТАРСКІ КЛЁН</u> ( *Acer tataricum* ), н я к л ё н, ч а р н а к л ё н, дрэва або буйны куст з роду клён сямейства кляновых. Пашыраны на паудневым усходзе Заходняй Еуропы, на Балканскім паувостраве, на Украіне, Каукaзе, поуначы Ірана, у Турцыі. На Беларусі астрауныя месцазнаходжанні у асноуным трапляюцца на поудні, у культуры вядомы на усёй тэрыторыі. Расце адзінкавымі экземплярамі і невялікімі групамі у падлеску і на узлесках мяшаных і шыракалістых лясоу. Цвіце у канцы мая — пачатку чэрвеня, пладаносіць у верасні. Размнажаецца насеннем, парасткамі і каранёвымі атожылкамі. Тэхнічная расліна ( драуніна выкарыстоуваецца у сталярнай і такарнай справе, з лісця атрымліваюць чорную фарбу — танін ). Дэкаратыуны лісцем ( увосень светла-жоутых таноу ), кветкамі і чырвонымі пладамі. Выкарыстоуваецца у адзіночных і групавых пасадках, для стварэння узлескау і жывых агароджау, у полеахоуным лесаразвядзенні. Добры меданос.

Вышыня да 8 м. Кара гладкая, цёмна-шэрая, амаль чорная ( адсюль назва чарнаклён ). Маладыя парасткі чырванавата-бурыя, апушаныя. Лісце суцэльнае, прадаугавата-яйцападобнае, завостранае, каля асновы выемчатае, па краі двойчыпілаватае, часта з 1 — 2 больш буйнымі зубцамі, па жылках валасістае. Кветкі белыя, духмяныя, у мяцельчатых суквеццях. Плод — двухкрылатка. Святлолюбівы, зіма-, засуха-, дыма- і газаустойлівы. Да урадлівасці глебы малапатрабавальны. Добра пераносіць падстрыганне.

ТАТАРСКІ ЯРУС, верхні ярус верхняга аддзела пермскай сістэмы. Назву прапанаваў рускі геолаг С.М.Нікіцін у 1887 г. для стракатаколерных кантынентальных адкладаў на ўсходзе Еўропы. Мяркуюць, што адклады татарскага яруса намнажаліся 235 — 230 млн. год таму. На Беларусі да татарскага яруса ўмоўна аднесена дудзіцкая світа, пашыраная ў Прыпяцкім прагіне і Брагінска-Лоеўскай седлавіне. Сярэдняя магутнасць 5 — 10 м, максімальная да 300 м. Складзеная з глін з праслоямі алеўралітаў, пясчанікаў, пяскоў. У ніжняй частцы світы ў асобных разрэзах трапляюцца гнёзды, прожылкі, уключэнні і праслойкі гіпсаў.

У адкладах татарскага яруса арганічныя рэшткі не выяўлены. Па аналогіі і іншымі тэрыторыямі на Зямлі ў час намнажэння гэтых адкладаў у гэты перыяд вымерлі некаторыя групы бесхрыбетных ( чатырохпрамянёвыя каралы, трылабіты, палеазойскія марскія вожыкі, фузулініды, табуляты ), многія прадстаўнікі каменнавугальнай флоры ( сігілярыі, каламіты і інш. ), пачалі развівацца хвойныя, гінгкавыя і цыкадавыя.

ТАТАРСТАН, Р э с п у б л і к а Т а т а р с т а н, дзяржава на ўсходзе Еўропы, на Усходне-Еўрапейскай раўніне. Плошча 67,8 тыс. кв. км. Працягнулася з захаду на ўсход на 460 км, з поўначы на поўдзень — на 290 км. Мяжуе з Чувашыяй, Мары-Эл, Кіраўскай вобл., Удмурціяй, Башкартастанам, Арэнбургскай, Самарскай і Ульянаўскай абласцямі. Насельніцтва 3705 тыс. чал. ( на пач. 1992 г. ). На долю гарадскога насельніцтва прыпадае 73,8 %. У складзе Татарстана 43 адм. раёны, 19 гарадоў, у т.л. 11 рэспубліканскага падпарадкавання, 22 пасёлкі гарадскога тыпу, 829 сельсавет. Найбольшыя гарады ( тыс. чал., на 1989 г. ): Казань ( сталіца ) 1094,4, Набярэжныя Чаўны 500,3, Ніжнекамск 190,8, Альмецьеўск 129,0, Зеленадольск 94,1, Ленінагорск 62,1, Елабуга 53,5.

П р ы р о д а . Ландшафты Татарстана вызначаюцца галоўным чынам размяшчэннем на Усходне-Еўрапейскай раўніне. Асноўная частка тэрыторыі Татарстана ( каля 90 % ) знаходзіцца на вышыні да 200 м над узроўнем мора. Толькі на паўднёвым усходзе, дзе знаходзяцца Бугульмінскае і Шугураўскае плато, адзначаюцца вышыні больш за 200 м. У гэтым раёне знаходзіцца найвышэйшы пункт — 367 м над узроўнем мора. Асобныя значныя павышаныя месцы ёсць таксама на

водападзеле Вяткі і Камы і уздоуж Волгі — на Прыволжскім узвышшы. Найбольш паніжаныя раёны рэспублікі — даліны Камы і Волгі. У даліне Волгі на выхадзе яе за межы рэспублікі знаходзіцца самы нізкі пункт з абсалютнай адзнакай 35 м над узроўнем мора. У сярэднім вышыня тэрыторыі Татарстана не перавышае 170 м над узроўнем мора.

У межах рэспублікі крышталічны фундамент размяшчаецца на вялікай глыбіні і усюды перакрыты магутнай тоўшчай асадачных парод агульнай таўшчынёй каля 2 тыс.м. Старажытныя тоўшчы залягаюць амаль гарызантальна і нідзе не выходзяць на паверхню. Самымі старажытнымі з асадачных парод з'яуляюцца дакембрыйскія адклады, затым ідуць слаі дэвонскага, каменнавугальнага і пермскага перыядаў палеазойскай эры, у паўднёва-заходніх раёнах — слаі юрскага і мелавога перыядаў мезазойскай эры. Вышэй размяшчаюцца рыхлыя адклады палеагенавага і неагенавага перыядаў кайназойскай эры. Сярод асадачных парод найбольш пашыраны пясчана-гліністыя утварэнні, вапнякі, даламіты, гіпсы і ангідрыды.

З такімі асаблівасцямі фарміравання будовы нетраў рэспублікі звязаны размешчаныя на яе тэрыторыі карысныя выкапні. Усе віды вядомых у ёй карысных выкапняў знаходзяцца у слаях асадачнага паходжання ( найбольш багата іх у слаях асадачных парод палеазойскай эры ). Сярод прыродных багаццяў Татарстана перш за усе вылучаецца нафта. Яе асноўныя радовішчы прымеркаваны да адкладаў дэвонскай і каменнавугальнай сістэм. Да найбольшых і вядомых радовішчаў належаць Рамашкінскае, Нова-Ялхоўскае, Першамайскае і Бандзюжскае, размешчаныя на поўдні і паўднёвым усходзе рэспублікі.

Хоць першае прамысловае радовішча нафты было адкрыта яшчэ у ліпені 1943 г., аднак рэгулярная здабыча вядзецца з верасня 1946 года. За увесь перыяд асваення нафтавых радовішчаў здабыча склала каля 2,6 млрд. т. Рэспубліка па-ранейшаму мае вялікія запасы нафты, значная частка якіх у выглядзе сярэдніх і дробных радовішчаў не асвоеных у гэты час. Паводле ацэнак, верагодны тэрмін поўнага вычарпання нафтавых запасаў рэспублікі складае 30 — 40 гадоў.

У апошнія гады аб'ём здабычы нафты складае у сярэднім каля 35 млн. т і штогод памяншаецца на 2 — 3 млн. т. Разам з нафтай здабываецца і прыродны газ. На асноўных радовішчах у сярэднім на 1 т нафты прыпадае каля 40 куб.м спадарожнага газу.

У Закамскіх раёнах ёсць добрыя магчымасці для здабычи прыродных бітумаў, разведаныя запасы якіх на тэрыторыі рэспублікі ацэньваюцца у 12,5 млрд. т. З іншых паліўна-энергетычных рэсурсаў Татарстан мае значныя запасы торфу, бурага вугалю і гаручых сланцаў. У рэспубліцы ёсць каля 800 тарфянікаў з агульнай плошчай больш за 35 тыс. га. На тэрыторыі усходніх раёнаў выяўлены даволі вялікія паклады бурага вугалю, але значная глыбіня залягання ускладняе іх прамысловую здабычу. У паўднёва-заходняй частцы Татарстана ёсць запасы гаручых сланцаў, якія у перспектыве могуць мець прамысловае значэнне.

У адкладах пермскай сістэмы залягаюць вялізныя тоўшчы вапнякоў, даламітаў, вялікія залежы гіпсоў і іншых асадачных парод, якія з"яўляюцца добрымі будаўнічымі матэрыяламі. Ёсць даволі вялікія запасы пясчана-жвіровых сумесяў ( 246 млн. куб. м ), цагельнай гліны ( 73,5 млн. куб. м ), гіпсу ( 72 млн. т ), вапнякоў і даламітаў ( 66 млн. т ), будаўнічага каменю ( 35,3 млн. куб. м ), бентанітавай гліны ( 24,3 млн. т ), гліны для вытворчасці керамзіту ( 14,9 млн. куб. м ), а таксама 45 млн. куб. м будаўнічага пяску. Акрамя гэтага, на тэрыторыі рэспублікі трапляюцца асобныя радовішчы фасфарытаў, мінеральных водаў, лекавых гразяў і некаторых відаў сыравіны для вытворчасці цэменту.

Клімат Татарстана умерана-кантынентальны, з цёплым, часта гарачым летам і умерана халоднай зімой. Сярэдняя тэмпература самага халоднага месяца ( студзеня ) — ад -13,5 на паўднёвым захадзе да -14,5 °C на паўночным усходзе Татарстана. Сярэдняя тэмпература самага цёплага месяца ( ліпеня ) ад +18,6 на поўначы да +20°C на поўдні. Сярэдняя гадавая тэмпература вагаецца ад +3,2 да +2,2°, паніжаючыся з паўднёвага захаду на паўночны усход.

Сярэднегадавая колькасць ападкаў 430 — 500 мм пры сярэднегадавой выпаральнасці 550 — 570 мм. Дзве трацінi колькасці ападкаў прыпадаюць на лета і восень і адна траціна — на зіму і першую палавіну вясны. Да неспрыяльных фактараў клімату можна аднесці нераўнамернае размеркаванне снегу па тэрыторыі зімой, познія веснавыя і раннія асеннія замаразкі, засухі і суховеі, якія губяць ураджай, нярэдка два-тры гады запар.

Воды Татарстана утвараюць рэкі, азёры і падземныя воды. Найбольшымі рэкамі з"яўляюцца Волга ( па-татарску Ідэл ), Кама і два прытокі Камы — Белая ( па-башкірску Агізель ) і Вятка. Агуль-

ны сцёк чатырох рэк за год складае 234 млрд. куб. м. Акрамя іх, па тэрыторыі Татарстана цякуць яшчэ каля 500 малых рэк даўжынёй больш за 10 км і шматлікія ручаі.

Вялікія запасы водных рэсурсаў рэспублікі засяроджаны ў двух яе найбольшых вадасховішчах — Куйбышаўскім і Ніжнекамскім. Акрамя гэтага, у Татарстане налічваецца больш за 8 тыс. невялікіх азёр і сажалак ( прудоў ). У нетрах знаходзяцца вялікія запасы падземных вод — ад моцна мінералізаваных да слабасаланаватых і прэсных.

Глебы рэспублікі даволі ўрадлівыя і разнастайныя. Амаль трэціна тэрыторыі занята чарназёмнымі глебамі. Яны пераважаюць у раёнах Перадволжа, на захадзе і ўсходзе Закам"я. Шэрыя і цёмна-шэрыя лясныя і слабападзолістыя глебы, якія займаюць амаль 38 % плошчы, пашыраны ў Перадкам"і, паўночных раёнах Перадволжа, на Паўночным-Усходзе і ў цэнтры Закам"я. У паўночных раёнах, а таксама па левабярэжжы Волгі і правабярэжжы Камы пераважаюць дзярнова-падзолістыя глебы. На іх прыпадае каля 17 % тэрыторыі. У далінах рэк трапляюцца алювіяльныя ( поплаўныя ) глебы.

Большая частка тэрыторыі Татарстана ўваходзіць у лясную зону, а паўднёвыя раёны ў лесастэпавай і стэпавай зоне. Большая частка тэрыторыі разарана. Пад лясамі толькі 16,4 % зямельных угоддзяў. У Перадкам"і лясы яловыя, піхтава-яловыя і мяшаныя. На берагах Волгі, Камы, Вяткі і некаторых іншых малых рэк хваёвыя ( сасновыя ) лясы. У Перадпаволжы і Закам"і асноўнымі з"яўляюцца шыракалістыя і бярозава-асінавыя лясы. У цэлым у складзе лясоў пераважаюць лісцевыя пароды ( амаль 83 % ), у тым ліку дуб ( 27 % ), ліпа ( 14 % ), бяроза ( 11 % ) і асіна ( 24 % ). З хваёвых парод пераважае сасна ( амаль 12 % плошчы лясоў ). Апрача лясоў на неразараных схілах узвышшаў у паўднёвых і паўднёва-усходніх раёнах зберагліся ўчасткі стэпаў, сухадольныя ( мурожныя ) лугі, а на мелкаводдзях вадасховішчаў і ў паўночных лясах трапляюцца балоты.

Жывёльны свет Татарстана утвараюць многія сотні відаў бесхрыбетных, 430 відаў хрыбетных. З іх найбольш тыповымі прадстаўнікамі з"яўляюцца млекакормячыя ліс, заяц, ваверка, лось, ёж, ласка, куніца, воўк. Шматлікія віды птушак, ёсць яшчаркі, змеі, жабы.

Вялікая роля ў захаванні і вывучэнні раслiннага і жывёльнага свету рэспублікі належыць Волжска-Камскаму запаведніку.

Іншыя раздзелы пра гісторыю, гаспадарку і культуру гл. у наступным нумарах "Байрама".

ШАПШАЛ Серая ( 20.5.1873, Бахчысарай — 18.2.1961, Вільня ), вучоны-арыенталіст, гісторык, філолаг, дыпламат, гахан ( выбарны глава караімаў ). Маці Акбіке рана памерла. Бацька Марк быў садоўнікам. З 8 гадоў Серая наведваў караімскую школу ў Бахчысараі, з 11 гадоў жыў у сям"і старэйшага брата ў Санкт-Пецярбургу. Спачатку вучыўся ў Охцінскай рамесніцкай школе, з 1886 г. у гімназіі. Канікулы праводзіў на радзіме, цікавіўся традыцыямі, рэлігіяй і гісторыяй караімскага народа. З 1894 г. студэнт Санкт-Пецярбургскага універсітэта. У 1899 г. на выдатна скончыў Усходні факультэт гэтага універсітэта па спецыяльнасці арабская, персідская і турэцкая мова, літаратура і гісторыя. Быў рэкамендаваны для падрыхтоўкі да прафесарскай працы пры кафедры турэцка-татарскай славеснасці.

Па просьбе персідскага ўрада стаў выкладчыкам і выхавацелем наследнага прынца — Мухамеда-Алі. Пасля таго, як яго вучань стаў шахам, Шапшал быў прызначаны саветнікам главы дзяржавы. За вялікія заслугі перад шахам Шапшалу быў нададзены чын і пасада генерал-ад"ютанта. У 1908 г. Шапшал вярнуўся ў Расію. У 1915 г. быў выбраны караімамі духоўным і свецкім главой — Таўрычаскім гаханам.

У цяжкія гады першай сусветнай і грамадзянскай войнаў С.Шапшал стварыў у Еўпаторыі караімскі гісторыка-этнаграфічны музей і нацыянальную бібліятэку "Карай-біціклігі", заснаваў на асабістыя сродкі прытулак для састарэлых караімак, выдаваў "Известия Караимского Духовного Правления".

У час грамадзянскай вайны ў Крыме С.Шапшал публічна асуджаў як чырвоны, так і белы тэрор. Цудам выратаваўшыся ад растрэлу, ён вымушаны быў пакінуць радзіму і тайна перабраўся ў Турцыю. У Стамбуле шмат працаваў, зарабляючы на хлеб, але вёў і навуковую працу, сустракаўся з віднымі вучонымі, дзяржаўнымі дзеячамі, прадстаўнікамі духавенства, чытаў лекцыі, апублікаваў кнігу "Крымскія караімы-цюркі" ( 1928 г., на турэцкай мове ) і іншыя працы.

У 1928 г. польска-літоўскія караімы выбралі С.Шапшала гаханам. Ён пераехаў у Вільню, дзе заняў ва універсітэце пасаду прафесара кафедры турэцкай мовы. У розны час чытаў лекцыі ва універсітэтах Кракава, Варшавы, Львова. У Вільні стварыў таварыства аматараў караімскай гісторыі, літаратуры і мовы, стварыў і перадаў дзяржаве Караімскі этнаграфічны музей.

У час другой сусветнай вайны С.Шапшал мужна абараняу і ратавау тых, каго праследавалі фашысты, хавау музейныя каштоунасці, збярог ад рабаунікоу найкаштоунейшую літаратуру.

С.Шапшал пастаянна падтрымлівау сувязь з родным краем, шматразова прыязджау у Крым, сустракауся з супляменнікамі, пакланяуся караімскім святыням.

С.Шапшал аутар больш за сотню навуковых прац. Сярод іх: "Караімы", "Ярлыкі і худжэты крымскіх ханау", "Адам Міцкевіч у гасцях у караімау", "Да питання аб тарханных ярлыках", "Чаму страцілі татары родную мову у Польшчы" ( "Рочнік татарскі", Вільня, 1935, Т.2 ). С.Шапшал -- асноуны аутар акадэмічнага "Караімска-руска-польскага слоуніка". Ён напісау таксама працы "Старажытнейшае насельніцтва Крыма", "Да пытання пра этнагенез караімау", "Хазары і іх мова", "Пра мову гуннау" і інш. Яго творы друкаваліся на рускай, турэцкай, польскай і іншых мовах.

---

ЦІКАВЫЯ КНІГІ ДЛЯ НАШЫХ ТАТАР

ИСТОРИЯ О ПРОРОКАХ. Книга первая.
ИСТОРИЯ ЖИЗНЕОПИСАНИЯ ПОСЛАННИКА АЛЛАХА. Книга вторая.
Складальнік кніг мусульманін Абдэль Хамід Джуда АЛ-САХХАР. Кнігі надрукаваны у Маскве у 1992 г. Выданне адбылося пры удзеле Асамблеі Ісламскай Моладзі.

ЗОЛОТАЯ ОРДА И ТАТАРЫ. ЧТО В ДУШЕ У НАРОДА. Аутар Равіль Фахрутдзінау. Кніга прысвечана 750-годдзю Залатой Арды. Надрукавана у 1993 г. у Набярэжных Чаунах.

КРЫМСКОТАТАРСКИЕ ИМЕНА. Аутар Энвер Азенбашлы. Надрукавана у горадзе Акъмесджит ( Сімферопаль ) у 1992 г. Каля 1000 імён !

БУКЕТ НАПИТКОВ ТАТАРСТАНА. Склалі Руслан Бушкоу і Фаціма Мазітава. Надрукавана у Казані у 1993 г. Наталяйце смагу !

ТАТАРСКИЙ ЯЗЫК. Самавучыцель. Аутар Флёра Сафіулліна. Кніга надрукавана у Казані у 1992 г. Толькі 48 урокау і кніга сама Вас навучыць! Спяшайцеся прыдбаць гэту кнігу !

ЛІСТ ПРЭЗІДЭНТУ

Шлю Вам гэтыя словы поўны удзячнасці за перажыванні, якія былі маім удзелам падчас сустрэчы з нашымі адзінаверцамі, з Вамі, з усім, што хвалявала і пакінула трывалы след у памяці.

Згуртаванне пад Вашым кіраўніцтвам ідзе па добраму шляху, узбагачае жыццё татараў новымі, каштоўнымі вартасцямі.

Хачу падкрэсліць, што калі ў чымсьці спатрэбіцца — карыстайцеся маёй асобай. Я, праўда, коратка знаходзіўся на Беларусі, аднак змог спазнаць грамадскі клімат жыцця Рэспублікі, дзякуючы таму, што гданьскія беларусы паслалі мяне сваім дэлегатам на першы з"езд беларусаў свету. Меў цікавыя размовы з удзельнікамі з"езда, вывучаю шматлікія публікацыі, звязаныя з гэтым з"ездам, якія забраў з сабою ў Польшчу.

Вельмі прыемна мне было бачыць, як рыхтаваліся нашыя дзеці да выезду ў мухайам, як Вы з Вашымі калегамі — членамі "Аль-Кітаба" шчыравалі, каб татарскія дзеці маглі па-мусульманску вучыцца і адпачыць.

Горача жадаю Вам асабіста і цэламу згуртаванню самых плённых поспехаў ва ўсім, што робіце ! Няхай наш Аллаг вас усіх сцеражэ !

З адданасцю Муса Канапацкі

Сопат, І жніўня 1993 г.

ДА ЛЮБЫХ МНЕ АДЗІНАКРОЎНЫХ БРАТОЎ І АДЗІНАВЕРЦАЎ

Мае шаноўныя, дарагія маладзенькія і малдыя супляменнікі і супляменніцы !

Звяртаюся да вас усіх гэтым лістом-пасланнем з нагоды адкрыцця другога мухайама мусульман Беларусі ў казачна прыгожай мясцовасці, якую з такой любасцю апяваў Янка Купала.

Перш за ўсе горача жадаю плённай вучобы, прасякнутай мусульманскім духам і татарскай салідарнасцю, добрага адпачынку. Мы, людзі старэйшых пакаленняў, глядзім на вас з вялікай надзеяй. Мы упэўнены, што ваша жыццё, вучоба, няспыннае дасканаленне дадуць добры плён.

З некаторымі з вас крыху размаўляў асабіста. Для мяне гэта былі надзвычай дарагія хвіліны. Хацелася пабыць з вамі даўжэй, але мяне чакаюць неадкладныя справы ў Польшчы, дзе я жыву.

Мае дарагія ! Маю да вас вялікую просьбу: ў вольны час вывучай-

це нашу мусульманскую татарскую спадчыну, слухайце, запамінайце і натуйце раскаэы вашых бацькоу, бабуль і дзядуль, старэйшых людзей аб іх жыцці. Крыху пазней дашлю вам апытальнік-анкету, як справу гэту рэалізаваць.

Няхай Аллаг спрыяе вам ва ўсіх вашых сямейных, школьных справах, няхай вам здаровіцца !

Іншалла, яшчэ пабачымся, можа летам 1994 года. Тады даўжэй пабудзем з вамі.

Кланяюся вашым настаўнікам, кланяюся арганізатарам мухайама. Вас усіх прыціскаю да сэрца і малюся, каб заўсёды вам шанцавала !

Няхай Аллаг будзе з вамі !

Менск, 20 ліпеня 1993 г. Муса Канапацкі

---

Рэдакцыя "Байрама" падае некаторыя звесткі пра аўтара вышэй на - друкаваных лістоў. Муса ( у польскай навуковай літаратуры вядомы як Мацей ) Канапацкі нарадзіўся у Вільні у сям"і татарына, беларускага патрыёта, палкоўніка рускай арміі, аднаго з арганізатараў беларускага войска Гасана Канапацкага. Муса Канапацкі працаваў у Беластоку, у рэдакцыі газеты "Ніва". Ён аўтар шматлікіх навуковых прац па гісторыі татар, па генеалагічных даследаваннях славутых людзей — ураджэнцах Польшчы, Беларусі, Літвы, Украіны, якія паходзяць ад татарскіх каранёў. Муса Канапацкі з"яўляецца актыўным стваральнікам энцыклапедычнага даведніка "Татары Беларусі, Літвы і Польшчы", прыцягвае да гэтай працы польскіх татар і палякаў, якія займаюцца татарскай праблематыкай.

У наступным нумары "Байрама" мяркуем надрукаваць артыкул пра бацьку Мусы Канапацкага — Гасана Канапацкага, ураджэнца Менска.

ПЕРШАЯ МУСУЛЬМАНСКАЯ АБШЧЫНА НА ВІЦЕБШЧЫНЕ

У праўленні Беларускага згуртавання татараў-мусульман "Аль-Кітаб" ведалі, што у Глыбокім ёсць татары, некаторыя з іх шчырыя мусульмане-вернікі, якія хочуць, каб адрадзілася наша святая вера і на Віцеб - шчыне. Дапамагчы глыбоцкім татарам у афармленні дакументаў для рэгістрацыі мусульманскай абшчыны былі накіраваны прадстаўнікі праўлен - ня "Аль-Кітаб" Ахмад і Ісмаіл.

Для сустрэчы з татарамі быў выбраны дзень, калі мусульмане збі - раюцца на мізары у Амброзавічах. Прыехалі татары з Глыбокага, Док - шыц, Пастаў, Маладзечна, Менска, з Літвы — з Немежа і Свянцян.

Дабіраліся рэйсавымі аўтобусамі, на сваіх машынах. Дзень выдаўся пагожы. Пасля ўпарадкавання магіл і дачы "саляма" памерлым, чытання суры Я-Сін з Кур"ана за ўсіх, пахаваных на мізары, усе присутныя сабраліся на паляну для гутаркі аб сучасным становішчы татар і будучым татар на Беларусі. Згадалі тут татары аб татарскай канферэнцыі, якая адбылася ў сакавіку ў Менску, аб утварэнні Беларускага згуртавання татараў-мусульман "Аль-Кітаб", пагаварылі аб будаўніцтве мячэцяў, аб квартальніку "Байрам". Татары выказалі падзяку аўтарам кнігі "Беларускія татары" С.Думіну і І.Канапацкаму, якія цікава расказалі нам хто мы і адкуль. Ісмаіл расказаў прысутным пра мусульманскую вучобу моладзі ў Менску і Іўі, пра праведзены і плануемы мусульманскі лагер вучобы і адпачынку, аб арганізацыі абшчын ( джаміятаў ) у цэлым па Беларусі і іншае.

Затым выказаў свае меркаванні па адраджэнні Ісламу і неабходнасці гэтага член праўлення "Аль-Кітаба" Ахмед. Людзі слухалі з вялікай цікавасцю, многае для іх было новым. Было выказана жаданне прымаць актыўны ўдзел ва ўсіх мерапрыемствах, што праводзіць Беларускае згуртаванне татараў-мусульман "Аль-Кітаб". Горача падтрымалі намер арганізацыі лагераў для моладзі, іх навучання арабскай мове, утварэння мусульманскай абшчыны ў Глыбокім і як найхутчэйшага яе афармлення.

Пасля абмеркавання кандыдатур у Раду абшчыны былі выбраны: Канапацкі Самуіл — старшыня Рады, Якаў Асановіч — намеснік старшыні, Аміня Асановіч — скарбнік і сябрамі Рады выбраны Давыд Канапацкі, Хасень Адамовіч, Таццяна Канапацкая, Зуліда Смольская, Сулейман Гембіцкі, Мустафа Якубоўскі, Шаміль Якубоўскі і Браніслаў Якубоўскі.

На наступны дзень, у нядзелю, усе неабходныя дакументы былі надрукаваны, сабраны подпісы заснавальнікаў абшчыны, а ў панядзелак 12 ліпеня разгледжаны ў намесніка старшыні Глыбоцкага райвыканкама спадаром Т.Д.Саулічам.

## КУРБАН-БАЙРАМ У КЛЕЦКУ

Згодна з раней дасягнутай дамовай для татар Клецка быў куплены для ахвяры гадавалы бычок. Грошы за бычка заплацілі нашы браты-мусульмане з арабскіх краін. На гэту рэдкую ў нашыя дні падзею з Менска прыехалі ў Клецк студэнты ісламскіх краін : Ахмад з Марока,

Ібрагім з Іарданіі і сябра праулення Беларускага згуртавання татарау-мусульман "Аль-Кітаб" Ісмаіл Александровіч — зямляк клецкіх татар.

На свята Курбан-Байрам да сваіх родных у Клецк прыехалі татары з Менска, Ляхавічау, Гомеля, Бабруйска, Узды, Баранавічау і іншых месц. У першы дзень Курбан-Байрама, І чэрвеня, у Клецку ішоу дождж і у сувязі з гэтым прышлося месца малебна перанесці з палянкі на мізары у хату імама Якуба Ждановіча. Хто хацеу і мог памаліцца — ажыццявілі свае жаданне і абавязак. А затым на аутобусе і на сваіх аутамабілях паехалі на мізар, дзе і была прынесена ахвяра па усіх правілах Ісламу.

На мізары народу сабралася вельмі многа, дождж спыніуся і нашы браты-мусульмане правялі вельмі цікавую, карысную для нас гутарку наконт веры, канонау Ісламу прынятых звычаях у іх краінах. За час, калі апрацоувалі мяса курбана, рыхтавалі яго для падзелу паміж мусульманамі, многія прыводзілі у парадак магілы сваіх родных і блізкіх, тэрыторыю мізара, давалі "салям" памерлым. Затым прысутным і для хворых і нямоглых выдалі кавалкі мяса ахвярнага курбана. А так як апошняга курбана у Клецку рэзалі да вайны, то гэтая падзея будзе доуга помніцца нашым мусульманам. Ад усіх была выказана шчырая падзяка братам-мусульманам з арабскіх краін за добры учынак. Спадзяемся, што і арабскім студэнтам было таксама цікава пазнаёміцца з "глыбінкай", якая знаходзіцца далёка ад іх радзімых месц, але дзе захаваліся астраукі народу, які вызнае Іслам і родны, і блізкі іх сэрцам. Можа так агульнымі намаганнямі і адродзіцца наша вера, наша культура, нашыя звычаі ?

---

Х А Д З І С

Міласэрнасць — калі вы ветліва дорыце усмешку брату свайму; міласэрнасць — калі вы заахвочваеце чалавека рабіць добрыя учынкі і стрымліваеце яго ад прыкрых спрау; міласэрнасць — калі вы паказалі шлях людзям, якія блукаюць, і калі вы дапамагаеце невідушчаму.

# ГАДЖЫНЯ ЗУХРА КРЫНІЦКАЯ

У квартальніку "Байрам" № 2 за 1992 г. у двух радках сказана: "Каля Ліды, у татарскай вёсцы Сандыкоушчына, дзяцей вучыла гаджыня Соф"я Крыніцкая".

Сапрауды, гэта так і было. Але мне, яе вучню, хочыцца больш сказаць пра гэту адукаваную, абаяльную жанчыну. Нарадзілася яна 4 сакавіка 1908 г. у фальварку Кругло Сакольскага павета на Беласточчыне. Бацька яе Якуб Халецкі, маці — Эмілія з дому Багушэвічау. Сям"я па тых часах лічылася не вельмі вялікая: бацькі, тры дзяучынкі і сынок. Мелі сваю зямлю, гаспадарку. Пачалася першая сусветная вайна. Прышлося бацькам пасадзіць на воз дзяцей, пакласці неабходныя рэчы і адправіцца у бежанства. Большасць літоускіх татар накіроувалі у Паволжа і Крым да супляменнікау. Халецкія знайшлі прытулак у Татарстане. Сямігадовай дзяучынкай Зухра ( у нашых мясцінах азаннае імя Зухра навакольнымі хрысціянамі перадаецца як Соф"я — заувага рэд. ) пайшла у школу, вучылася на татарскай мове, забаулялася з мясцовымі дзяучынкамі-татарачкамі.

Настау 1917 год — рэвалюцыя. У Татарстане устанавілася савецкая улада. Вучоба у школе працягвалася. Жыццё было цяжкое, а тут яшчэ захварэу бацька. Выручала сям"ю старэйшая сястра Стафанія, якая уладкавалася на працу у хлебную краму.

У 1920 годзе сям"я з хворым бацькам вярнулася на радзіму у фальварак Кругло. Сядзіба была разбурана і разрабавана, прышлося адбудоуваць. У 1921 годзе паміграе бацька і увесь цяжар утрымання сям"і прышоуся на маці.

У 1932 годзе Зухра узяла шлюб з Аляксандрам Крыніцкім і пераехала да яго у ваколіцу Сандыкоушчына, якая была менавіта татарскай і знаходзілася за 35 км ад Ліды. У Сандыкоушчыне было тады 12 хат, 30 дзяцей. Вучыліся дзеці у мястэчку Васілішкі. Жылі татары заможна. І як гэта было у татарскім звычаі, дзеці вывучалі не толькі прадметы па-польску, але і мусульманскую рэлігію. Урокі мусульманскай веры для дзяцей-татар дазвалялася весці у будынку школы у Васілішках. Настаунiцай па татарскай рэлігіі была хаджыня Соф"я Якубауна Крыніцкая. З Вільні, з муфтэята прысылалі у школу мусульманскія падручнікі, часопісы, у тым ліку і "Татарскае жыццё". У школе былі Кур"аны, Хамаілы, суфры, татарскія календары.

Настаў 1939 год. У Заходняй Беларусі, у тым ліку і ў Сандыкоўшчыне адбыліся вялікія змены. У школе дзеці сталі вучыцца па-беларуску і гэта было добра. Але рэлігію вывучаць у школе забаранілі, як хрысціянскую, так і мусульманскую. Але наша Соф"я Якубаўна знайшла выйсце — перанесла вучобу дзяцей у свой дом. За вялікім сталом сядзелі дзеці, дысцыпліна была выдатная. Калі ў 1941 годзе прыйшлі немцы, вучоба татарскіх дзяцей працягвалася.

Галоўным прадметам у пачатковай мусульманскай вучобе — гэта навука чытання Свяшчэннага Кур"ана ( не толькі словы, але і рытміка, мелодыя ). Мы, былыя вучні Соф"і Якубаўны, ад яе вывучылі мусульманскі алфавіт, на памяць вывучылі некаторыя суры з Кур"ана, малітвы з Хамаіла. У час нашых святаў — байрамаў маліліся на мізары, а калі ў каго-небудзь здаралася гора — паміраў чалавек, то маліліся за яго душу.

Наша гаджыня вучыла нас мусульманскім прынцыпам — быць працавітымі, пільнымі, дружнымі, уважлівымі, цярплівымі, не хаваць сваю веру ад другіх, а ганарыцца тым, што мы мусульмане.

Усімі добрымі якасцямі, якімі мы былі надораны ў дзяцінстве, мы абавязаны перш за ўсе нашай гаджыні, бо сваім праніклівым розумам, чуласцю, сваей любоўю да нас усіх яна ўмацавала веру ў нашу нацыю, а тасама вучыла нас з павагай адносіцца да людзей іншай веры: каталіцкай, праваслаўнай, габрэйскай.

У 1948 годзе гаджыня Крыніцкая пераехала ў Гродна. Але і тут, у яе невялікай кватэры, будучы ужо дарослымі, з сем"ямі, збіраліся мы ў госці да нашай любімай настаўніцы, адчуваючы яе цяпло, слухаючы яе разумныя парады.

У Беластоку імамам з"яўляецца яе родны брат Мустафа ( Аляксандр ) Халецкі, а малодшая сястра Мяр"ема ( Маня ) была таксама гаджыняй у Дамброве каля Беластока. У Гродне жыве яе адзіны сын Мустафа ( Аляксандр ), нявестка Эльджуня ( з дому Мурзічаў з Ляхавічаў ), унукі Бекір і Хасень ( Канстанцін ).

У 1983 годзе не стала нашай любімай Соф"і Якубаўны. Але памяць пра яе навечна захаваецца ў нашых сэрцах. Пахавана Зухра, дачка Эміліі і Якуба, на мізары ў татарскай вёсцы Сандыкоўшчына.

Няхай ей будзе рай светлы.

# В Е С Т К І  С У М Н Ы Я

2 красавіка 1993 г. на 61-м годзе жыцця, пасля цяжкай хваробы ў Гародні памерла Айша Крыніцкая, дачка Зінаіды і Аляксандра ( ён быў членам Найвышэйшай Мусульманскай Калегіі ў Польшчы ). Нарадзілася Айша ў Вільні, жыла ў ваколіцы Сандыкоўшчына каля Ліды, у Гародні. Пахавана на мізары ў Сандыкоўшчыне. Засталіся муж Аляксандр, дачка Вольга ( доктар ), унук Саша.

29 чэрвеня 1993 г. на 81-м годзе жыцця раптоўна ў Менску памерла Таццяна Несцяровіч, дачка Елізаветы ( была славутым доктарам у Менску ) і Мустафы Якубоўскага ( быў афіцэрам у рус - кім войску ). У час Вялікай Айчыннай вайны Таццяна была падпольшчыцай. Прымала актыўны ўдзел у "Аль-Кітаб". У пахаванні ўдзельнічалі мусульмане з Менска, краін Азіі і Афрыкі, хрысціяне -- сваякі, прыяцелькі памерлай. Пахавана на мізары ў Смілавічах. Засталіся дочкі Валя і Лена, чацвёра ўнучат.

31 ліпеня 1993 г. на 80-м годзе жыцця ў Менску памерла Фаціма Касімава. Нарадзілася ў Татарстане ў 1913 г. Бацька Ібрагім Касімаў. Пахавана на мізары ў Смілавічах. Жыла ў мусульманскай сям"і Мадзіны Лумпавай у Менску.

8 верасня 1993 г. на 62-м годзе жыцця памерла Фаціма Бойка, дачка Эміліі і Канстанціна. Нарадзілася ў Менску, у час Вялікай Айчыннай вайны кароткі час жыла ў радні ў Смілавічах, затым у Менску. Была сведкай жудасных падзей у час нямецка-фашысцкай акупацыі горада. Вучылася і працавала ў напаўгалодныя пасляваенныя гады. Шмат гадоў даглядала цяжка хворую маці, якая перажыла смерць дачкі Фацімы. Памерлая пахавана на мізары ў Смілавічах, побач з магілай бацькі і роднага брата — Гаруна.

У пахаванні Фацімы прынялі ўдзел члены згуртавання "Аль-Кітаб", актыўным членам якога была яна пры жыцці, мусульмане з краін Азіі і Афрыкі, родныя, сваякі, супрацоўнікі-калегі дачкі Дзіны з Беларускай гімназіі — С.Адзінцоў, А.Буй, Ю.Даўлетшын. Вялікі дзякуй адміністрацыі Політэхнічнага інстытута, дзе працавала Фаціма Бойка! на аўтобусе з добрым шаферам Г.Газубенкам родныя і блізкія праводзілі ў апошні шлях памерлую.

# БЕЛАРУСКА-КРЫМСКАТАТАРСКІ СЛОЎНІК

## 1100 слоў і сказаў ад дзядзькі Ісмаіла Меметава

| Беларускае слова | Крымскататарскае слова |
|---|---|
| робішча | япыла |
| рабіць | япмакъ |
| работа | иш |
| работнік | ишчи, эмекдар |
| рабочы ( наз. ) | ишчи |
| рад, рады | къуванам |
| рад, шэраг | сра |
| радасць | къуваныч, къуванмакъ |
| раён | район |
| раённы | районлы, райондан |
| раз ( прыслоўе ) | эгер |
| раз ( наз. ), адзін раз | бир, бир кере |
| разам | берабер |
| развіццё | инкишаф |
| размова | лаф, лахырды |
| разумець | анъламакъ, бильмекъ |
| райкам | райком, район комитети |
| рака | озен |
| рана | эрте |
| раней | башта, о заман |
| раніца | саба, сабах |
| раптам | шуарада |
| расказаць | айтмакъ |
| расказваць | айтмак, икаеэтмекъ |
| расці | осмек |
| рашэнне | харар |
| рог ( у жывёлы ) | бойныз |
| родны | догмыш, тоган |
| розны | чешит тюрлю |

| | |
|---|---|
| розум | акъыл |
| роля | роль, дубень |
| рост, высокі рост | бой, узун бойлы |
| рот | авуз |
| роўны | мусави |
| рубель, адзін рубель | рубль, кумуш, бир кумуш |
| рука | эль, къол |
| рускі | рус, русча |
| рух | арекет |
| ручка ( для пісьма ) | къалем |
| рыба | балыкъ |
| рэвалюцыя | инкъляб |
| рэспубліка | республика |
| рэч, гэтая рэч | шей, бу шейлер |
| рэчка | озен, озенчик |
| са, з ( з горада ) | ичинден ( андан ), шеерден |
| сабака | копек |
| сабрацца | топлашмакъ |
| сабраць | топламакъ |
| сава | пугу |
| савет | совет |
| савецкі | совет, советли |
| сад | бахча |
| сакратар | язиджы, секретарь |
| сала | ягъ |
| салдат | аскер |
| салома | тобан |
| сам | озум |
| самы высокі | энъ юксек |
| сапрауды | керчек, догъры |
| сапраудны | керчек |
| сарока | савускъан |
| саугас | совхоз |
| сацыялістычны | социалистик |
| саюз | бирлик |
| свет | дунья |
| свіння | домуз |
| свой | меним |

| | |
|---|---|
| свята | байрам |
| святы | мукъаддес, мирабек |
| сельскі | койли |
| селянін | койли |
| сем | еди |
| семдзесят | етмиш |
| сена | пчен |
| сеці | отурмакъ |
| сеяць | сачмакъ |
| селета | бу йыл |
| сення | бу гунь |
| сівы, сівая галава | чал, чал баш |
| сіла | къувет |
| сіні | кок |
| сістэма | систематик |
| сказаць | айтмакъ, сойлемек |
| скакаць | секирмек, атламакъ |
| слава, слаўны | шан, шанлы |
| след, сачыць | нз, изламакъ |
| слова | соз, сюз |
| служба, вайсковая служба | хызмет, арфий хызмет |
| служыць | хызмет этмек |
| слухаць | диньлемек |
| сляза | коз-яш |
| смерць | олюм |
| смяяцца | кульмек |
| снег | къар |
| сон | юкъу |
| сонейка | кунешчик |
| сонца | кунеш |
| сорак | къыркъ |
| спаборніцтва | ярышув, курешмек |
| спадабацца | бегенильмек |
| спакойна, мірна | яваш, маабет |
| спаць | юкъламакъ |
| спачатку | башында, башта |
| спецыяліст | санаатчы |
| спіна | аркъа |

| | |
|---|---|
| справа | онъ да, анъ тарафта |
| спыніцца | токътамакъ |
| спытаць | сорамакъ |
| спяваць | йырламакъ |
| сродак | васта |
| СССР | СССР |
| станавіцца | олмакъ |
| становішча | вазиет |
| станцыя | станция |
| старацца | трышмакъ |
| старшыня | реис |
| стары | къарт |
| старэйшы | акъ сакъал |
| стаць | турмакъ |
| стаяць | аякъ устюнде тирмакъ |
| стварэнне | догъурмакъ, къурмакъ |
| створаны | япылгъан, къурулгъан |
| сто | юз |
| стол | курси, стол |
| столькі | о къадар |
| сувязь | багълама |
| суд | магкеме |
| супрацоўніцтва | бирлик, достлыкъ |
| супраць | къаршы |
| сусветны | бутунь дунья |
| сусед | къомшы |
| сустрэць | къаршыламакъ |
| сустрэча | корюшув |
| сухі | къуры |
| сучасны | шимдики вакъытта |
| сход | топлашув |
| сцяна | дувар, дивар |
| сын | огълум, огълы |
| сынок | огълум |
| сэрца | юрекъ |
| сюды | мнда |

| | |
|---|---|
| сябр | дост |
| сабе, сябе | озюме |
| сядзець | отур макъ |
| сяло | кой |
| сям"я | хоранда |
| сярод | ичинде, ортасында |
| сярэдні | орта |
| сястра ( малодшая ) | къыз къардашым |
| сястра ( старэйшая ) | татам |

Прыгажэйшае — даражэйшае, а што таннае, тое заганнае.
Палы олса къавидир, уджуз олса чурюктюр.

Хто у бядзе не быу, той праудзівых прыяцеляу не ведае.
Достлар белягъа огърагъанда блинир.

Каб чалавек ведау, дзе спатыкнецца, дык абышоу бы тое месца.
Йыкъыладжагъымы бильген олсам, йымшакъ ястыкъ тошер эдим.

Хто зашмат жадае, той нічога не мае.
Эки къоянны артындан, чансанъ — ич бирини тутамазсынъ.

Калі кажуць "не", то хочыцца удвайне.
Сакълангъан емиш незатлы ола.

Смачная кашка, ды зарабіць цяжка.
Истейм ама пек санчи.

Ружа прыгожая, але парасткі з шыпамі.
Гули пек дульбер ама сапы пек ткепекли.

Які род, такі і плод
Урлугъы насыл олса, несилиде шай олур.
Бабасы насыл олса, огълыда шайдыр.

Хто п"е, той доуга не жыве.
Шарап севген — озюни омурини къыскъартыр.

---

Беларускія прыказкі і прымаукі запазычаны з кнігі З.Ф.Санько "Малы руска-беларускі слоунік. прыказак, прымавак і фразем".

# ВЕРШЫ

* * *

Святла нясмелыя дотыкі
Да твару соннай зямлі
У змову снегу і ветру
Па досвітку перайшлі.

Справы свае адрыну,
Тугу асабістую ўспомню ...
Слёзы бяросты імклівыя
Пасвецяць у бязмежнасць промнем.

І ўсцяж цяпло разліецца,
Бы ў сне каляровым, бясконцым,
Дзе ўсё, бы палын забываюць,
А ўспамінаюць, бы сонца.

* * *

Нядоўга хварэць мне душою,
Пайду на спатканне з морам
І сэрца свае заспакою
Святлом недасяжных зорак.

І у іх мігатлівых адбітках
У таямнічай вадзе
Душа мая будзе адкрыта,
Бадай, як ніколі й нідзе.

І тыя, што следам узнікнуць,
Ад нечаканасці ўскрыкнуць...
Там буду я — поўны і цэлы,
Праўда, без тулава-цела.

* * * 

Калі згарэлых дзён я попел варушу
Прутом жалезным роздуму-адчаю
А побач любы гёс, што за мяжу
Свядомасці мяне не адпускае,

Я кожнай іскры рад, што мне нясе цяпло,
Бы адкрыццю ці бы цудоўнай з"яве,
І дух свабодны мой не абцяжарыць зло
І больш ніякай не аддам сябе праяве.

Ластаўцы

Пэўна, неба цябе не разлюбіць,
Бо ты уся — бы зіхоткі дзень,
Да вады твой гарэзлівы дзюблік
Датыкае уласны твой цень.

Мы б пазналі адзін аднога,
Ды табе ж да вышынь уздымацца,
Мне ж сачыць за тваімі крыламі
І чамусьці зямлі трымацца.

---

Дэлегат ад беларускіх татар на 2-гі курултай крымскататарскага народа І.Канапацкі пазнаёміўся ў Сімферопалі з цікавымі людзьмі. Вельмі спадабаўся яму крымскататарскі паэт Уладзімір Чабан-задэ. Нарадзіўся Уладзімір у Тбілісі ў 1947 г. Яго вершы друкаваліся у маскоўскіх часопісах, вядомы пераклады на румынскай і удмурцкай мовах. Шмат чаго давялося пабачыць гэтаму чалавеку на сваім вяку. Душа паэта прагне нечага большага, чым матэрыяльныя даброты. "Хацеў бы быць у краіне, дзе не вядзецца вайна" — сказаў ён на развітанне Ібрагіму і надпісаў яму нізку сваіх апошніх вершаў.

Рэдакцыя "Байрама" пазнаёміла з гэтымі вершамі нашага даўняга сябра — Яўгена Гучка. Некаторыя вершы яму спадабаліся і ён пераклаў іх на беларускую мову. Мы ад імя чытачоў "Байрама" удзячны Яўгену Сяргеевічу за шчодры дар. Уладзіміру Чабан-задэ і Яўгену Гучку жадаем творчых поспехаў.

## БУДЗЬМА ВУЧЫЦЬ НА ПАМЯЦЬ !

У гэтым нумары "Байрама" друкуем верш па-арабску і па-татарску, а на беларускай мове гэты верш з дзяцінства ведае кожны беларускі татарын. Паспрабуйма вывучыць на памяць гэты цудоўны верш ! Татарын ці татарка атрымае залік, нават калі верш вывучыць сын, дачка, зяць, нявестка, абс толькі унук ці унучка.

## من هم السائرون؟

تُرَى مَنْ هؤلاء الْمُدْلِجُونَ السائرون
حُشوداً في الْمَدَى يتدفّقون؟
— جموعُ البيلاروسيين
قد انتعلوا من الالياف خُفّاً ليس يُجْدِيهِمْ
بما ناءتْ كواهلُهم؟ وما حملُوا بأيديهِمْ؟
— عذاب البائسين
إلى أين بِحِمْلِ عذابِهم يَمْضُونْ؟
على مَنْ بُؤْسَهُمْ هم يَعْرِضُونْ؟
— على كُلِّ بِقاعِ العالَمِينْ
ملايينٌ من الناسِ التعساءِ المساكينْ
فَمَنْ عَلَّمَهُمْ أن يُعلنوا السُّخْطَ الدفينَ مع الأَنِين؟
— مُعَلِّمُهم هو الفقرُ وبؤسُ الضائعين
حشودُ الصُّمِّ والبُكْمِ أولئك يا تُرَى ما يبتغون؟
وقد عاشوا مرامىً لاحتقار الغيرِ آمادَ القرون
— بأنْ يُدْعَوْا أُناساً!

# КЕМ КИЛӘ АНДА?

Кем килә анда, кем килә анда,
Ташкындай тулып кырга, урманга?
— Белоруслар.

Сөялле куллар, ябык җилкәләр,
Йөк итеп артып нәрсә илтәләр?
— Хаксызлыкны.

Кая илтәләр хаксызлыкларны,
Кемгә күрсәтмәк булалар аны?
— Бар дөньяга.

Кем ул миллионлап йөрәкне яккан,
Хакны якларга илне уяткан?
— Михнәт, кайгы.

Ә хәзер нәрсә кирәк аларга—
Сукыр да чукрак бичараларга?
— Кеше булу.

АРАБСКАЯ МОВА. *Пераклаў Абдурахман аль-Хамісі*

ТАТАРСКАЯ МОВА. *Пераклаў Нуры Арсланаў*

## ИСКЕ КАРА УРМАН — ГЛУХІ ЦЁМНЫ ЛЕС

Татар халык жиры — татарская народная песня

Ка-ра да гы- най ур- ман ка-ран-гы
тон ях-шы ат-лар ки-рак лэ у- тар
га Ка-рур-ман-ны чык-кан чак-та кош-лар сай-ра ган чак-та
Ай, бик я- ман-су шул чак-та

Кара да гыний урман, караңгы төн,
Яхшы атлар кирэк лэ утарга
Карурманны чыккан чакта,
Кошлар сайраган чакта —
Ай.. бик ямансу шул чакта.

Заманалар авыр, еллар яблк,
Дус-иш кирэк гомер итэрга
Карурманны чыккан чакта
-Кичеп алдым лар каен,
Ай, аерылмыйк, дускаем.

Непраглядная ноч, глухі цёмны лес. Трэба мець надзейнага каня, каб рашыцца ехаць цераз лясныя нетры. Як моташна на душы, калі вухкае пугач.

Цяжкая настала пара ў жыцці. Патрэбен верны блізкі чалавек, каб перажыць гэту пару. І давай жа ніколі не будзем паасобку.

Напамінаць мне аб гэтым будзе галінка бярозкі, якую я адламаў у тым лесе ...

# З ТАТАРСКАЙ КУХНІ

## Як спажываць ягады каліны

( з кнігі Р.Бушкова і Ф.Мазітава. Букет напіткаў з Татарстана )
Казань, 1993

Каліна ( па-татарску б а л а н ) расце па ўскрайках лясоў, па берагах рэк, азёр, каля яроў. Збіраюць ягады ў час поўнай спеласці, у сухое надвор"е, зразаючы разам з пладаножкамі.

Каліна гаркавая на смак, але прымарожаная траціць частку гаркаты. Багатая на вітаміны, цукры, арганічныя кіслоты, дубільныя і іншыя карысныя рэчывы. Устаноўлена, што каліна здольна стымуляваць сардэчную дзейнасць і павялічваць дыурэз.

Н а с т о й з к а л і н ы . Сухія ягады расціраюць у ступцы і па 1 сталовай лыжцы на шклянку заліваюць кіпнем. Настойваюць 4 гадзіны.

Н а п і т а к з к а л і н ы . 1-ы с п о с а б . Перабраную каліну прамыць у зімнай вадзе, пакласці ў глыбокі посуд, расцерці, уліць туды сіроп з цукру і паставіць на агонь. Давесці да кіпення, але не кіпяціць. Па густу дадаць лімоннай кіслаты. Напітак астудзіць і працадзіць.

На 1 л вады 200 — 250 г каліны, 150 г цукру.

2 - і с п о с а б . Каліну перабраць і здрабніць ( можна перапусціць цераз мясарубку ), заліць астуджаным кіпнем і даць настаяцца на працягу 12 гадзін. Напітак перацадзіць і дадаць цукру.

На 1 л напітку — 2 шклянкі каліны, 3 сталовыя лыжкі цукру.

К а л і н а в ы с о к . Ягады перабраць і прамыць, затым пакласці ў каструлю, заліць вадой з разліку 1 шклянка вады на 2 кг ягад, паставіць на агонь і давесці да кіпення, але не кіпяціць. Зняць з агню, астудзіць, з ягад выціснуць сок цераз марлю, працадзіць.

Для нарыхтоўкі соку ў запас трэба яго зноў нагрэць да кіпення і разліць у слоікі ці бутэлькі, пастэрызаваць на працягу 15 — 20 хвілін, пасля чаго герметычна закаркаваць.

На 1 л соку — 2 кг ягадаў каліны, 1 шклянку вады.

З М Е С Т